*Прысвячаю памяці сяброў майго дзяцінства*
*Моту Бернштэйну і Мішу Перчыку –*
*ахвярам Халакосту*

## Ад аўтара

Сучасная Рэспубліка Беларусь, як і яе папярэдніца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, – гэта аднанацыянальная дзяржава, бо гістарычную, этнічную тэрыторыю тут маюць толькі беларусы. Да таго ж яны яшчэ з'яўляюцца і тытульным народам. Што да мясцовых рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, татараў … – гэта нацыянальныя меншыні, этнічныя групы, дыяспара. За выключэннем татараў, ва ўсіх іх ёсць уласныя метраполіі са сваім карэнным, тытульным народам, якія па магчымасці дбаюць пра сваю дыяспару незалежна ад яе месца пражывання.

Беларусь, будучы краінай аднанацыянальнай, усё ж культуру і раней, і зараз мае шматнацыянальную, таму што кожная этнічная група па магчымасці імкнецца развівацца ў духу сваіх уласных традыцый, ратуе сябе ад празмернага чужога ўплыву, каб не стаць ахвярай асіміляцыі. Адным гэта ўдаецца ў большай, другім – у меншай ступені. Ніякіх праблем з гэтым не мае толькі руская нацыянальная меншыня. Больш за тое, з-за працяглай прарускай накіравана сці дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры (у поўнай меры гэта датычыць і кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь) руская культура ўжо даўно запанавала ў нашай краіне, пацісnуўшы на задні план нават яе нацыянальную. Акрамя мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі, такая сапраўдная катастрофа для беларускай нацыянальнай культуры была выклікана яшчэ і тым, што з яе нівы па самых розных прычынах, часцей за ўсё чыста кар'ерысцкіх, прагматычных, сышлі многія таленавітыя асобы з ліку карэннага насельніцтва і сталі працаваць на карысць рускай культуры, што не магло прывесці ні да якага іншага выніку, як толькі да дэфармацыі, размыву этнічных асноў духоўнага жыцця карэннага насельніцтва нашай зямлі.

Ва ўмовах такога русіфікатарскага націску практычна зусім не магчымым было захаваць сваю культурную адметнасць нацыянальным мяншыням Беларусі. Нават традыцыйна самая непадатлівая з іх рускаму ўплыву – польская ў складзе ледзь не ўсіх сваіх творцаў, інэлектуалаў больш прыярытэтным для сябе лічыла ў савецкі час працаваць у рэчышчы рускай, чым беларускай культуры. Такой арыентацыі пераважна трымалася і творчая інтэлігенцыя яшчэ адной славянскай нацыянальнай мяншыні Беларусі – ўкраінская не ў малой ступені таму, што і на тэрыторыі яе метраполіі з году ў год узмацнялася роля рускага фактару ў сферы культуры.

З тэарэтычнага пункту гледжання нібыта не мелася сур'ёзных падстаў баяцца дэфармацыі этнічных асноў здаўна ўжо багатай у нашым краі яўрэйскай культуры. Якніяк яна ж, у адрозненне ад усіх славянскіх, нічога агульнага не мае з рускай культурай, таму і размовы не можа быць пра нейкія там інтэграцыйныя працэсы паміж імі. На справе яны сталі ўжо добра прыкметнымі і ў XIX стагоддзі, калі таленавітыя ў тым ці ішым жанры культуры і мастацтва яўрэі пераканаліся, што на чужым (рускім) полі можна сабраць куды больш багаты ўраджай, чым на ўласным. Царскія ўлады асабліва не перашкаджалі эміграцыі творцаў з яўрэйскай культуры ў рускую, бо, будучы добра навучанымі сваімі ідэолагамі, мелі цвёрдае перакананне, што з дапамогай рускай культуры змогуць пераплавіць у рускіх усё шматлікае насельніцтва царскай імперыі, у тым ліку і саміх яўрэяў. Такое падзялялі нават многія з тых, каго мы залічваем у разрад прагрэсіўных рускіх грамадска-палітычных, культурных дзеячоў. Падчас Кастрычніцкага перавароту 1917 года, утварэння ў студзені 1919 года Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі ўжо зусім нярэдкай з'явай было сустрэць і на нашай зямлі даволі ўплывовых, актыўных носьбітаў рускай культуры з ліку мясцовых яўрэяў. Іх шэрагі не толькі не звузіліся, а, наадварот, пашырыліся ў Беларусі міжваеннага перыяду, галоўным чынам дзякуючы таму, што ў Маскоўскім крамлі прыйшлі да вельмі шкоднай паводле сваіх наступстваў

высновы: у інтарэсах светлага камуністычнага будучага найбольш мэтазгодна і ў саюзных рэспубліках прыярытэт надаваць не нацыянальнай, а рускай культуры з яе, заяўлялася, найбагацейшым патэнцыялам па фармаванні новага чалавека, здольнага жыць і працаваць у камуністычным грамадстве. Хто не падзяляў крамлёўскага погляду, як правіла, станавіўся ахвярай масавых фізічных рэпрэсій 30-х гадоў. Гэта адзін з істотных фактараў змяншэння ліку яўрэйскіх творцаў на сваёй уласнай і беларускай культурных нівах, росту іх колькасці – на рускай.

Адзначаная вышэй з'ява паўтарылася ў пасляваенны перыяд і не закончылася ў нашы дні. Праўда, адбываецца яна ва ўмовах рэзкага скарачэння колькасці яўрэйскай нацыянальнай меншыні, таму яна проста не ў стане істотна паўплываць на ход развіцця ні ўласнай, ні рускай, ні беларускай культур і невядома, ці яшчэ калі-небудзь удасца ёй такое.

Яўрэйская куьтура Беларусі, знаходзячыся на такой вялікай адлегласці ад сваёй гістарычнай тэрыторыі, стала зведваючы на сабе далёка не пазітыўныя ўплывы з боку польскай і рускай культур (беларускую смела можна не браць пад увагу), тым не менш на працягу не аднаго стагоддзя была на ўзроўні патрабаванняў часу, вызначалася сваім дынамічным развіццём. Больш за тое, самыя адораныя прадстаўнікі яўрэйскай творчай інтэлігенцыі Беларусі пакінулі добрыя набыткі і далёка за яе межамі. Таленавітых у многіх жанрах культуры, і асабліва ў выяўленчым мастацтве, прываблівала да сябе Францыя, галоўным чынам Парыж, дзякуючы магчымасці павысіць тут свае тэарэтычныя веды, узбагаціць прафесійнае майстэрства ці ўвогуле застацца на сталае жыццё ў гэтым найпрыгажэйшым еўрапейскім горадзе. Калі ж у культурным жыцці беларускіх яўрэяў і назіраліся сур'ёзныя збоі, дык на гэта заўжды меліся важкія прычыны, да прыкладу, масавыя фізічныя рэпрэсіі 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

У моц самых розных прычын яўрэям Беларусі даводзілася развіваць не толькі сваю ўласную культуру, а штосьці ў гэтым плане рабіць дзеля беларускай, польскай,

рускай культур, паколькі жылі на тэрыторыі іх распаўсюджвання. У многіх дачыненнях глыбокі, адметны след яўрэі Беларусі пакінулі ў розных кутках Расійскай імперыі. Таму і дзіўна, і неапраўдана, што і ў савецкай, і ў сучаснай літаратуры па культуры Беларусі ці зусім абыходзіцца яўрэйскі аспект, ці надаецца яму незаслужана малая ўвага. Калі такое ў большай ці меншай ступені можна дараваць савецкім аўтарам, паколькі ў той час з'яўлялася нямодным выдзяляць нацыянальны фактар у працах па культуры, дык пасля абвяшчэння палітычнай незалежнасці Беларусі такога падыходу ніяк нельга апраўдаць. У працах па гісторыі культуры Беларусі проста ў абавязковым парадку павінны прысутнічаць матэрыялы не толькі па яе нацыянальнай культуры, але і па ўкраінскай, польскай, літоўскай, яўрэйскай, татарскай, а што датычыць больш позняга часу (XIX – пачатак XXI ст.), дык па рускай, бо на нашай зямлі яна нарабіла шмат чаго такога, што паўстала рубам пытанне пра выратаванне ад канчатковай культурна-моўнай русіфікацыі нават тытульнага народа, народа, які спрадвеку жыве на сваёй тэрыторыі. Адводзячы выключна важную ролю нацыянальнаму фактару ў правядзенні даследаванняў па гісторыі культуры Беларусі, аўтар, належачы да яе карэннага насельніцтва, свядома выбраў яўрэйскі спектр, паколькі ён усё яшчэ застаецца як след не вывучаным, а з такім становішчам ніяк нельга мірыцца, калі мы жадаем мець поўнае, аб'ектыўнае ўяўленне пра мінулае і сучаснае культуры Беларусі ўвогуле. Дарэчы, меркаванні наконт навуковай мэтазгоднасці разглядаць яўрэйскую культуру ў кантэксце з усім духоўным жыццём Беларусі сяды-тады выказваліся ў нас, толькі ніякія практычныя крокі не рабіліся ў дадзеным напрамку. Відаць, не ўсе даследчыкі культуры Беларусі ведаюць, як сур'ёзна глядзелі на гэтую праблему ў час міжваеннай беларусізацыі, прычым не толькі іх папярэднікі, але і тагачасныя буйныя дзяржаўныя дзеячы, у прыватнасці старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў. Гэта яму належаць такія праўдзівыя словы: ,,яўрэйская і беларуская культуры настолькі перапляліся паміж сабою, што вывучэнне адной немагчыма

без вывучэння другой”. На жаль, да гэтай слушнай парады палітыка навукоўцы – хутчэй за ўсё не па сваёй віне – не прыслухаліся, і ніхто з іх належным чынам не вывучаў мясцовую яўрэйскую культуру паасобку ці як складовую частку культуры Беларусі. Карысці ад гэтага не атрымалі ні яўрэі, ні беларусы. Даследаваць, асвятляць яўрэйскую культуру нам неабходна яшчэ і таму, што многія яе здабыткі не затрымаліся на месцы стварэння, а далёка выйшлі і за межы беларускага абшару.

Брацца на ўсім сур’ёзе за даследаванне культуры яўрэяў Беларусі, як і ўсіх яе астатніх меншыняў, абавязвае надзвычай складанае сучаснае становішча, акрамя рускай, у плане захавання імі сваёй адметнасці, самабытнасці. Мала каго з знатакоў ці аматараў культуры не толькі яўрэйскай, а і іншых не закрануць да глыбіні душы такія словы Якава Басіна: “Сёння, калі ў рэспубліцы ўжо амаль ніхто не гаворыць і не думае на ідышы, застаецца толькі шкадаваць аб гібелі вялікай, узгадаванай вякамі ідышысцкай культуры, у аснове якой ляжала мова, што знаходзіцца цяпер у Еўропе на мяжы поўнага знікнення”. Пад моцным уражаннем гэтых кранальных слоў я, як беларус, станаўлюся яшчэ больш заклапочаным гаротным станам і нацыянальнай культуры свайго народа, страшэнна баюся, што яе немінуча напаткае злавесны лёс ідышысцкай культуры. Трохі спакайней на душы хоць ад таго, што апошняя практычна загінула не па віне нацыянальнай беларускай, а рускай культуры. Віны беларускамоўных палітыкаў, інтэлігенцыі ні на грош няма ў амаль поўным заняпадзе ідышысцкай культуры. Яе звялі на той свет рускамоўны чыноўніцкі апарат і падобная да яго па мове элітарная частка насельніцтва Беларусі, усяляк падтрыманыя Масквою. У пасляваенны перыяд такая частка насельніцтва ў значнай ступені папаўнялася – што не зусім апраўдана – і самімі яўрэямі, што непазбежна вяло да ўзнікнення памылак у правільнасці вызначэння імі сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, а не дык яшчэ і да свядомага ігнаравання ёю. Думаю, не памылюся, калі скажу, што з дзесяці ўцекачоў з яўрэйскай этнічнай супольнасці не больш за аднаго заяўляе пра сваю прыналежнасць да беларускай

нацыі, а ўсе астатнія дзевяць у вялікую падзяку Маскве і мясцовым уладам за масавы ахоп іх рускай культурна-моўнай асіміляцыяй лічаць сябе рускімі. Сур'ёзных прэтэнзій нельга мець да такой катэгорыі ўцекачоў, бо яны ж, як і ўсё насельніцтва Беларусі, знаходзяцца ў палоне рускай культурна-моўнай стыхіі. Калі яна, скажам, не характэрная Літве, Латвіі, Арменіі, Грузіі і бальшыні іншых краін постсавецкай прасторы, дык там яўрэй, пакідаючы свой народ, хутчэй залічыць сябе ў прадстаўнікі адпаведнай тытульнай нацыі згаданых дзяржаў, чым назавецца рускім, бо ў іх з кожным годам усё цяжэй і цяжэй сцвярджацца ў рускім культурна-моўным фармаце. Калі такое стане нормай і для Беларусі, наўрад ці і самому Богу вядома. Не хацелася б псаваць настрой чытача, але ж нельга і ўтойваць ад яго чыстую праўду: калі кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь не спыніцца праводзіць мэтанакіраваную палітыку русіфікацыі, яна праглыне не толькі тытульную нацыю (а гэта галоўнае ў дзейнасці асімілятараў), а і ўсе нярускія этнічныя супольнасці, што жывуць на яе тэрыторыі. У яўрэяў гарантыі выратавацца ад гэтай злыбеды наўрад ці больш, як ва ўкраінцаў, палякаў, татараў, малдаван, азербайджанцаў і ўсіх астатніх нацыянальных меншыняў нашай краіны.

Наперад прадбачу, што мая праца з-за неваладання яе аўтарам мовамі ідыш і іўрыт, якія якраз і ляжаць у аснове развіцця яўрэйскай культуры ў Беларусі, адразу ж стане аб'ектам сур'ёзнай крытыкі з боку непараўнальна лепш за мяне прафесійна падрыхтаваных даследчыкаў. Такое мяне нікольки не пужае, бо ўпэўнены, што ўсе хібы майго навукова-папулярнага нарыса па гісторыі яўрэйскай культуры Беларусі мо, як ніштo іншае, станоўча паўплываюць на актывізацыю правядзення сур'ёзных даследаванняў па дадзенай праблеме. А гэтага яна заслугоўвае. Шчыра радуюся, што да яе так ставіцца ўсё большае кола людзей, не абыякавых да ўсебаковага і глыбокага асвятлення культурнай разнастайнасці нашага роднага краю – дарагой Бацькаўшчыны не толькі для беларусаў, але і для аселых тут здаўна яўрэяў. Цалкам пагаджаюся са зместам наступных слоў публіцыста Дзяніса Марціновіча: "Яўрэі разам з іншымі

народамі, што жылі ў Беларусі, зрабілі вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры. Без даследавання іх спадчыны нашы веды пра родны край будуць няпоўныя”.[1] У правядзенні такіх даследаванняў, мяркую, павінны быць у аднолькавай ступені зацікаўленымі як мясцовыя яўрэі, так і беларусы. Дармо, што сёння першых так мала ў агульнай яўрэйскай супольнасці свету, якая налічвае каля 16 млн. чалавек: з іх у ЗША жывуць прыкладна 5,5 млн., у Ізраілі – 5 млн., у Еўропе – 2 млн., у краінах Лацінскай Амерыкі – 1 млн., у Канадзе – 300 тыс. Уклад таго ці іншага народа ў цэлым альбо толькі якой-небудзь часткі яго ў сусветную культуру ніколі не вызначаўся і зараз не вызначаецца колькасным фактарам. Здараецца ж і такое, што часам геній-адзіночка ўносіць у навуку, культуру ўклад, не пасільны часам мільёну, а то і большай колькасці яго супляменнікаў. Не будзем забывацца і на тое, што сучасная мізэрная колькасць яўрэяў Беларусі была характэрна ёй толькі на першым этапе знаходжання ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. У канцы ж XIX стагоддзя у пяці беларускіх губернях царскай Расіі іх налічвалася звыш мільёна. А гэта ўжо такая колькасць людзей, ад якой можна чкакаць самых значных дасягненняў і ў такой важнай сферы дзейнасці чалавека, як культура. Думаецца, у гэтым пераканаецца бальшыня чытачоў пасля азнаямлення са зместам маёй кнігі.

*Аўтар выказвае вялікую падзяку Надзеі Сармант за бясплатны набор на кампутар рукапісу яго кнігі, якую выдаў за ўласны кошт.*

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 11 лістапада. С. 21.

## 1. Шляхі прывялі ў Вялікае Княства Літоўскае

Ва ўсе часы гісторыі Беларусі яе тэрыторыя з'яўлялася арэолам развіцця, распаўсюджвання культуры не толькі туземнага, але і прышлага насельніцтва. Даволі рана – ужо ў канцы XIV стагоддзя[1] – заявіла тут пра сябе адна з самых старажытных у свеце культур – яўрэйская. Паколькі яе носьбіты прыйшлі на тэрыторыю нашай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага не з Ізраіля, а з еўрапейскіх краін, пераважна з Германіі і Кароны Польскай, у тагачаснай яўрэйскай культуры не маглі не назірацца і еўрапейскія ўплывы, г.зн. больш блізкія і занаёмыя мясцовым жыхарам. І ўсё ж для апошніх яна была выключна чужой, незнаёмай, што, аднак, не з'яўлялася прычынай канфліктаў паміж туземным і прышлым з іншых краін насельніцтвам. Калі яны (канфлікты) зрэдку і мелі месца, дык толькі не з-за адрозненняў у культуры.

Па прыбыцці на новае месца ў яўрэяў, натуральна, узнікала патрэба ў рознага роду кантактах з тубыльцамі. Датычыла гэта і сферы культуры. Калі апошнія не маглі ў чымсьці паўплываць на духоўнае жыццё яўрэяў, дык гэта ніяк нельга сказаць пра адукаваныя, творчыя колы дадзенай этнічнай супольнасці, дзякуючы галоўным чынам добраму валоданню многімі з іх не толькі старажытна-яўрэйскай мовай іўрыт, але і латынню, царкоўнаславянскй мовай. У той час у жыцці Вялікага Княства Літоўскага многае было звязана з названымі мовамі, але веданне імі карэнным насельніцтвам знаходзілася не на належным узроўні. Таму ў неабходных выпадках па дапамогу даводзілася звяртацца да мясцовых яўрэяў. І яны ахвотна ўдзельнічалі ў перакладах рэлігійных тэкстаў з іўрыта на царкоўнаславянскую ці старабеларускую мовы, у чым не было роўных яўрэям нават у самой Вільні. Паводле меркавання нашага вядомага сучаснага мовазнаўцы Алеся Яскевіча ў пасляскарынаўскі перыяд менавіта ў яўрэйскім

[1] Ёсць меркаванні і пра больш ранняе з'яўленне яўрэяў на беларускай зямлі – прыкладна ў пачатку другога тысячагоддзя. Прычым прыйшлі яны сюды не з захаду, а з усходу і належалі да патомкаў вавілонскай дыяспары.

асяродку з'явіліся выдатныя беларускія пераклады з іўрыта адзінаццаці кніг Старога Запавету ("Кодэкс 262")[1]. Жыццё прымусіла здабыць хоць самыя элементарныя веды па беларускай мове і тых яўрэяў, што займаліся гандлем і рамяством. Дарэчы, іх было не так ужо і мала.

Пасля пасялення яўрэяў у ВКЛ клопатам нумар адзін у іх была арганізацыя навучання дзяцей, ад чаго, мо, як ад нічога іншага, так моцна не залежаў лёс гэтай этнічнай супольнасці ў цэлым. З такой задачай, трэба прызнаць, яны даволі паспяхова спраўляліся, маючы дастатковую колькасць адпаведных навучальных устаноў – хедараў, ешыботаў (іешываў). Ужо ў XVIII стагоддзі шырокая вядомасць прыйшла да іешываў Валожына (яе заснаваў Хаім Валожынер), Бярэсця, Ліды, Міра, Слоніма, Слуцка. Як след клапаціліся пра ўзгадаванне дзяцей у сем'ях. Непахісная арыентацыя яўрэйскай культуры і адукацыі на ўласныя традыцыі рабіла гэтую этнічную супольнасць і ў нашым краі надзвычай устойлівай ад усіх формаў асіміляцыі, што было так не характэрна тагачасным беларусам і чым, на вялікую бяду, мы сёння не можам пахваліцца, жывучы ва ўласным доме, у суверэннай Рэспубліцы Беларусь.

Нашай Бацькаўшчыне прыносіць вялікі гонар, што на яе зямлі ў перыяд Сярэднявечча нарадзіліся, жылі і плённа працавалі добра вядомыя ў многіх краінах яўрэйскія культурныя дзеячы, навукоўцы, педагогі. Заўжды знаходзіў час на навуку мінскі рабін Іехіель Гальперын. У 1700 годзе выйшла ў свет у трох частках яго кніга "Седэр гадарот" ("Парадак пакаленняў").

Мала якая еўрапейская краіна не пажадала б стаць радзімай такой славутай асобы, як Саламон Майман (сапр. Хайман). Яе ж даў свету хутар Сукавыбарг паблізу мястэчка Мір. У тутэйшай яўрэйскай школе ён атрымаў першапачатковую адукацыю, а затым паглыбляў свае веды ў талмудычнай школе мястэчка Івянец. Але ўсяго гэтага было недастаткова для здольнага да вучобы яўрэйскага

[1] Літаратура і мастацтва. 2003. 24 кастрычніка. С. 4.

юнака. У канцы 70-х гадоў XVIII стагоддзя ён у Германіі штудзіруе свецкую філасофію, прыродазнаўчыя навукі. Там так дасканала авалодаў нямецкай мовай, што напісаў і выдаў на ёй шэраг добра вядомых для адукаванай Еўропы кніг, у т. л. "Спосаб трансцэндэнтальнай філасофіі", "Спрэчкі аб філасофіі", "Аб прагрэсе філасофіі", "Катэгорыі Арыстоцеля". Вялікай пахвалы заслугоўвае С.Майман ад нас за тое, што ў выдадзенай у 1793 годзе "Гісторыі жыцця..." асвятліў многія аспекты з сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця нашага краю другой паловы XVIII стагоддзя.[1] Аўтара гэтых радкоў проста не можа не радаваць, што ў другой палове XVIII стагоддзя ў яго родным мястэчку Магільнае (Уздзенскі раён) нейкі час жыў С.Майман.

Відаць у свеце няма больш схільнага да тэрытарыяльнага перамяшчэння народа, як яўрэйскі. Такое назіралася і за беларускімі яўрэямі, прычым ва ўсе часы іх пражывання на нашай зямлі, у тым ліку і ў перыяд яе знаходжання ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Намнога больш інтэнсіўны характар набылі эміграцыйныя патокі беларускіх яўрэяў у перыяд Рэчы Паспалітай. У навуцы дастаткова фактаў, каб сцвярджаць, што на еўрапейскім кантыненце, акрамя згаданага вышэй С.Маймана, шырока вядомымі былі і многія іншыя асобы з ліку беларускіх яўрэяў. Блізкасць ідышу да нямецкай мовы добра паспрыяла некаторым з іх здзейсніць свае творчыя задумкі, пасяліўшыся ў Германіі ці іншых краінах, дзе была распаўсюджана гэтая мова. Вядома, да прыкладу, што шэраг сваіх твораў рэлігійнага зместу выдаў у 60-я гады XVII ст. у Амстэрдаме, Франкфурце-на-Майне ўраджэнец з Койданава талмудыст Арон Шмуэль Кайданавер.[2] У гэтым яму дапамагалі і зяць, і сын Цэві Гірш. Апошні з названых праз нейкі час будзе выдаваць у Франкфурце-на-Майне ўжо ўласныя літаратурныя творы, з якіх самы вядомы "Правільная мера". "Кніга выдавалася шматразова. Аўтар склаў яшчэ нямецка-яўрэйскі яе пераклад, які друкаваўся

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (у далейшым – ЭГБ). Мн., Т. 5. 1999. С. 44.
[2] Прашчур вядомага дзіцячага паэта, драматурга і перакладчыка Самуіла Маршака.

часта разам з яўрэйскім арыгіналам і зрабіўся ўлюблёным чытвом жанчынаў і мужын".[1]

Неўзабаве па прыбыцці яўрэяў у Беларусь, яны адчулі вострую патрэбу ва ўласнай кніжнай прадукцыі, галоўным чынам у рэлігійнай. Пры выданні такога роду кніг выкарыстоўвалася старажытнаяўрэйская мова – іўрыт. Як вядома, быў час, што на ёй у далёкім мінулым вялася служба нават у хрысціянскіх храмах. Выкарыстоўвалі іўрыт і на занятках у многіх тыпах неяўрэйскіх навучальных установ. З цягам часу гэтай мовай няблага валодалі многія адукаваныя людзі Беларусі з ліку карэннага насельніцтва, што дазваляла ім папаўняць свае веды па самых розных пытаннях рэлігійнага жыцця, гісторыі, культуры і г.д. Таму не толькі яўрэйскаму, але і беларускаму інтарэсам не магла не адпавядаць арганізацыя выдання на нашай зямлі кніг на старажытнаяўрэйскай мове. Ва ўсе часы гэта было і сёння з'яўляецца досыць дарагой справай. І важна, што на гэта знаходзіліся неабходныя матэрыяльныя і фінансавыя сродкі, а таксама спецыялісты. У XVII – XVIII стст. (да падзелаў Рэчы Паспалітай) кнігі на іўрыце выпускалі ў Шклове (з 1783 г.), друкарнях Баруха Рома ў Гродне (з 1788 г.) і Вільні. Яны былі занятыя выданнем галоўным чынам Бібліі і Талмуда.

Арганізацыя ў межах ВКЛ выдання кніг, пераважна рэлігійнага зместу, на іўрыце ніколькі не вяла да звужэння сферы ўжывання яго ў рукапіснай форме, на што былі важкія прычыны. У адпаведнасці з усталяванай у яўрэяў яшчэ да прыбыцця ў наш край традыцый "не толькі кожная рэлігійная абшчына (кагал), але і кожны яўрэй павінен быў мець экзэмпляр Пяцікніжжа Майсея (Тора. – *Л.Л.*). Прычым яго трэба было або перапісаць самастойна, або заказаць скрутак у прафесійнага перапісчыка біблейскіх кніг. Яўрэйскі пісец, выконваючы заказ на перапіску Торы, лічыў гэта ў вышэйшай ступені пачэснай і богаўгоднай справай. Ён працаваў, трымаючы перад сабой кананічны ўзор Торы, з якім зверыў кожнае слова, бо нават кожная літара была ў

[1] Краязнаўчая газета. 2007. № 28 (ліпень).

ім знакам Божай волі. Нездарма ў талмудычным паданні сцвярджалася: “Прапусціш адну літару ці прыбавіш літару – і можа адбыцца пераварот у галовах людзей усяго свету”. Вытворчасць Тор у выглядзе скруткаў пергаменту працягвалася на беларускіх землях да XIX стагоддзя.

Матэрыял і почырк заставаліся нязменнымі з сярэднявечча.”[1] Такую моцна запатрабаваную традыцыямі рэлігійнага жыцця іудзеяў мову, як іўрыт, не маглі не любіць, не маглі не захоўваць праз усе часы і яўрэі ВКЛ. Каб сучасная беларуская мова мела ў свайго народа хоць дзесятую долю запатрабаванасці іўрыта ў яўрэяў Сярэднявечча, не існавала б аніякіх падстаў хваляваца за яе будучыню.

На беларускую зямлю яўрэі ступілі практычна з зусім не падобным на мясцовае музычна-песенным мастацтвам. Дзякуючы таму, што ў апошнім у той час магло прысутнічаць і штосьці запазычанае ў еўрапейскіх краінах, гэты від творчай дзейнасці яўрэяў у якойсьці ступені цікавіў і беларусаў. Ёсць меркаванні, што яны запазычылі ў яўрэяў завезеныя цыганамі ў Еўропу цымбалы,[2] якія з цягам часу сталі самым распаўсюджаным у нашым краі музычным інструментам. Нядужа добра дасведчаныя ў гэтым людзі называюць яго нават народна беларускім.

Сёння многія ведаюць пра вялікія набыткі Нясвіжа ў галіне музычнага мастацтва. Сваю лепту ў яго ўклалі і яўрэі, пра што сведчыць і аказаны ім давер музычна абслугоўваць набажэнствы ў мясцовым касцёле. Вялікі аматар тэатра і музыкі Караль Радзівіл (1734 – 1790; трымаў тэатр і аркестр) у свой час абавязваў яўрэяў граць у касцёле, толькі апранутымі ў турэцкія касцюмы,[3] і яны пагадзіліся, хаця гэта было адзенне людзей мусульманскай веры.

Дзякуючы праведзеным у апошнія гады даследаванням, сёння ўжо ні ў кога не выклікае сумнення, што ў перыяд Сярэднявечча Вялікае Княства Літоўскае мела выдатныя дасягненні ў развіцці архітэктуры, прычым як рэлігійнага, так і свецкага прызначэння. Немалаважную

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 11 лістапада 2011 г. С.21.
[2] Евреи Беларуси. История и культура. III – IV. Мн., 1998. С.93.
[3] Гісторыя Беларусі. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII – XVIII стст.). Т. 3. Мн. 2004. С. 153.

ролю ў гэтым адыграла плённая праца на Беларусі вядомых архітэктараў з розных краін Еўропы. Не магло не пакінуць свайго следу ў архітэктуры ВКЛ і яго яўрэйская грамада. Сказанае найбольш датычыць культавай архітэктуры – сінагогаў, у будаўніцтве якіх удзельнічалі не толькі яўрэйскія, але і беларускія рабочыя і спецыялісты. Спачатку сінагогі будавалі з дрэва, бо на больш дарагія матэрыялы не ставала сродкаў, дый цяжкасці былі з прыцягненнем кваліфікаванай рабочай сілы. У некаторых выпадках для пабудовы сінагогаў запрашаліся і замежныя майстры. Узведзеныя з іх удзелам іудзейскія храмы, як правіла, вызначаліся больш якасным выкананнем будаўнічых і архітэктурных работ. Такім патрабаванням, напрыклад, у належнай ступені адпавядала пабудаваная ў Гародні ў XIV ст. на месцы драўлянай мураваная сінагога. Усе архітэктурныя работы ажыццяўляліся пад кіраўніцтвам італьянца

Санці Гучы.[1] У Бярэсці першую мураваную яўрэйскую бажніцу ўзвялі ў 1568 годзе. З пабудаваных у XVII ст. мураваных сінагогаў найбольш за ўсе астатнія заслугоўваюць быць згаданымі Слонімская (у стылі барока), Быхаўская (у стылі позняга рэнесансу; мела і абарончае прызначэнне), Шклоўская.

Лёс сінагогаў, як і шмат чаго іншага з яўрэйскай культуры на Беларусі, быў вельмі нешчаслівы з прычыны частых на яе тэрыторыі разбуральных войнаў. Іх галоўнымі ўдзельнікамі былі Маскоўская дзяржава і Рэч Паспалітая з яе складовым палітычным суб’ектам – Вялікім Княствам Літоўскім. Варта адзначыць, што абсалютная бальшыня сінагогаў пераўтваралася ў руіны не з-за прамых ваенных дзеянняў, а з прычыны таго, што Масква проста не жадала прысутнасці ў ВКЛ ніякіх іншых рэлігійных храмаў, акрамя праваслаўных, і таму свядома, мэтанакіравана знішчала сінагогі. Не трывалі іх ні рускія, ні украінскія казакі – адпетыя абаронцы праваслаўнай веры. У такой экстрэмальнай сітуацыі пры аднаўленні разбураных ці будаўніцтве новых сінагогаў менш за ўсё звярталася ўвагі на архі-

[1] Літаратура і мастацтва. 2008. 17 кастрычніка. С. 12.

тэктурныя якасці храмаў, таму яны даволі істотна ўступалі аналагічным аб'ектам многіх іншых еўрапейскіх краін.

У адрозненне ад шэрагу іншых канфесій служыцелі іудзейскага культу не імкнуліся якім-небудзь чынам навязваць сваю веру мясцоваму насельніцтву. Ды і ў яго не было асаблівага жадання прыняць іудаізм ад зусім далёкага па культуры і мове, звычаях народа. І ўсё ж гісторыі вядомы даволі пікантны прыклад пераходу зусім не шараговага хрысціяніна ў іудзейскую веру. На такі крок пайшоў па далёка не да канца высветленых прычынах рэлігійны вальнадумец і прапаведнік Феадосій Касой. Ратуючыся ад пакарання маскоўскімі ўладамі, уцёк у досыць талерантнае ў рэлігійных пытаннях Вялікае Княства Літоўскае. Пасяліўся і жыў на працягу 1559 – 60-х гадоў у Віцебску. Ён парывае з манаскім санам, бярэ шлюб з удавою-яўрэйкай і прымае іудзейства. Гэты факт адзначаны ў шэрагу літаратурных крыніц, у т.л. і ў зборніку артыкулаў "Церковь, общество и государство в феодальной России" (М., 1990. С. 229). Датычна прычын узятага Касым шлюбу з яўрэйкай і як вынік гэтага пераход яго ў іудзейства існуе некалькі тлумачэнняў.

Найбольш блізкім да ісціны мне падаецца меркаванне сучаснага рускага гісторыка Ігара Фраянава: "Сам факт женитьбы на еврейке иноплеменника и принятие иудаизма гоем, да и еще к тому же религиозным деятелем выглядит необычным, можно сказать, из ряда вон выходящим. Он мог иметь место только при особом расположении еврейской общины новообращенному и признание его каких-то заслуг перед ней. Эти заслуги, по всей видимости, заключались в том, что Косой был активным проводником на Руси ереси "жидовствующих", рупором идей. Он импонировал еврейскому сообществу как борец против христианства в самой неприемлемой для иудеев форме православия, провозгласившего Москву третьим (и последним) Римом, а русский народ богоизбранным хранителем истинной и непорочной Христовой Веры".[1] Падобнага роду прыклады добраахвотнага пераходу хрысціян у іудзейскую веру

[1] Фролов И.Я. Драма русской истории. На путях к Опричнине. М., 2007. С. 246.

сустракаюцца і ў іншых публікацыях, аднак такое здаралася вельмі рэдка.

Бесперапынныя войны Масковіі з ВКЛ і Рэччу Паспалітай на тэрыторыі Беларусі, хаця і адмоўна адбіваліся на стане яе яўрэйскай культуры, усё ж не пазбавілі апошнюю магчымасці далейшага развіцця. Яна працягвала прагрэсіраваць ва ўсіх сваіх жанрах. Не ў малой ступені гэтаму спрыяў няўхільны колькасны рост яўрэйскай этнічнай супольнасці ВКЛ. Яе прадстаўнікі аддавалі перавагу жыццю ў горадзе, дзе ва ўсе часы культура больш паспяхова развівалася, чым у вясковай мясцовасці.

Ужо само з'яўленне яўрэяў у канцы XIV стагоддзя на тэрыторыі ВКЛ знаменавала сабой унясенне чагосьці новага, адметнага ў яго духоўнае жыццё. Несумненна, яно яшчэ больш зведала на сабе ўплыву дадзенага фактару ў наступныя стагоддзі. І як станоўчае адзначу, што ён ніколькі не падрываў нацыяналных асноў беларускай культуры, як гэта адбывалася з апошняй пад уздзеяннем польскага фактару, асабліва пасля прыняцця ў 1696 годзе на самым высокім дзяржаўным узроўні пастановы аб забароне выкарыстоўваць беларускую мову ў службовым справаводстве на ўсёй тэрыторыі ВКЛ.

Свой пасільны ўклад у культурную разнастайнасць Беларусі яўрэі маглі ўносіць толькі дзякуючы таму, што, за рэдкім выключэннем, ніяк не паддаваліся асіміляцыі, моцна трымаліся і ў гэтым чужым для іх краі сваіх прыродных традыцый, асабліва мовы. Праз не такі ўжо і працяглы час на яго тэрыторыі культуру ўжо даводзілася ствараць галоўным чынам на ідышы, бо іўрытам валодала толькі самая адукаваная частка яўрэяў. Ён перастаў выконваць ролю сродку зносін паміж імі. Здольнасць яўрэяў захоўваць сваю самабытнасць і ў чужым асяроддзі высока цаніла прагрэсіўная частка чалавецтва, ставіла ў прыклад усім астатнім народам. Вось што пра гэта пісаў Міхаіл Дэ-Пуле: "Палякі амаль нічога не зрабілі (хаця і рабілі нямала негатыўнага. – *Л.Л.*) ... з яўрэямі: яўрэйства ў Літве было, як і цяпер застаецца, цвёрдым целам, якое не разлажылася ў велізарнай лабараторыі польскага дзяржаўнага і сацыяль-

нага арганізма …”[1] А вось сапраўдная здрада беларускаму інтарэсу, звязаная з пераходам абсалютнай бальшыні магнатаў, шляхты, адукаваных людзей ВКЛ на пазіцыі польскай культуры, моцна пахіснула этнічную самабытнасць яго карэннага насельніцтва, і асабліва літвінаў (беларусаў).

У яўрэяў хапіла творчага рэсурсу, каб ім у нейкай ступені падзяліцца з карэнным мясцовым насельніцтвам. Ахвотна, плённа працаваў на яго карысць яўрэйскі гравёр з Нясвіжа Гершка Ляйбовіч (1700–1770). Яго талент у належным аб’ёме раскрыўся падчас працы ў Нясвіжскай друкарні князёў Радзівілаў. Да выдадзенага тут у 1758 годзе альбома “Выява роду князёў Радзівілаў” ён “выканаў партрэты Вайшунда (Вайсцундура) І Хрысціяніна і Караля Станіслава (Пане Каханку), 3 экслібрысы для нясвіжскай бібліятэкі, герб Радзівілаў (змешчаны ў “Артыкулах ваенных”, Нясвіж, 1754), награвіраваў карту літоўскай правінцыі бернардзінцаў, інтэр’ер касцёла езуітаў у Нясвіжы і інш.”[2]

Вельмі хутка па-за межы культурнага жыцця сваёй этнічнай супольнасці выйшлі яўрэйскія прафесійныя музыкі, прычым нават арганізаваныя ў творчыя калектывы. Сказанае добра пацвярджаецца ўжо вышэй прыведзеным прыкладам абслугоўвання яўрэйскім аркестрам набажэнства ў нясвіжскім касцёле, пра што распарадзіўся сам Караль Радзівіл.

Культурныя набыткі яўрэяў на беларускім абшары маглі б быць яшчэ больш важкімі, калі б гэтаму не перашкаджала эміграцыя. Родны дом пакідалі звычайна самыя адораныя асобы, упэўненыя, што і на новым месцы паспяхова вытрымаюць канкурэнцыю ў саперніцтве са сваімі калегамі. Неабходна заўважыць, што ў эміграцыю падаваліся, пераважна ў еўрапейскія краіны, самыя таленавітыя ў тым ці іншым жанры культуры і мастацтва яўрэйскія дзеячы не толькі дзеля павышэння тут свайго прафесійнага майстэрства, здабыцця жаданай славы. Ісці на такое вельмі

---

[1] Де-Пуле Михаил. Станислав Понятовский в Гродне и Литве в 1794 – 1797 годах. СПб. 1871. С. 115, 116.
[2] ЭГБ. Т.4. Мн., 1997. С. 423.

часта вымушалі бесперапынныя войны на беларускай зямлі паміж Рускай дзяржавай і Рэччу Паспалітай. У складзе вайсковых падраздзяленняў першай, як правіла, выкарыстоўваліся і ўкраінскія казакі праваслаўнага веравызнання, вядомыя сваёй непрыязнасцю да іудаізму. Так, калі ў сярэдзіне 50-х гадоў XVII стагоддзя яны абрабавалі ў Вільні дом, спалілі бібліятэку з каштоўнымі рукапісамі ўжо згаданога мною выдатнага талмудыста і пісьменніка Арона Шмуэля Кайданавера, ён у пошуках паратунку апынуўся спачатку ў Чэхіі, а затым у Германіі, дзе служыў за рабіна і выкладаў Талмуд. Яго сын Ціві Гірш выдаў у Франкфурце-на-Майне шэраг бацькоўскіх кніг са сваімі прадмовамі і нататкамі. “Арон Шмуэль Кайданавер напісаў шмат значных твораў, якія і па сённяшні дзень перавыдаюцца і вывучаюцца ў ешыботах. Найбольш значнымі яго творамі з’яўляюцца “Дабраславёнае ахвярапрынашэнне” … з прадмовамі і аўтабіяграфіяй, “Блаславенне Шмуэля” … казанні на тэмы з Торы, “Вера Шмуэля” … па пытаннях шлюбнага права і іншыя”.[1] Такім жа пладавітым на літаратурнай ніве быў народжаны ў 1650 годзе ў Вільні сын Арона Шмуэля Кайданавера Ціві Гірш, які вельмі рана вымушаны быў апынуцца па-за сваёй радзімай. Прычына вядомая: войны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай. Пасля нанесеных казакамі шасцігадоваму Ціві Гіршу ран ён ледзь выжыў, а дзве яго сястры скончаліся. Свой галоўны твор-трактат па этыцы (Кау аяшар) выдаў у 1705 годзе ў Франкфурце-на-Майне. За 300 гадоў ён перавыдаваўся больш як 80 разоў.[2] Створаныя і тады яўрэямі нашага краю па-за яго межамі духоўныя каштоўнасці ні ў якім разе не могуць разглядацца як штосьці чужое для культуры Беларусі.

[1] Новы Час. 2011. 17 чэрвеня. С. 14.
[2] Краязнаўчая газета. 2011. № 41 (лістапад).

## 2. У межах і за рысай аселасці

Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) істотным чынам паўплывала на жыццё не толькі тытульнага (беларускага) народа, а і яўрэйскай этнічнай групы. Ужо за год да другога падзелу яна сутыкнулася з такой зусім не вядомай для яе раней з'явай, як мяжа яўрэйскай аселасці. У яе ўключылі ўсе беларускія губерні. Дазвол на пражыванне за рысай аселасці – дый-то далёка не ўсім – пачалі выдаваць дзесьці з сярэдзіны 1830-х гадоў.

Такія і шмат іншых абмежаванняў стваралі нямала праблем для яўрэяў. Вельмі хутка само жыццё вымусіла многіх з іх, акрамя роднай, валодаць яшчэ і іншымі мовамі і найперш рускай. У адпаведнасці з зацверджаным імператарам Аляксандрам I "Палажэннем аб уладкаванні яўрэяў" усе выбарныя пасады ў гарадскім самакіраванні маглі займаць толькі тыя з іх, хто ўмеў пісаць і чытаць на рускай, польскай і нямецкай мовах. Усяму гэтаму ніяк нельга было супраціўляцца, улічваючы тагачасны даволі жорсткі палітычны рэжым расійскага самадзяржаўя. Не так сваю любоў да музыкі, мо колькі згоду жыць у міры з ім яўрэі спаўна паказалі, калі неўзабаве пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай расійская імператрыца Кацярына II праязджала праз Магілёў. Яны "пабудавалі пасярод плошчы ўзвышэнне з надпісам "Радуемся, як у часы Саламона", дзе і гралі на розных інструментах папераменна і ўдзень і ўначы".[1]

Мясцовая прарасійскай накіраванасці адміністрацыя Беларусі ніколі не абцяжарвала сябе клопатамі пра стварэнне неабходных умоў для развіцця яўрэйскай нацыянальнай культуры. Яе лёс цалкам залежаў ад саміх яўрэяў. І трэба сказаць: яны – асабліва іх найбольш адукаваныя заможныя пласты – не стаялі ўбаку ад развязвання гэтай праблемы. Царскія ж улады далучаліся да яе толькі тады, калі трэба было штосьці рабіць для русіфікацыі яўрэйскага насельніцтва. У 1847 годзе яны "з мэтай пашырэння рускай

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий. Из истории российских евреев (Часть вторая: 1772 – 1882 годы). Иерусалим. 1990. С. 13.

культуры сярод яўрэяў … пачалі ствараць казённыя яўрэйскія вучылішчы з выкладаннем шэрагу (а потым і большасці) прадметаў на рускай мове. Такія навучальныя ўстановы зусім не абавязкова павінны былі ўзначальваць асобы яўрэйскага паходжання, хаця лепш за іх ніхто не мог разумець душы навучэнцаў. Праўда, іншым разам на працу ўладкоўваліся і іншых нацыянальнасцяў людзі без усялякіх комплексаў у поглядах на яўрэйскае пытанне. Вядомы прыклад, калі папячыцель Віленскай навучальнай акругі Іван Карнілаў у студзені 1865 года на пасаду дырэктара рабінскага і іншых яўрэйскіх вучылішчаў прызначыў Пятра Бяссонава. Гэта была зусім не шараговая асоба ў асяроддзі расійскай творчай інтэлігенцыі. Яшчэ да прыезду ў Вільню ён "прапанаваў маскоўскаму Таварыству аматараў расійскай славеснасці выдаць свой "беларускі" зборнік, які ўключаў ужо 500 песень: як народных, вусных, так і дапоўненых са старых рукапісаў."[1] Мала хто з кіраўнікоў Віленскай навучальнай акругі не пажадаў бы ўзяць на працу чалавека з такімі багатымі набыткамі ў даследаванні духоўнай спадчыны Беларусі. Заслугоўвае быць адзначаным і такі факт: калі П.Бяссонаў пад час свайго знаходжання ў нашым краі праводзіў збор народных песень, ён на дапамогу сабе запрашаў і яўрэяў. У канцы 19 ст. у Віленскай навучальнай акрузе было 79 казённых яўрэйскіх вучылішчаў. Развіццё для гэтай этнічнай групы адукацыі на рускай мове, – справядліва адзначае гісторык Эмануіл Іофе, – прывяло да з'яўлення ў 2-й палове 19 ст. яўрэйскай рускамоўнай інтэлігенцыі".[2]

Такое, зразумела, уяўляла сабою – асабліва ў далёкай перспектыве – сур'ёзную пагрозу для самабытнага этнакультурнага развіцця. Але ў час, калі ўсё гэта яшчэ толькі набірала свае першыя абароты, ніхто асаблівай трывогі не біў. І на гэта былі важкія падставы, бо яўрэйская культура існавала, развівалася на беларускай зямлі ў традыцыях свайго народа, не мела аніякіх сур'ёзных падстаў ухіляцца ад іх. Не ў прыклад мясцоваму насельніцтву яўрэі пакуль

---

[1] Літаратура і мастацтва 2012. 27 студзеня. С. 7.
[2] ЭГБ. Т. 6. Кн. 2. Мн., С.309, 310.

што даволі паспяхова вытрымлівалі іспыт ва ўмовах жыцця пад уладай свайго новага гаспадара – Расійскай імперыі.

Буйным яўрэйскім культурна-асветніцкім цэнтрам лёс наканаваў стаць гораду Шклову. Немалаважная заслуга ў гэтым купца-мецэната Іошуа Цэйтліна (1742 – 1822). У сваім маёнтку “Вусце”, што непадалёку ад Шклова, ён пабудаваў “малітоўны дом з дарагім начыннем, лабараторыю для хімічных доследаў, стварыў вялікі і разнастайны гербарый. Навуковую дзейнасць забяспечвала і багатая бібліятэка. Пад прытулкам Цэйтліна навукоўцы актыўна займаліся даследніцкай працай”.[1]

Выйсці на такія перадавыя для таго часу пазіцыі ў развіцці яўрэйскай культуры дапамагло Шклову заснаванне тут у 1783 годзе першай друкарні. Выдавалі кнігі на іўрыце. У пачатку XIX стагоддзя да яе дабавяцца яшчэ дзве. Да 1835 года яны выпусцілі больш за 210 назваў кніг, з якіх даволі высокі працэнт падаў на вучэбную і навуковую літаратуру. Была спроба арганізаваць у Шклове выданне яўрэйскай газеты на іўрыце. Толькі ў станоўчым плане можна гаварыць пра дзейнасць яўрэйскіх навучальных устаноў Шклова. У яго іешыве ў 1853 – 1858 гадах вучыўся будучы аўтар рамана “Квадрат хамор” (“Асінае пахаванне”). Гэты горад даў яўрэйскай літаратуры паэта З.Шнеўра, вядомасць якому прынеслі творы “Шклоў” і “Ноах Пандрэ”.

У шклоўскіх яўрэяў-музыкантаў хапіла таленту, каб смела гастраляваць не толькі ў расійскіх гарадах, але і польскіх, галандскіх і нават у Вене, Берліне з іх багатым музычным жыццём. Спешчаная еўрапейская публіка па-сапраўднаму захаплялася выканальніцкім майстэрствам Восіпа (Міхаэля-Есефа) Гузікава (1806 – 1837)[2], прычым не на якім-небудзь традыцыйным інструменце, а на змайстраваным ім самім з дрэва і саломы хакбрэце, у многім блізкім да сучаснага ксілафона.[3] На ім шклоўскі музыка граў “п’есы Н.Паганіні ва ўласнай апрацоўцы, арыі з опер Д.Расіні,

[1] Краязнаўчая газета. 2008. № 19 (май).
[2] У шэрагу энцыклапедычных выданняў, у т. л. і ў “Беларускай Савецкай Энцыклапедыі” (Т. IV, Мнн, 1971), не адзначана яго прыналежнасць да яўрэйскага народа.
[3] Літаратура і мастацтва. 2007. 31 жніўня. С. 10.

варыяцыі на тэмы яўрэйскіх, украінскіх і беларускіх (падкрэслена мною. – *Л. Л.)* народных песень і танцаў. Гузікаў быў з першых расійскіх музыкантаў, што гастралявалі ў Еўропе. Ён выступаў у Дрэздэне, Берліне, Парыжы, Кракаве, Вене і сваёй “надзвычайнай віртуознасцю” прыводзіў у захапленне самых знакамітых музыкантаў і кампазітараў, уключаючы Ф.Ліста і Ф.Мендэльсона-Бертольдзі, які называў Гузікава “сапраўдным геніем” … У Вене Гузікаву далі мянушку “Паганіні на інструменце з дрэва і саломы”; ён выступаў у палацы, перад імператарам і быў настолькі знакамітым, што свецкія дамы – у імітаванне яго пейсам – сталі насіць локаны a la Gusikov … Ён памёр маладым, у трыццацігадовым узросце, і пахаваны ў горадзе Ахене на яўрэйскіх могілках”.[1]

Калі не для ўсіх, дык для адукаваных колаў яўрэйскай супольнасці не з’яўлялася сакрэтам, як важна і ў новых (пасля жыцця ў Рэчы Паспалітай) умовах не трапіць пад шкодны пры ўсіх абставінах уплыў чужой рускай сістэмы адукацыі, бо ў процілеглым выпадку гэта непазбежна адарве маладыя пакаленні ад уласнага народа. Менавіта дзякуючы такому глыбокаму разуменню ролі адукацыі тут і былі дасягнуты сур’ёзныя пазітыўныя зрухі. У той няпросты час вялікая надзея ўскладалася на паляпшэнне педагагічнага працэсу традыцыйных навучальных установ – хедараў і ешываў, больш дасканалае валоданне маладымі пакаленнямі старажытнаяўрэйскай мовай – іўрытам. І гэта цалкам апраўдана, бо толькі бытаванне роднай мовы ў народзе дае яму надзейную гарантыю працягу жыцця ў часе. Як станоўчае можна адзначыць, што, акрамя буйных гарадоў, яўрэйская адукацыя паспяхова развівалася і ў невялікіх паводле сваіх памераў населеных пунктах. Першы Усерасійскі перапіс 1897 года засведчыў, што ў пяці беларускіх губернях пісьменных сярод яўрэяў мужчынскага пола было 49%, жаночага – 28,2. У сярэднім па Расійскай імперыі на дарослае насельніцтва абодвух полаў даводзілася толькі 28,4 %.[2] Найбольшая

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий … (Часть вторая…). С. 21.
[2] ЭГБ. Т. 6. Кн. II. С. 310.

колькасць яўрэйскіх дзяцей навучалася ў добра вядомых яшчэ з часоў ВКЛ рэлігійных пачатковых школах – хедарах. “Паводле перапісу 1897 года ў Гродзенскай губерні існавала 698, Мінскай – 997, Магілёўскай – 882, Віцебскай – 499 хедараў, у якіх навучалася 29 669 вучняў”.[1]

Важным крокам наперад у развіцці яўрэйскай адукацыі з’явілася заснаванне ў канцы XIX стагоддзя больш прагрэсіўнага тыпу рэфармаваных хедараў, якіх пазней сталі называць узорнымі. Піянерам у гэтай справе ў Беларусі быў Пінск. У сакавіку 1900 года і ў Бабруйску арганізавалі першы ўзорны хедар, у якім грамаце навучалі паводле граматычнага прынцыпу, дзякуючы чаму “дзеці пачалі хутка чытаць і пісаць на іўрыце. Новаўвядзеннем стаў і дазвол прысутнічаць на ўроках бацькам, педагогам і ўсім, хто цікавіцца навучаннем”. Усё гэта садзейнічала росту папулярызацыі падобнага тыпу хедараў сярод бабруйскіх яўрэяў. У 1912 годзе было 16 такіх хедараў. Бацькі ахвотна пасылалі на вучобу ў іх і сваіх дачок. Неўзабаве новага тыпу хедары сталі наведваць яўрэйскія дзеці Магілёва, Рагачова, Асіповічаў, Парычаў і іншых гарадоў.[2]

Ва ўзгадванні належна адукаваных маладых яўрэйскіх пакаленняў яшчэ большае значэнне набылі ешыботы (іешывы). Як і хедары, яны таксама працавалі не толькі ў буйных для таго часу гарадах. Заўжды добрай арганізацыяй навучальна-выхаваўчага працэсу выдзяляўся заснаваны ў 1803 годзе ешыбот Валожына**.** Сапраўднага росквіту гэтая навучальная ўстанова дасягнула ў другой палове XIX стагоддзя, калі ёю кіраваў равін Нафталі Цві Іегуда Берлін. Акрамя яго, заняткі з навучэнцамі (у некаторыя гады іх колькасць дасягала 400 чалавек) вёў і найбуйнейшы талмудыст таго часу Хаім Салавейчык. Гэта найперш іх заслуга, што Валожынскую іешыву часта называлі акадэміяй. Апошняй, як нічому іншаму, Валожын абавязаны тым, што ён многія гады лічыўся неафіцыйнай яўрэйскай сталіцай. Вучыцца сюды прыязджалі маладыя людзі з Германіі, Аўстрыі, Англіі, Егіпта, Амерыкі і іншых месцаў. Яе

[1] Тамсама С. 67.
[2] Краязнаўчая газета. 2010. № 18 (май).

закончылі многія добра вядомыя ў свеце вучоныя, пісьменнікі, равіны. У розных краінах прыкладна 40 выпускнікоў Валожынскай іешывы займалі пасады галоўных равінаў. Усё гэта заслужана стварае вялікую славу не толькі Валожынскаму ешыботу, але і ў цэлым яўрэям беларускай зямлі. Да сказанага вышэй яшчэ дадам, што ў свой час гэтую ішыву закончыў Шмуэль Магілеўкер (1824 – 1898), які, як ніхто іншы, многае зрабіў для арганізацыі пераезду (аліе) яўрэяў Беларусі ў Ізраіль з тым, каб аднавіць на яго тэрыторыі яўрэйскую дзяржаву. Да гэтай ідэі ён змог схіліць нават вядомага амерыканскага барона Эдманда дэ Ротшыльда. Аўтар часта цытаванай мною кнігі Фелікс Кандэль прыводзіць у ёй такую характарыстыку Валожынскай іешывы аднаго са сведак тых далёкіх часоў: яна “была нібыта працягам славутых яўрэйскіх акадэмій старажытнасці... Іншай такой няма, і няма ніякай надзеі, што калі-небудзь будзе”.[1] Як бачым, прадказанне спраўдзілася. Вялікі аўтарытэт Валожынскай іешывы не толькі на беларускай зямлі, але і ў многіх краінах свету паспрыяў даволі працягламу існаванню яе: зачынена царскімі ўладамі ў 1892 годзе з-за нежадання весці ў ёй выкладанне свецкіх прадметаў. Ад гэтага часу былой акадэміі надалі агульны статус народных школ, але Валожын яшчэ доўга называлі “Рымам літоўскіх (у той час гэта атаясамлівалася са словам “беларускіх”. – *Л.Л.)* яўрэяў.[2] Выкладчыкаў і навучэнцаў іешывы выслалі з Валожына, а равін Нафталі Цві Іегуда Берлін памёр у выгнанні. У межах рысы аселасці гэтую падзею ўспрынялі як нацыянальнае бедства, і відавочца так апісаў правядзенне ў сінагозе аднаго з літоўскіх мястэчках жалобнае набажэнства: “Калі прапаведнік усклікнуў: “Няма болей рабі Нафталі, няма больш Валожынскай іешывы!”, – уся сінагога напоўнілася рыданнямі, якія ўжо не спыняліся да канца і ад якіх у мяне валасы падніраліся... Трэба быць у Літве, каб цалкам зразумець, што зачыненне Валожынскай іешывы – сапраўднае народнае няшчасце”.[3]

---

[1] Кандэль Феликс. Очерки времен и событий...(Часть вторая...). С. 120.
[2] Голас Радзімы. 1998. 19 сакавіка.
[3] Кандэль Феликс. Очерки времен и событий...(Часть вторая...). С. 120.

Мала ў чым уступаў Валожынскаму ешыботу заснаваны ў 1815 годзе Мірскі. У ім таксама навучаліся выхадцы з шэрагу краін Еўропы, а таксама з ЗША. Іншым разам колькасць навучэнцаў дасягала 500 чалавек.[1] Слава пра Мірскую іешыву выйшла і за межы Беларусі. Добра ведалі пра яе ва ўкраінскім горадзе Палтава, дзе праходзілі дзіцячыя гады ў будучым вельмі вялікага аўтарытэта ў яўрэйскім свеце Г.Сліёзберга. У свае няпоўныя сем гадоў ён ужо сеў за вывучэнне Талмуда, а калі пайшоў дзясяты, і бацька з дзедам палічылі, што ў Палтаве няма адпаведнага іх сыну і ўнуку меламеда, запрасілі на гэтую пасаду з ішывы мястэчка Мір глыбокага знаўца Талмуда Янкеля Нохіма Чарныга.[2]

Яўрэйскія дзеці з вялікім жаданнем паступалі вучыцца ў ешыбот Радуні Воранаўскага раёна. Стварыў яго ў 1869 годзе Ісраэль Меір Каган (1838 – 1933), які больш вядомы па прозвішчы Хафец Хаім (так называлася адна з яго самых папулярных кніг). Дванаццаць выпускнікоў ешыбота служылі ў розных краінах свету галоўнымі равінамі. Пераканаўчым сведчаннем выключнай павагі да Хафеца Хаіма служыць факт вывазкі ў пачатку ХХІ стагоддзя яго дома пасля разборкі ажно ў ЗША, нібыта не было аніякай патрэбы захаваць яго ў належным стане ў самой Беларусі.

Іешыва Ліды была адметна ад такога тыпу навучальных устаноў тым, што ў ёй з 1905 года па ініцыятыве Іцхака-Якава Райнеса, акрамя традыцыйных звязаных з іудзейскай верай прадметаў, выкладаліся і свецкія, што аднак не выклікала адмоўнай рэакцыі ў многіх бацькоў.

І раней, і ў перыяд знаходжання Беларусі пад уладай Расійскай імперыі ў яўрэяў хапала людзей, надзеленых прыродай багатым дарам мастацкага слова. Для кожнага народа – гэта вялікі плюс, і асабліва, калі гэтае слова роднае, а не навязанае звонку чужое. У беларускіх яўрэяў ролю рабочай літаратурнай мовы выконвалі іўрыт і ідыш. Неўзабаве для майстроў прыгожага пісьменства гэтых нацыянальных моваў стала мала, і яны пачалі, прычым

---

[1] ЭГБ. Т. 3. Мн., 1996. С. 359.
[2] Кандэль Феликс. Очерки времен и событий…(Часть вторая…). С. 117.

даволі паспяхова і ў масавым парадку, пракладваць для сябе шлях у рускую літаратуру, усур'ёз не задумваючыся аб тым, якія гэта можа мець вялікія негатыўныя наступствы для яўрэйскага народа, як гэта будзе спрыяць яго русіфікацыі, на што якраз і была накіравана нацыянальная палітыка царскай імперыі. Але, відаць, дзеля здабыцця асабістай славы, выхаду на расійскі кніжны рынак значная частка яўрэйскіх пісьменнікаў не брала пад увагу такую палітыку, не пажадала лічыцца з яе руйнавальнымі наступствамі. Ёсць дастаткова важкіх падстаў сцвярджаць, што менавіта беларускія яўрэі першымі ў Расіі пачалі пісаць свае літаратурныя творы на рускай мове. Пачатак гэтаму паклаў ураджэнец з-пад наваколля Шклова Леў Неваховіч (1776–1831). Яго публіцыстычная кніга "Вопль дщери иудейской" выйшла ўжо ў 1803 годзе ў Санкт-Пецярбургу.[1] Праз год яе надрукавалі ў Шклове на іўрыце, бо хацелі давесці чытачу пра тую шкоду, якую зведваюць яўрэі ад абмежавання іх правоў царскім рэжымам. Пазней са сваімі рускамоўнымі творамі яўрэі з Беларусі пачалі даволі часта выступаць на старонках яўрэйскага пецярбургскага часопіса "Восход", які выдаваўся на працягу 1881–1906 гадоў. Не ў сябе на радзіме, а ў Расіі ўдала дэбютаваў у пачатку XX стагоддзя на літаратурнай ніве ўраджэнец Антопаля (Драгічынскі раён) Мойша Стаўскі, пяру якога належаць кнігі "Ідыліі і малюнкі", "На схіле дня", "Арабскія апавяданні" і інш.

Было дастаткова прычын выкарыстоўваць рускую мову тым яўрэям Беларусі, што займаліся даследаваннем яе гісторыі, культуры, этнадэмаграфічных працэсаў. Дарэчы, да гэтага сталую зацікаўленасць выказвалі навукоўцы Санкт-Пецярбурга, Масквы, выконваючы сацыяльныя заказы высокіх свецкіх уладаў, бо ім патрэбны былі вычарпальныя веды пра наш край не ў малой ступені дзеля больш эфектыўнага правядзення русіфікацыі яго карэннага насельніцтва. Даследаванню этнічнай гісторыі Беларусі шмат гадоў прысвяціў магілёўскі яўрэй Павел Шэйн (1826–1900), не пакінуўшы нічога адметнага для свайго народа.

[1] Літаратура і мастацтва. 2007. 31 жніўня. С.2.

Адукацыю атрымаў не ў якой-небудзь традыцыйнай для яўрэяў навучальнай установе, а ў нямецкім вучылішчы Масквы пры лютаранскай царкве св. Міхаіла, што дазваляе гаварыць пра прыналежнасць яго да пратэстанцкай веры. Збіральніцкую дзейнасць пачаў у 1850-я гады. “Выдаў напісаную пад уплывам міфалагічнай школы “Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці” (Віцебск, 1867) – адну з першых спецыяльных фальклорных праграм у Расіі – і разаслаў яе па Беларусі.”[1] У адпаведнасці са сфармуляванымі ў Праграме палажэннямі П.Шэйну слалі сабраныя ў розных месцах матэрыялы: Адам Багдановіч, Яўхім Карскі, Юльян Крачкоўскі, Янка Лучына (сапр. Іван Неслухоўскі), Мікалай Нікіфароўскі, Зінаіда Радчанка і шэраг іншых аўтараў, якія пазней сталі шырокавядомымі даследчыкамі ў розных сферах беларускай навукі. Найбольш звестак пададзена П.Шэйнам пра Беларусь у кнігах “Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага (такое слова ўжыта пад уплывам афіцыйнай палітыкі русіфікацыі. – *Л.Л.*) насельніцтва Паўночна-Заходнягя краю (тт.1 – 3, 1887 – 1902). У іх “змешчаны апісанні хрэсьбін, калядных, масленічных, купальскіх, жніўных, вясельных, пахавальных абрадаў беларусаў з песнямі і фальклорнымі тэкстамі, міфалагічныя і бытавыя казкі пра жывёл, легенды, паданні, анекдоты, прыказкі, прымаўкі, звесткі пра матэрыяльную культуру беларусаў (жыллё, адзенне, ежу, заняткі і інш.)”.[2] Пяру П.Шэйна належаць і такія каштоўныя для навукі працы, як складзеныя ім зборнікі “Рускія народныя песні”, “Беларускія народныя песні” (змешчана больш за тысячу тэкстаў), “Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і г. д. (Т.1, вып.1 –2, 1898 – 1902).[3]

По вядомых прычынах аўтар напісаў іх на рускай мове. Будучы не вольным ад афіцыйных поглядаў, ён мог паказваць беларусаў толькі як нейкае адгалінаванне рускага народа, а не самастойны этнас, хаця прыведзеныя ў кнігах матэрыялы даволі часта сведчаць пра адваротнае, у чым

---

[1] Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн. 1989. С. 542.
[2] Там жа. С.543.
[3] Там жа.

акурат і заключаецца галоўная каштоўнасць збіральніцкай, навуковай дзейнасці гэтага яўрэйскага аўтара. Беларусы не могуць не быць удзячнымі яму.

Як станоўчае можна адзначыць, што выкліканы самымі рознымі прычынамі дабраахвотны пераход некаторых яўрэйскіх аўтараў на рускую мову ўсё ж канчаткова не адчужаў ні апошніх, ні іх сем’і ад роднай культуры, як гэта сёння спрэс характэрна для беларускіх майстроў прыгожага мастацтва, што пішуць па-руску. У такіх яўрэйскіх сем’ях па-ранейшаму панавала усё сваё, роднае, не заўважаліся якія-небудзь непажаданыя, шкодныя прыкметы русіфікацыі. З усім гэтым давядзецца сутыкнуцца пазней і сутыкнуцца вельмі сур’ёзна, што ў найбольшай ступені адаб’ецца на лёсе іўрыта. Пакуль жа яго стан не выклікаў асаблівага хвалявання. Працяглы па часе адрыў яўрэяў ад сваёй гістарычнай радзімы мала паўплываў на маштабы распаўсюджвання іўрыта сярод іх інтэлектуальнай эліты, духоўных асобаў. Шырокае, высокапрафесійнае выкарыстанне яго ў літаратурнай дзейнасці зрабіла ўраджэнца горада Стары Быхаў Калмана Шульмана (1809–1899) вядомым у межах усёй Расійскай імперыі. І не толькі. Гэтаму паспрыялі “яго аповесць пра паўстанне Бар-Кохбы, кнігі пра тыпаграфіі Егіпта і Палесціны, пра біблейскую геаграфію, этнаграфію Усходу, археалогію Палесціны і Вавілона, геаграфію Расіі. Па даручэнні таварыства распаўсюджвання асветы паміж яўрэямі Калман Шульман перапрацаваў на старажытна яўрэйскай мове з дапаўненнямі “Сусветную гісторыю”

Вебера ў 9-ці тамах”. Гэты аўтар не пабаяўся перакласці на іўрыт бульварны раман Эжэна Сю “Тайны Парыжа”, якім зачытвалася нават і моладзь іешываў.[1]

Даволі не рэдкім было і такое, калі хто-небудзь з яўрэяў пісаў свае творы ў адначассе на іўрыце, ідышы і рускай мове. Паспяхова спраўляўся з гэтай зусім не лёгкай задачай ураджэнец Капыля Абрам Паперна (1840–1919). Найбольш глыбока і праўдзіва ён паказаў жыццё яўрэяў, у т. л. і капыльскіх, у сваіх успамінах “Пережитое”. На ідышы і

[1] Мишпоха. 1999. № 6. С. 31.

іўрыце пісаў ураджэнец Каменецк-Літоўска Ехельшкель Коцік (1847 г. н.). Самы творчы перыяд яго жыцця звязаны з Варшавай, дзе ён выдаў нямала памфлетаў, кнігу апавяданняў у двух тамах.[1] У аднолькавай ступені валодаў і выкарыстоўваў гэтыя дзве мала падобныя адна на адну яўрэйскія мовы ўраджэнец майго роднага мястэчка Магільнае на Уздзеншчыне, сучаснік Шолама-Алейхема празаік Якнегоз. Не выключана, што мо такое рабочае двухмоўе зрабіла яго надзвычай пладавітым літаратарам, дапамагло напісаць больш за пяцьсот твораў.[2]

Нельга абмінуць і такую акалічнасць, што, акрамя іўрыта, ідыша, рускай мовы, сёй-той са здольных да літаратурнай творчасці беларускіх яўрэяў пісаў яшчэ і на іншых мовах, асабліва нямецкай з-за яе блізкасці да ідыша. З напісаных на гэтай мове твораў заслужанай папулярнасцю ў чытачоў карыстаўся выдадзены ў Берліне ў 1908–1910 гадах двухтомнік ураджэнкі з Бабруйска Паўліны Вянгеравай (дзявочае прозвішча – Эпштэйн) “Успаміны бабулі” з падзагалоўкам “Карціны з гісторыі рускіх яўрэяў у XIX стагоддзі”.

Ва ўсіх народаў, у тым ліку і яўрэйскага, выбар мовы для літаратурнай дзейнасці, калі не цалкам, дык у вельмі значнай ступені залежыць ад распаўсюджвання той ці іншай мовы ў грамадскім жыцці, у камунікацыйных зносінах паміж людзьмі. У першы перыяд знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі на такую ролю больш за ўсё было шанцаў у ідыша. Шырокае выкарыстанне апошняга ў самых розных сферах жыццядзейнасці яўрэяў не магло не адкрыць яму шлях і ў яўрэйскую мастацкую літаратуру, якая да сярэдзіны XIX стагоддзя стваралася на іўрыце. Беларусь мае ўсе падставы ганарыцца, што і яе ўраджэнец (капылянін) Мэндэле Мойхер Сфорым (Ш.Я.Абрамовіч, 1836–1917) належыць да заснавальнікаў рэалістычнай яўрэйскай літаратуры на ідыш. На ім пісалі добра вядомыя ва ўсім яўрэйскім свеце выдатныя прадстаўнікі прыгожага

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2008. 12 снежня. С. 14; 2009. 6 лютага. С. 6.
[2] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Белоруссии. Воспоминания. Мн., 2006. С. 279.

пісьменства Шолам-Алейхем (Ш.Н.Рабіновіч з Палтаўшчыны), Іцхак Перац (г. Замосьце Люблінскай губерні) і інш.

Шавіністычна настроеных палітыкаў і ідэолагаў царскай Расіі не дужа цікавіла развіццё літаратуры на нацыянальных мовах нярускіх народаў, бо гэта не адпавядала афіцыйнаму курсу на іх абавязковую культурна-моўную асіміляцыю. А ёй было каму дапамагаць і з боку яўрэяў, бо з кожным годам станавілася ўсё больш і больш тых, хто жадаў пісаць і пісаў літаратурныя творы па-руску, паколькі дзякуючы гэтаму рабіў сваё імя вядомым на ўсю неабсяжную імперыю. У такіх праарускай арыентацыі майстроў прыгожага пісьменства было нямала і апанентаў з ліку яўрэйскай творчай інтэлігенцыі. Іншай мовы, як роднай, не жадалі яўрэі Беларусі выкарыстоўваць у сваім тэатральным мастацтве. І тут праўда была цалкам на іх баку, бо калі тэатры працуюць на чужой для народа мове, яны прыносяць яму больш шкоды, чым карысці. Беларускі народ яшчэ і сёння не вызваліўся ад гэтай навалы. У гісторыі развіцця яўрэйскага тэатральнага мастацтва на Беларусі былі не толькі светлыя, але і змрочныя часы, асабліва калі яно чымсьці прыцягвала да сябе ўвагу царскіх уладаў. Зусім неабыякавымі былі яны і да мовы тэатральных п’ес, прычым не толькі напісаных на яўрэйскай мове ідыш. І ўкраінцам забаранілі ў 1880-я гады ставіць п’есы на роднай мове, з мэтай не даць узмацненню ў гэтага славянскага народа нацыянальнага духу. Па гэтай жа прычыне і беларускую мову не выкарыстоўвалі ў тэатральным мастацтве. Да таго ж яшчэ і адсутнічалі напісаныя на ёй драматычныя творы. Што датычыць ідыша, ён да пэўнага часу з’яўляўся адзінай рабочай мовай яўрэйскага тэатра, што не радавала не толькі цэнтральную свецкую ўладу, але і некаторыя яе мясцовыя структуры. Так у незвычайна цяжкі для ўсіх яўрэяў Расіі з-за ўчыненых у 1881 годзе масавых пагромаў час Магілёўская губернская камісія ў сваім пасланні да высокіх уладаў прапаноўвала “не дапускаць тэатральныя паказы на яўрэйскай мове”.[1]

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий. Из истории российских евреев (Часть третья: 1881 – 1920 годы). Иерусалим. 1994. С. 18.

Няцяжка зразумець, якую ролю ў такіх варунках адыгрываў бы тэатр у культурным жыцці яўрэяў пры забароне выкарыстоўваць іх родную мову. Пры ўсім жаданні магілёўскай адміністрацыі такі важны асяродак культуры, як тэатр, не стаў сродкам русіфікацыі яўрэяў. Але ўсяго толькі на некалькі гадоў. Канец панаванню роднага слова ў гэтай сферы быў пакладзены ў 1883 годзе, калі "міністэрства ўнутраных спраў асобым цыркулярам забараніла яўрэйскім тэатрам ставіць п'есы на мове ідыш, таму што гэтыя паказы – як дакладвалі з губерняў – "маюць мэтай уздым нацыянальнага духу". Цяпер ужо цэнзура не прапускала любыя п'есы на ідыш – незалежна ад іх зместу, а часам забараняла і п'есы, напісаныя па-руску, калі ў іх траплялiся выразы на ідыш".[1]

Падзеі канца XIX – пачатку XX стагоддзя у свеце належным чынам высветлілі: калі своечасова не зрабіць адпаведных дзейсных захадаў па абароне моваў нешматлікіх па колькасці народаў, ім (мовам) не ўхіліцца ад поўнага заняпаду, знікнення. Страта ж мовы для любога народа – гэта самая вялікая трагедыя, сапраўдная катастрофа. З гібеллю роднай мовы і яго чакае немінучая этнічная смерць. Гэта сёння асабліва не палохае, мо, толькі нас, беларусаў, таму ў масе сваёй яны не маюць аніякіх прэтэнзій да ўлады за яе стратную палітыку канчатковага зводу нашай роднай мовы.

Сказанае вышэй пра цалкам верагоднае знікненне моваў малаколькасных народаў планеты Зямля не магло абмінуць і ідыша, за такі трагічны лёс якога было каму хвалявацца і ў Беларусі. Мо гэта і тлумачыць, чаму менавіта ўраджэнец Беластока гродзенскі яўрэй і лінгвіст Лазар (паводле іншых крыніц – Людвіг) Заменгоф (1859–1917) стварыў дапаможную міжнародную мову эсперанта? Праект новай мовы з'явіўся ў друку ў 1887 годзе. Ён уключаў 900 каранёвых слоў і 16 граматычных правілаў. Вымаўленне і напісанне слоў у гэтай мове супадаюць. У яе аснове "агульная лексіка еўрапейскіх моў... новыя словы ўтвараюцца шляхам далучэння суфіксаў і прыставак". Свой

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий. Из истории российских евреев (Часть вторая...) С.69.

праект Л.Заменгоф падпісаў так: “Доктар Эсперанто” (яго псеўданім) –“Доктар, які спадзяецца”.[1] Праца Л.Заменгофа не знайшла ўсеагульнага ўсхвалення. Асабліва не ўзрадавала найбольш адукаваных, палітычна ўплывовых носьбітаў самых распаўсюджаных у свеце самых развітых моваў, бо апошнія ж разглядаліся не толькі як сродак зносін паміж людзьмі, але яшчэ і як галоўны інструмент асіміляцыі народаў. Затое выдатнае дасягненне аўтара эсперанта высока ацанілі Альберт Эйнштэйн, Леў Талстой, Максім Горкі, Янка Маўр і многія іншыя шырока вядомыя навукоўцы і пісьменнікі.[2]

Беларускія яўрэі разам са сваімі супляменнікамі з іншых рэгіёнаў царскай імперыі плённа працавалі не толькі на рускай літаратурнай ніве, папаўняючы яе патэнцыял цікавымі раманамі, аповесцямі, апавяданнямі, драматычнымі творамі, змястоўнай публіцыстыкай. Гэта этнічная група Беларусі моцна трымалася, павялічвала свае багатыя, арыгінальныя набыткі ў галіне музычна-песеннага мастацтва, у добрай ступені нават уплываючы на дадзеную сферу культурнага жыцця мясцовага насельніцтва. У неабходных выпадках – а здаралася яны даволі часта – яўрэйскіх музыкаў (кляйзмераў) запрашалі хрысціяне граць на рознага роду ўрачыстасцях, асабліва вяселлях. Як і раней, вядучым музычным інструментам у яўрэяў з’яўлялася скрыпка. Музыканты-віртуозы дасканала валодалі ігрой на кантрабасе, кларнеце, трубе, флейце, цымбалах і інш. Сапраўдным цэнтрам яўрэйскага музычна-песеннага мастацтва на Беларусі працягвала заставацца Вільня. Тут “на яўрэйскіх вяселлях забаўлялі прысутных расказамі, анекдотамі і песнямі прафесійныя пацешнікі-бадханы”. Самым славутым з іх быў Эльякум Цунзер. “Ён спяваў на вяселлях уласна створаныя песні, і шэсцьдзясят зборнікаў яго песень пабачылі свет у Расіі і ў Амерыцы… Натоўпы людзей сходзіліся

[1] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (у далейшым – БелСЭ). Т. XI. Мн. 1974. С. 474; Кандель Феликс. Очерки времен и событий… (Часть вторая…). С.153.

[2] У СССР эсперанта забаранілі ў 1938 годзе. І ўсё ж эсперанта працягвала жыць. Свайго апошняга слова яно яшчэ не сказала і пасёння. Што яго радзімай з’яўляецца Беларусь, трэба каб ведаў кожны вучань нават пачатковых класаў. Наведваючы Варшаву, не шкодзіла б з букетам кветак заглянуць на яе Цэнтральныя яўрэйскія могілкі, дзе пахаваны Лазар Заменгоф.

на яго выступленні, патрабавалася парой умяшанне паліцыі, каб выправадзіць з вяселля няпрошаных гасцей."[1] Як і многія іншыя атрыбуты культурнага жыцця, пабудаванае на нацыянальных традыцыях музычна-песеннае мастацтва спрыяла захаванню этнічнай адметнасці беларускіх яўрэяў.

Нягледзячы на рознага роду абмежаванні, дыскрэдытацыю, яўрэі працягвалі ўносіць свой пасільны ўклад не толькі ў культурнае, але і ў эканамічнае, навукова-тэхнічнае развіццё Расіі, што, напэўна, у нейкай ступені паслужыла для яе ўладаў падставай даць дазвол на выданне 16-томнай "Яўрэйскай энцыклапедыі". Заўважу, што ў той час гэтым не мог пахваліцца аніводзін нават карэнны нярускі народ Расіі. У тую энцыклапедыю трапіла і нямала звестак пра беларускіх яўрэяў, бо для гэтага ў іх хапала заслугаў. У "Яўрэйскай энцыклапедыі" нішто не было так грунтоўна асветлена, як культура гэтага народа, бо пра яе і сапраўды мелася што добрае пісаць.

Важкі ўнёсак яўрэяў у культуру і навуку Расіі ўсё ж не мог карэнным чынам паўплываць на яе палітыку ў дачыненні да гэтай этнічнай супольнасці ў цэлым. Перашкод на шляху самабытнага культурнага развіцця яўрэяў Беларусі ў перыяд яе знаходжання  пад уладай царскай Расіі існавала заўжды нямала. Толькі цаной велізарных намаганняў удавалася забяспечваць такое развіццё. Не выключаю, што менавіта дзякуючы ім шавіністычны імперскі рэжым час ад часу вымушаны быў лічыцца з імкненнем яўрэяў любым коштам  захаваць сваё этнічнае "Я". Гэта ім удавалася лепш, чым беларусам, праўда, не па віне апошніх.

З розных архіўных і літаратурных крыніц мы добра ведаем, як паспяхова праводзілася дзяржаўная палітыка русіфікацыі карэнных жыхароў усходніх раёнаў Беларусі ўжо пасля іх інкарпарацыі ў склад Расійскай імперыі ў выніку першага падзелу ў 1772 годзе Рэчы Паспалітай. А паспяхова праводзілася таму, што мясцоваму чыноўніцкаму апарату вельмі добра дапамагала Магілёўская праваслаўная епархія, падначаленая Найсвяцейшаму сіноду – актыўнаму

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий… (Часть вторая…). С.131.

праваднiку рускага пачатку жыцця сярод вернiкаў сваёй канфесii незалежна ад тэрытарыяльнага фактару. Зразумела, франтальна вытурыўшы беларускую мову з усiх грамадскiх сфераў дзейнасцi чалавека, чыноўнiцкi апарат нiяк не жадаў мiрыцца з тым, што ў некаторых з iх прысутнiчае – i прысутнiчае даволi працяглы час – яўрэйская мова. Аднак яна жыла, не ў малой ступенi дзякуючы вялiкай павазе да яе ў яўрэйскiх сем’ях, чым не надта маглi пахвалiцца беларусы. Найбольш гэта датычыла сем’яў, дзе бацькi былi заможнымi, адукаванымi.

Не толькi ў першыя гады жыцця ў складзе Расiйскай iмперыi, але i пазней трывалi фiяска i спробы яе свецкiх i духоўных уладаў звярнуць яўрэяў з нацыянальнага шляху. На тэрыторыi Беларусi не збочыць з яго ў значнай ступенi аблягчалася тым, што яўрэi тут не зведвалi нiякага асiмiляцыйнага ўздзеяння з боку яе тытульнага насельнiцтва, паколькi яно само здэнацыяналiзоўвалася ў вынiку мэтанакiраванай дзяржаўнай палiтыкi русiфiкацыi. Калi ў iншых нацыянальных рэгiёнах Расii яўрэi знаходзiлiся пад падвойным уздзеяннем дзвюх культур – рускай i мясцовай, дык на Беларусi “ў хаду” быў толькi першы фактар, а другi цалкам адсутнiчаў. Вiдаць, гэта i тлумачыць, чаму паводле перапiсу 1897 года 99,3% яўрэяў Беларусi назвалi iдыш роднай мовай, а Расii – 96,9%. Грузiнскiя ж яўрэi цалкам размаўлялi на грузiнскай мове.

З другой паловы XIX стагоддзя ўжо анiякай асiмiляцыйнай пагрозы для беларускiх яўрэяў не ўяўляла польская культура, паколькi з дапамогай усё той жа дзяржавы i ёй давялося ўступаць свае досыць трывалыя пазiцыi рускай культуры i па-сур’ёзнаму думаць хоць пра самае беднае жыццё на беларускай зямлi. У моц вышэй сказанага становiцца зразумелым, чаму яўрэi на Беларусi найменш за ўсё панеслi этнакультурных страт, чым гэта назiралася ў iх жыццi ў цэнтральных губернях iмперыi цi ў многiх яе нярускiх мясцовасцях.

Мой гiстарычны досвед не дазваляе прывесцi нават самай мiзэрнай колькасцi прыкладаў, каб пiсаць, што якiясьцi беларускiя сiлы выступалi супраць будаўнiцтва, функ-

цыянавання на іх зямлі яўрэйскіх культавых, навучальных устаноў, прысутнасці ў нашым краі яўрэйскага тэатральна-музычнага, выяўленчага мастацтваў. Словам, яўрэйская культура ў гэтым забраным кутку царскай імперыі не мела апанента з боку культуры мясцовага тытульнага навельніцтва. Жыццё не дае прыкладаў сцвярджаць, што па віне апошняга дзесьці, у чымсьці прыпынілася развіццё яўрэйскай культуры на беларускім абшары.

На новую больш высокую ступень узнялося яўрэйскае культавае будаўніцтва. Зразумела, заслугі ў гэтым прарускай мясцовай адміністрацыі ні на грош. Усе дасягненні на такой важнай дзялянцы духоўнага жыцця – вынік стараннаў самiх яўрэяў. Арганічна ўпісалася ў архітэктурнае аблічча Гародні пабудаваная ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя трохпавярховая цагляная сінагога ў неарускім стылі з элементамі мадэрна. Яе “галоўны фасад аздоблены квадратнымі ў сячэнні вежамі, кілепадобнымі завяршэннямі і чатырохспадавымі купаламі з ажурнымі металічнымі рашоткамі – парапетамі наверсе. Усе фасады пакрыты рустоўкай. Усе аконныя праёмы маюць лучковую і арачную формы і кілепадобныя ліштвы. Бажніца перакрыта крыжовымі нервюрнымі скляпеннямі. Інтэр’ер аздоблены шыкоўным ляпным дэкорам”.[1] Сваёй прыгажосцю радавала вока не толькі іудзеяў, але і вернікаў іншых канфесій пабудаваная ў 1906 годзе ў самым цэнтры Мінска харальная сінагога. Сродкі на яе будаўніцтва сабралі мінскія яўрэі.

Дзевятнаццатае стагоддзе яшчэ ў большай ступені засведчыла, што сінагогі ў нашым краі з’яўляліся не толькі месцам правядзення іудзейскіх набажэнстваў, месцам сустрэч кіраўнікоў кагала з людзьмі для абмеркавання з імі розных пытанняў удзелу ў супольным вырашэнні найбольш актуальных, неадкладных спраў. Былі яны яшчэ і важным культурна-асветніцкім асяродкам яўрэйскага жыцця, валодалі багатымі фондамі рэлігійных і свецкіх кніг. Трэба сказаць, што ў яўрэяў заўжды быў сапраўдны культ кнігі, прычым і ў саміх сем’ях. Нездарма кажуць: “Яўрэі – народ

[1] Народная газета. 1995. 11 студзеня.

кнігі”. Любоў да кнігі яны рознымі формамі перадавалі і мясцовым неяўрэйскім жыхарам. Пра гэта, дарэчы, узгадвае і беларускі этнограф, гісторык культуры, бацька выдатнага паэта Максіма Багдановіча Адам Багдановіч: “Якраз у гэты час (канец 70-х – пачатак 80-х гг. XIX стагоддзя, калі ён вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. – *Л.Л.*) малады прадпрымальны габрэй адкрыў у Нясвіжы букіністычную краму, якая служыла бібліятэкай для чытання. Гэта зрабіла разнастайным склад даступнай літаратуры, а да таго ж у яго кватэры пры той жа краме былі кнігі з ліку канфіскаваных са школьных і публічных бібліятэк, як сачыненні Чарнышэўскага, Дабралюбава, Пісарава, Шчалгунова, якія ён выдаваў “з-пад крыса” людзям надзейным, у тым ліку і мне”.[1] Ну чым гэты яўрэй-бібліёграф не асветнік на беларускай зямлі?!

Сінагогі Беларусі ніколі не зведвалі дэфіцыту ў галасістых кантарах. Сярод іх сустракаліся і такія, якім маглі б па-добраму пазайздросціць нават оперныя спевакі. Прыгожым голасам надзяліла прырода ўраджэнца Калінкавічаў Боруха Шульмана. Яго кар’ера пачалася ў пачатку XX стагоддзя з удзелу ў хоры Разумнага (Адэса). Калі голас Б.Шульмана пачула група салістаў італьянскай оперы на чале з каралём барытона Мація Бацісціны, яму адразу парэкамендавалі падвучыцца вакальнаму майстэрству ў знакамітага італьянскага педагога Аўгуста Броджы, на што дала згоду ўправа яўрэйскай абшчыны. Па розных прычынах (толькі не вакальнага характару) Б.Шульман не стаў оперным спеваком, затое выйшаў у лік найлепшых кантараў Расіі. “У 1910 годзе ён здзейсніў міжнароднае турне і спяваў у найбуйнейшых сінагогах Еўропы і ЗША.

У студзені 1917 года Борух Шульман выступаў на гастролях у галоўнай сінагозе Санкт-Пецярбурга (памылка: у той час гэта Петраград. – *Л.Л.*). Многа знакамітых прыхаджан прыйшлі паслухаць кантара, сярод іх быў шырока вядомы ў артыстычных колах антрэпрэнер вялікага Шаляпіна Ісай Рыгоравіч Дворышчаў. Сам выдатны актор і

[1] Літаратура і мастацтва. 1991. 5 жніўня. С.21.

спявак, ён расказаў пра сваё ўражанне Шаляпіну, і той захацеў пазнаёміцца з кантарам Борухам Шульманам. Сустрэча адбылася ў доме Шаляпіна. Спачатку спяваў гаспадар – затым госць. Ён спяваў з сінагагальнага рэпертуару, а затым, па просьбе Фёдара Іванавіча, арыю Манрыка з оперы Вэрдзі "Трубадур". Шаляпін быў у захапленні ад яго голасу і выканання. Пашкадаваўшы пра неадбытую оперную кар'еру, падарыў на памяць свой партрэт з дароўным надпісам, які як рэліквія захоўваецца ў сям'і кантара ў Іерусаліме."[1]

Прыведзеныя вышэй матэрыялы даюць дастаткова падстаў для высновы, што хаця беларуская і яўрэйская культуры нічым не падобныя адна да адной, гэта не перашкаджала ім мірна суіснаваць у межах адной і той жа тэрыторыі, прычым нават і ва ўмовах, калі на ёй царскія чыноўнікі праводзілі далёкую ад нацыянальных інтарэсаў і беларусаў, і яўрэяў культурн-моўную палітыку і праводзілі даволі паспяхова, усяляк сціраючы этнічную спецыфіку паміж тытульным насельніцтвам царскай імперыі і ўсімі яе нярускімі народамі. Ніводзін з іх не мог усцерагчыся ад негатыўных, цяжкіх наступстваў такой палітыкі.

Ужо з папярэдніх гістарычных эпох нам добра вядома, што, жывучы ўсё больш і больш часу ўдалечыні ад сваёй гістарычнай радзімы, некаторыя яўрэі даволі лёгка адрываліся – часцей за ўсё ў інтарэсах кар'еры – ад яе культурна-моўных, рэлігійных традыцый. Зразумела, такая з'ява не магла не набыць куды больш шырокага распаўсюджвання ў яўрэяў Беларусі, калі апошнія знаходзіліся ўжо не ў складзе Рэчы Паспалітай, а пад уладай Расійскай імперыі. Ніхто з яўрэяў не быў такім вялікім, актыўным прыхільнікам уваходжвання ў рускае грамадства, як выпускнікі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установ царскай імперыі. Звычайна нацыянальнае самазахаванне было для іх нечым другарадным у параўнанні з прасоўваннем уверх па службовай лесвіцы. "У яўрэйскай газеце "День" пісалі пра неабходнасць "прасякнуцца рускім нацыянальным духам і

[1] Мишпоха. 1999. № 6. С. 33.

рускімі формамі жыцця, а яўрэйскі паэт Йегуда Лейб Гардон высунуў папулярны па тых часах заклік: “Будзь яўрэем у сябе дома і чалавекам на вуліцы”.[1] Бясспрэчна, былі і праціўнікі такой інтэграцыі яўрэяў у рускі лад жыцця. Не толькі не падтрымлівала, але ўсяляк перашкаджала гэтаму нават пераважная частка рускай інтэлігенцыі. Аднак працэс русіфікацыі яўрэяў ніяк нельга было спыніць. І калі гэта датычыла яўрэяў Беларусі, такое было не на карысць яе нацыянальнаму інтарэсу з-за пашырэння маштабу русіфікацыі, якой не маглі не садзейнічаць падпалыя пад яе руйнавальны ўплыў асобы нават і не з асяроддзя карэннага насельніцтва. Хаця паводле тагачасных транспартных магчымасцяў Беларусь знаходзілася не так ўжо і блізка ад Санкт-Пецярбурга і Масквы, і ў нас не было недахопу ў яўрэях з моцна падарваным, надломленым нацыянальным духам. “У 1872 годзе ў Вільні ўтварыўся гурток моладзі (яўрэйскай. – *Л.Л.*), чалавек восем – дзесяць, якія адмаўлялі яўрэйскую “рэгрэсіўную” рэлігію, “архаічную” мову, нацыянальнасць і заклікалі да барацьбы за “агульначалавечыя ідэалы дабра і справядлівасці”. “Для нас, сацыялістаў, няма ні нацыянальнасцяў, ні расавых падзелаў, – пісаў адзін з сяброў гуртка Арон Ліберман. – Усе мы, што пражываюць у Расіі, рускія: у нас адны інтарэсы і адны звычаі. Мы – рускія!”[2] Азнаёміўшыся з такім поглядам, яго не маглі не падтрымаць многія беларусы з-за сваёй этнакультурнай блізкасці да рускіх, што было не ў інтарэсах нашага краю, паколькі перашкаджала фармаванню нацыянальнай самасвядомасці яго тытульнага насельніцтва. Для апошняга куды лепш было б прыслухацца да слоў Перэца Смаленкіна, што “аснова яўрэйства – мова іўрыт і вера ў нацыянальнае вызваленне. Без іўрыта няма іўдаізму, а без іўдаізму няма яўрэйскага народа”. Яму належаць такія праўдзівыя словы: “Усе тыя, хто пагарджаюць яўрэйскай мовай, пагарджаюць усім народам, і няма ім месца ў Ізраілі, яны здраднікі народа”.[3] Сказана даўно, але ёсць над чым задумацца не

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий… (Часть вторая…). С. 240.
[2] Там жа. С. 244.
[3] Кандель Феликс. Очерки времен и событий… (Часть вторая…). С. 246.

толькі сучасным яўрэям, але і беларусам, паставіўшы на меца іўрыта сваю родную мову, спрэс вытураную з грамадскага жыцця ўласнай дзяржавай.

Няўхільная інтэграцыя найбольш адукаваных яўрэйскіх кланаў у рускае жыццё, што выклікалася не толькі іх асабістым жаданнем, але і няпростымі абставінамі часу, не магла не весці да аслаблення ролі іудзейскай веры ў Расійскай імперыі (не магла тут быць выключэннем і Беларусь), у чым былі вельмі зацікаўленыя яе духоўныя і свецкія ўлады. Часам справа з рэлігійным пытаннем даходзіла да кур'ёзу. Прыклаў да гэтага нямала старанняў і віцебскі яўрэй А.Цёмкін пасля прыняцця хрысціянскай веры, што стала даволі пашыранай з'явай ужо і ў пачатку XIX стагоддзя. У пададзеным А.Цёмкіным расійскаму ўраду творы "Шлях ачышчэння да пазнання сапраўднай веры" былі сфармуляваны яго прапановы "для выпраўлення сэрцаў сыноў чалавечых".[1]

Усякага роду ўсталяваныя царскімі ўладамі абмежаванні ў дачыненні да яўрэяў не маглі і на іншых дзялянках культурнай нівы цалкам заглушыць дадзены каму-небудзь прыродай сапраўдны талент. Так, прыналежнасць Юдэля Пэна да яўрэйскай нацыянальнасці не стала падставай для віцебскага губернатара, каб не запрасіць таленавітага мастака ў горад для садзеяння развіццю ў ім розных відаў выяўленчага мастацтва. Лепшай кандыдатуры і нельга было адшукаць. Нагадаю, што гэты мастак паспяхова закончыў ў 1895 годзе Пецярбургскую акадэмію мастацтваў і ўжо паспеў папрацаваць у латвійскіх гарадах Дзвінску (Даўгаўпілсе), Рызе і Крайцбургу (цяпер – Екабпілс). Ю.Пэн ахвотна прыняў прапанову віцебскага губернатара і ў 1897 годзе адкрыў прыватную школу малявання і жывапісу. Навучаючы іншых, і сам ён вельмі плённа працаваў, стварыўшы вялікую колькасць твораў жывапісу: пейзажаў, партрэтаў, карцін на бытавую тэму, як след узбагаціўшы імі не толькі яўрэйскае, але і рускае выяўленчае мастацтва. Ю.Пэн у многім дапамог раскрыццю талента Марка Шагала, які ў

[1] Там жа. С.154.

1906 годзе паступіў вучыцца ўяго школу малявання і жывапісу.

Нельга не пагадзіцца з тым, што духоўнае жыццё яўрэяў Беларусі вызначалася б яшчэ большым багаццем, каб таленавітыя з іх ліку творцы не працавалі на іншыя культуры, пераважна на рускую. З такіх творцаў былі знятыя ўсялякія забароны датычна тэрытарыяльнага перамяшчэння ў межах Расійскай імперыі, таму зусім не рэдкія выпадкі, калі хто-небудзь з прадстаўнікоў яўрэйскай творчай інтэлігенцыі Беларусі займаўся сваёй любімай справай аж на Далёкім Усходзе. Не заседзеўся доўга на сваёй радзіме ў Вільні яўрэйскі юнак Марк Антакольскі (1873–1902). Прычым паклапацілася пра гэта сама жонка віленскага генерал-губернатара. Калі яна даведалася пра здольнасці гэтага рэзчыка па дрэве, адразу ж пастаралася накіраваць яго на вучобу ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў з рэкамендацыйным пісьмом, выдаўшы пэўную суму грошай. Яго першым настаўнікам быў М.Піменаў. Санкт-Пецярбург хутка перарабіў Марка на свой рускі лад. Калі раней свае скульптурныя працы прысвячаў галоўным чынам яўрэйскай тэматыцы, дык праз параўнаўча кароткі час змяніў яе на патрыятычна рускую. Першым буйным творам стала завершаная ў 1871 годзе скульптура “Іван Жахлівы”. Відаць, аўтар не ведаў, якую жорсткую расправу над яўрэямі ўчыніў гэты цар пры захопе ў 1563 годзе Полацка. Праз год творчыя набыткі М.Антакольскага папоўніліся скульптурай “Пётр І”. Першы са згаданых скульптурных твораў набыў сам расійскі імператар Аляксандр ІІ, каб перадаць у Эрмітаж. У парушэнне строгіх канонаў іўдаізму М.Антакольскі, застаючыся артадаксальным яўрэем, працаваў і над вобразам Ісуса Хрыста. Зямное жыццё таленавітага скульптара закончылася ў Германіі. Труну з яго “целам прывезлі ў Вільню, і тры дні запар ішлі жыхары горада, каб развітацца са сваім земляком. Яго пахавалі ў Пецярбургу, на яўрэйскіх Праабражэнскіх могілках, і натоўпы людзей праводзілі яго ў апошні шлях”.[1]

[1] Кандель Феликс. Очерки времен и событий… (Часть вторая…). С. 148.

Як і ў папярэдні перыяд, яўрэяў Беларусі працягвалі вабіць сваімі дасягненнямі ў галіне навукі і культуры еўрапейскія краіны. Знаходжанне Беларусі ў складзе Расіі не стала прычынай зніжэння інтэнсіўнасці паездак мясцовых яўрэяў дзеля атрымання, узбагачэння сваіх ведаў, прафесійнага майстэрства ў перадавыя навуковыя, культурныя цэнтры Еўропы. Як правіла, такія паездкі апраўдвалі сябе, давалі станоўчыя вынікі. Шмат карыснага набыў для сябе пад час навучання медыцыны і матэматыкі ў Лондане і Берліне шклоўскі талмудыст Б.Шкловер (Шык). Пасля вяртання ў Шклоў выдаў на яўрэйскай мове "Элементы Эўкліда" (1780), падручнік па трыганаметрыі (1793), заснаваў хімічную лабараторыю.[1] Мінімальную – а можа і проста нулявую – карысць атрымлівалі беларускія яўрэі ад тых сваіх супляменнікаў, што падаліся ў Еўропу, а назад не вярнуліся.

Вельмі лёгка зразумець, чаму, пакідаючы па розных прычынах Беларусь, яе яўрэі даволі часта новым месцам свайго далейшага жыцця выбіралі гістарычную радзіму ўласнага народа – Ізраіль. Сюды пераехаў у 1905 годзе і адзін з найлепшых яўрэйскіх педагогаў, ураджэнец Пінска Ісраэль Адлер (1870–1948). Пасяліўся ў Эрэц-Ісраэль і працягнуў тут сваю любімую педагагічную дзейнасць. Пінскі яўрэй "становіцца адным з першых, хто выкладае на іўрыце ўсе вучэбныя прадметы. Ён арганізуе літаратурнае выдавецтва і першую газету на іўрыце – "Ха-Хінух" (Адукацыя), адначасова піша артыкулы і падручнікі па пытаннях выкладання, педагогікі, грамадскіх праблемах ... Яго імем названа паселішча Рамат Ішай на поўначы Ізраіля".[2] Лішнім было б тлумачыць, як многае патрабуецца ад чалавека, каб атрымаць такое высокае прызнанне. Беларускі яўрэй займеў яго і ад уладаў, і ад грамадскасці Ізраіля.

У другой палове XIX стагоддзя і аж да канца існавання Расійскай імперыі жаданым месца для эміграцыі для прадстаўнікоў яе многіх народаў, у т.л. і яўрэйскага, становяцца

---

[1] Гісторыя Беларусі ...Т.3. С. 315.
[2] Авив. 2002, ноябрь. С. 12.

ЗША. Пра незлічоныя багацці, дэмакратычны лад жыцця ў іх не скупіліся пісаць у тагачаснай прэсе. За азначаны перыяд сюды прыбыло нямала беларускіх яўрэяў, прычым не без вялікай карысці для гэтай далёкай, невядомай краіны. Сапраўдны рэкорд паводле сямейнага ўдзелу ў эміграцыі ўстанавілі тры браты-яўрэі з Дукоры: Шмуэль, Барух, Даніэль Чарны. Усе яны нарадзіліся ў гэтай амаль нічым неадметнай беларускай вёсцы ў апошняй чвэрці XIX ст., а жыццёвы шлях закончылі ў Амерыцы, стаўшы там і нават за яе межамі добра вядомымі пісьменнікамі. Іх рабочая мова – ідыш.[1]

Проста не можа не здзіўляць наяўнасць вялікай колькасці беларускіх яўрэяў-эмігрантаў у ЗША ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя, здольных да літаратурнай творчасці. Вядомы знаўца праблемы беларускай эміграцыі ў ЗША Вітаўт Кіпель сярод такіх эмігрантаў згадвае пісьменніцу Мэры Энтын з Полацка, паэта Морыса Вінчэўскага з Янава, драматурга Давіда Пінскага з Магілёва, тэатральнага крытыка і апавядальніка Бернарда Горына з Ліды, паэта і апавядальніка Аўрома Рэйзіна з Койданава, паэта Давіда Эйгорна з Карэлічаў, паэта-класіка Г.Лейвіка з Ігумена, паэта і навеліста Хаіма Градэ з Вільні, паэтку Ану Марголіну з Беластока, песняра беларускіх краявідаў Перэца Гіршбэйна, апавядальніка і літаратурна-тэатральнага крытыка Боруха Глазмана з Мазыра, сусветна вядомага пісьменніка-фантаста Айзека Азімава з Мсціслаўшчыны.[2] Такім творчым пісьменніцкім патэнцыялам яўрэйскіх эмігрантаў з Беларусі не супраць была б узбагаціцца любая цывілізаваная краіна Старога свету. Дастаўся ж ён на вялікую радасць Новага свету – яго яшчэ зусім юнай дзяржаве – ЗША.

З пералічаных пісьменнікаў мала хто не вынес на старонкі сваіх літаратурных твораў амаль зусім не знаёмых амерыканцам слоў: Літва, Беларусь, літвін, літовец, беларус. Але былі і такія майстры мастацкага слова, што пад

---

[1] Даніэль Чарны нават быў сакратаром створанай у 1944 годзе ў Нью-Йорку пісьменніцкай арганізацыі ім Іцхака Пераца, якія пісалі на ідышы.
[2] Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мн., 1993. С. 294, 295.

уплывам рознага роду рускіх, польскіх, а пазней і ўкраінскіх эміграцыйных арганізацый называлі людзей нашага краю рускімі, палякамі, украінцамі, чым толькі ўносілі блытаніну, аддалялі чытача ад рэальнасці.

Дарэвалюцыйнага часу яўрэі – эмігранты з Беларусі даюць ёй дастаткова падстаў з большай павагай глядзець на сусветнавядомую амерыканскую кінастудыю Галівуд. А даюць таму, што кампанію "Metro-Goldwyn-Mayer" заснавалі сын мінскага старызніка, народжаны Лазар Меір (Луіс Майер), і нашчадак выхадцаў з гомельскага Палесся Маркус Лоеў. Кампанію "Warner Brothers" заснавалі чацвёра з 12-ці дзяцей Бені Ворана, шаўца з мястэчка Краснасельцы (цяпер – Браслаўскі раён Віцебскай вобласці), – Гары, Джэк, Сэмі, Альберт Йорнэры.[1]

Думаецца, Чарльз Энгоф і Мэер Левін мелі ўсе падставы ў сваёй кнізе "Уздым амерыканскай яўрэйскай літаратуры" (выйшла ў 1970 г. у Нью-Йорку) сцвердзіць такое: "У першыя два дзесяцігодзьдзі нашага стагодзьдзя цэнтры яўрэйскай цывілізацыі пераехалі ў Амерыку. Вільня пераехала ў Нью-Ёрк, Горадня ў Філадэлфію, а Менск у Бостан".[2]

Сапраўдны букет яўрэйскай творчай інтэлігенцыі з Беларусі склаўся ў XIX – пачатку XX стагоддзя ў Парыжы. Так дазваляе сцвярджаць змест публікацыі гісторыка Эмануіла Іофе "Под сенью Эйфелевой башни" (час."Мишота". 1999. № 6). У ёй даюцца кароткія звесткі пра тых яўрэйскіх эмігрантаў Беларусі, што тварылі ў розных сферах духоўнай дзейнасці аднаго з самых буйных цэнтраў еўрапейскай культуры. Так, ураджэнец горада Гродна Леон Бакст (1866–1924) пасля вучобы ў Парыжы ў 1893 – 1896 гг. і вяртання ў Расію стаў тут адным з самых вядомых акварэлістаў і жывапісцаў. З 1909 года ён жыве ў Парыжы, працуе галоўным мастаком-дэкаратарам "Рускіх сезонаў", якія тут ладзіла балетная група Сяргея Дзягілева. У 1912 годзе сваё творчае жыццё звязаў з Парыжам скульптар і жывапісец Павел (Пінхус) Крэмень (м. Жалудок Віленскай губерні). Прыкладна ў гэты час тут займаўся скульптурай і

---

[1] Беларусы ў свеце. 2009. № 5 (травень).
[2] Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША. С. 296

жывапісам Антуан (Натан) Пеўзнер (м. Клімавічы Магілёўскай губерні). У канцы лета 1910 года пераязджае ў Парыж і працуе ў ім да 1914 года мастак Марк Шагал. Яго калега Хаім Суцін[1] пасяліўся ў гэтым горадзе ў 1913 годзе. З яўрэйскіх майстроў мастацкага і публіцыстычнага слова, што абралі Парыж для сябе, Э.Іофе згадвае паэта і перакладчыка Мікалая Мінскага (сапр. Віленкін, 1855 – 1937, м. Глыбокае Дзісненскага павета Віленскай губерні). У горадзе на Сене ён напісаў драматычную трылогію "Жалезны прывід", "Малая спакуса", "Хаос". Актыўную публіцыстычную дзейнасць у Парыжы разгарнуў у пачатку XX стагоддзя ўраджэнец Мінска Саламон Познер (1876 – 1946). На працягу 1903 – 1912 гг. ён забяспечваў французскую прэсу інфармацыяй пра становішча яўрэяў у Расіі, супрацоўнічаў у такіх перыядычных выданнях, як "Юманітэ" (газета Французскай кампартыі), "Радыкал", "Ле Эўропеен". Пералік такіх творцаў-яўрэяў з Беларусі не ўяўляе цяжкасці прадоўжыць, але і вышэй названых дастаткова, каб зразумець, які яны каштоўны ўклад зрабілі для культурнага жыцця Парыжа. Было б несправядліва не бачыць ва ўсім гэтым і ролі Беларусі.

Як вынікае са сказанага, уведзеныя царскім урадам пэўныя абмежаванні правоў яўрэяў хаця ў нейкай ступені і адбіліся на іх культуры, аднак не спынілі яе далейшага развіцця, узбагачэння, што вельмі добра відаць на прыкладзе Беларусі. Да таго ж яе яўрэі ўнеслі ў тыя гады важкі ўклад у культурнае жыццё іншых краін, у т.л.і ЗША.

З усёй катэгарычнасцю можна сцвярджаць, што досыць заўважная прысутнасць яўрэйскай культуры ў Беларусі і ў гады знаходжання апошняй пад царскім прыгнётам ніколі не вяла да дэнацыяналізацыі яе карэннага насельніцтва, чаго нельга сказаць ні пра польскую, ні пра рускую культуры. Больш за тое, мы, беларусы, ў немалой ступені абавязаны яўрэйскай культуры за здзейсненую ёю ролю нават па пэўным звужэнні маштабаў руйнавальнага ўплыву царскай русіфікатарскай палітыкі на духоўнае жыццё

[1] Ураджэнец м. Смілавічы (1893 – 1943; пахаваны на парыжскіх могілках Манпарнас). У 2008 годзе ў шэрагу газет паведамлялася, што адну з яго карцін прадалі на аўкцыёне за 17 млн. долараў.

нашага краю. З гэтай пачварнай з'явай яму давялося сутыкнуцца адразу ж пасля праведзенага ў 1772 годзе першага падзелу Рэчы Паспалітай. Дзеля хутчэйшага дасягнення жаданага поспеху ў асіміляцыі стараюцца ў першую чаргу распаўсюдзіць яе на гарадское насельніцтва, мяркуючы, што не праз такі ўжо працяглы час непазбежна перакінецца яна і на вясковых жыхароў. Такую тактыку няспынна і праводзілі царскія ўлады, але належнага эфекту зусім не проста было дамагчыся і ў значнай ступені таму, што ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя прыкладна палову ўсяго гарадскога насельніцтва Беларусі складалі яўрэі. Хаця мінулі добрыя чатыры стагоддзі ад часу іх пасялення на гэтай зямлі, яўрэйская культура практычна не панесла аніякіх страт у сваёй самабытнасці. Галоўную прычыну тут трэба шукаць не ў выразнай адметнасці яўрэйскай культуры ад беларускай,  польскай і рускай, хаця з гэтым фактарам нельга не лічыцца, а ў вялікім нежаданні яўрэяў растварыцца ў чужой культурна-моўнай стыхіі, навекі страціць сваё этнічнае "Я". З такім непажаданым для сябе фактарам не маглі не сутыкнуцца засланыя на беларускую зямлю ідэолагі і архітэктары русіфікатарскай палітыкі. Асабліва нічога добрага ў іх не атрымлівалася ў Бярэсці, Слоніме, Баранавічах, дзе ўдзельная вага яўрэяў складала 70 працэнтаў і больш агульнай колькасці гарадскога насельніцтва. Такое не ў малой ступені было характэрна і Мінску, дзе ў 1909 годзе на яўрэяў прыпадала 43 працэнты агульнай колькасці яго жыхароў, а на беларусаў толькі 8 працэнтаў. Гэта толькі калі яўрэйская творчая інтэлігенцыя ва ўсё большых маштабах сама пачала, паводле розных меркаванняў, аддаваць свой талент на карысць рускай нацыі, прысутнасць у нашым краі яўрэйскай культуры не так істотна спрыяла зніжэнню маштабнасці русіфікацыі яго карэннага насельніцтва.

Трохі лягчэй было працаваць русіфікатарам ва ўсходнебеларускіх гарадах, асабліва тых, дзе моцныя пазіцыі мела зарыентаваная на Маскоўскі патрыярхат праваслаўная царква.  Яшчэ і да падзелаў Рэчы Паспалітай яна ўсю сваю духоўную дзейнасць упарта скіроўвала на

ўсталяванне рускага духу сярод праваслаўнага люду беларускай зямлі. У новых умовах такая дзейнасць набыла яшчэ большы размах, рэальна пагражаючы беларусам стаць канчаткова адарванымі ад сваіх этнічных каранёў.

Важнае месца яўрэйскага фактару ў культурным жыцці Беларусі разумелася адданымі яе нацыянальнаму ідэалу творчымі людзьмі. Без такога разумення наўрад ці бацька беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч стаў бы пісаць лібрэта да аперэты на тэму "Рэкруцкі яўрэйскі набор" (1841 г.) і выступаць у ёй у ролі яўрэя Іагана Бенатана. Не абышоўся без запрашэння яўрэяў да сябе на працу і стваральнік першага нацыянальнага беларускага тэатра Беларусі Ігнат Буйніцкі. Адзін час у ім граў на цымбалах І.Голер, а яго брат – на скрыпцы.

Збліжэнню яўрэяў з мясцовым беларускім насельніцтвам добра паспрыяла ўзмацненне іх супольнай барацьбы з агульным ворагам – царызмам, які ў сваёй русіфікатарнай дзейнасці не рабіў аніякай скідкі ніводнаму з нярускіх народаў. У гэтай барацьбе актыўна ўдзельнічалі прадстаўнікі як беларускай, так і яўрэйскай творчай інтэлігенцыі. Калі таго патрабавала сітуацыя, яны не раз прыходзілі адзін аднаму на дапамогу. Заможную, адукаваную частку яўрэяў у адрозненне ад такіх сацыяльных катэгорый мясцовых палякаў і рускіх нікольні не пужаў рух беларусаў за нацыянальна-культурнае адраджэнне. Гэтым можна патлумачыць, чаму рэдакцыя рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку менскай газеты "Северо-Западный край", дзе ўпершыню на белмове з'явіўся верш Янкі Купалы "Мужык", размяшчалася ў доме Мельцара і выдавалася ў друкарні Берманта.

Газета "Наша ніва" нейкі час выдавалася ў віленскай друкарні яўрэйкі Ром. Акрамя Змітрака Бядулі, з гэтай газетай актыўна супрацоўнічаў яго зямляк Вульф Сосенскі. "Ён сябраваў з беларускім сацыялістам Антонам Луцкевічам, склаў зборнік "беларуска-жыдоўскага фальклору".

Знаны сіяніст Ззэеў Жабацінскі ў 1900-х гг. усхваляў нацыянальнае самавызначэнне беларусаў … На Беларусі ў Жабацінскага заўсёды было нямала прыхільнікаў: нездарма

ў 1913 г. ён завітаў у Полацк з лекцыяй “Асіміляцыя народнасцей”.[1]

Цяжка сказаць, калі б у Мінску выйшаў першы нумар бальшавіцкай газеты “Звезда” (9 жніўня 1917 г.), каб да гэтага не прычыніўся гаспадар размешчанай на рагу Нямігі і Багадзельнай (сёння – Камсамольскай) друкарні яўрэй Герц Данцыг. Праўда, прычыніўся не дабраахвотна, а пад прымусам першага рэдактара газеты Аляксандра Мяснікова. З лёгкай рукі Г.Данцыга газета “Звезда” і сёння выходзіць, прычым у адрозненне ад усіхіншых урадавых газет на беларускай мове, хаця да 1925 года выдавалася толькі па-руску. Вось бы нам сёння адшукаць Г.Данцыга для “Советской Белоруссии”, “Белорусской нивы”, “Народной газеты”, ”Рэспублікі”! Можа тады і яны адцураліся б ад мовы суседняй дзяржавы і пачалі б выходзіць па-беларуску.

Можна толькі пашкадаваць, што і на тэрыторыі Беларусі, як і ў многіх іншых месцах Расійскай імперыі, не ўдалося абысціся без яўрэйскіх пагромаў, прычыны чаму былі самыя розныя, але толькі не датычныя пытанняў культуры, бо яна не раз’ядноўвала, а, наадварот, скансалідоўвала людзей незалежна ад іх этнічнага паходжання. Вось невялічкі штрышок да сказанага: калі ў 1910 годзе, дзякуючы стараннем рэдакцыі газеты “Наша ніва”, пабачыў свет першы “Беларускі каляндар”, у ім змясцілі спіс з датамі не толькі праваслаўных і каталіцкіх свят, але і яўрэйскіх, бо, відаць, мелася жаданне зрабіць так, каб і вернікі гэтай канфесіі атрымалі магчымасць загадзя падрыхтавацца да свайго свята.

* * *

Зроблены на папярэдніх старонках сціслы агляд звязаных з культурай падзей сведчыць, што на беларускіх землях пасля далучэння іх да Расійскай імперыі у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай яўрэям даводзілася ў досыць цяжкіх умовах захоўваць сваю этнакультурную самабытнасць. А захоўвалася ж такая самабытнасць толькі дзяку-

[1] Мы яшчэ тут. 2006. ліпень.

ючы таму, што гэтая этнічная супольнасць увесь час імкнулася максімальна выкарыстоўваць свой творчы патэнцыял дзеля інтарэсаў роднай культуры, што не магло не садзейнічаць яе далейшаму развіццю, выхаду на больш высокі рубеж. Сказанае характэрна для ўсіх яе жанраў, прычым і для звязаных з моўнай асновай, бо толькі такія пласты культуры ў стане выратаваць народ ад асіміляцыі. Цалкам апраўданае нежаданне стаць ахвярай русіфікатарскай палітыкі царызму вымушала яўрэяў са здаровай этнічнай самасвядомасцю на пошукі больш эфектыўных сродкаў і формаў працы з моладдзю ў духу ўласных традыцый. З гэтай гістарычнай місіяй паспяхова спраўляліся хедары і ешыботы, хаця ва ўзгадаванні яўрэйскай моладзі ўсё большую ролю пачынала адыгрываць афіцыйная руская сістэма адукацыі.

Свядомае, мэтанакіраванае наданне прыярытэту ў духоўнай творчасці ўласнаму над чужым забяспечвала яўрэйскай культуры і ў часы Расійскай імперыі больш-менш неабходныя ўмовы для самабытнага развіцця. Гэта, яшчэ раз хачу падкрэсліць, ніколькі не пярэчыла карэнным інтарэсам беларускага народа, наадварот, рабіла духоўнае жыццё яго краю больш шматколерным, цікавым. Не пабаюся памыліцца такім сцвярджэннем, што досыць шырокае бытаванне яўрэйскай культуры ў гарадах і буйных мястэчках у пэўнай ступені стрымлівала русіфікацыю іх беларускага насельніцтва, якога ў бальшыні выпадкаў налічвалася тут у меншай колькасці за яўрэяў, рускіх і палякаў. Уведзеныя ў свой час уладамі Рэчы Паспалітай, а затым Расійскай імперыі абмежаванні на развіццё беларускай нацыянальнай культуры не толькі самым адмоўным чынам адбіваліся на лёсе апошняй, але і не спрыялі яе папулярызацыі сярод мясцовага яўрэйскага насельніцтва. Гэта тлумачыць, чаму прадстаўнікі яго творчай інтэлігенцыі, калі поўнасцю ці часткова сыходзілі з нацыянальнай нівы, дык свой прыродны талент аддавалі не беларускай культуры, хаця жылі на яе гістарычнай тэрыторыі, а польскай ці рускай. Нават самы адданы беларускім нацыянальна-культурным традыцыям Змітрок

Бядуля спачатку пісаў свае творы на рускай, а затым ужо на беларускай мове. І не памыліўся. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што на беларускай зямлі няма больш паважанага, заслужанага па ўкладзе ў развіццё яе нацыянальнай культуры яўрэя, як Змітрок Бядуля. Яго справядліва называюць класікам беларускай літаратуры. Як станоўчае можна адзначыць, што на рубяжы XIX–XX стагоддзяў у асяроддзі мясцовых яўрэяў пабольшыўся лік прыхільнікаў беларускай нацыянальнай культуры, што не ў малой ступені тлумачыцца агульным уздымам яе ў procівагу ўсім намаганням ідэолагаў і праваднікоў дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі.

Прыкметна вырасла роля яўрэйскай творчай інтэлігенцыі Беларусі ў папулярызацыі духоўных каштоўнасцяў гэтага краю, незалежна ад іх этнічнага паходжання, на еўрапейскім кантыненце. Прадстаўнікі гэтай інтэлігенцыі і амерыканцам сказалі важкае праўдзівае слова пра малавядомы ім беларускі народ, яго гісторыю і культуру. Выхаду Беларусі ў шырокі свет спрыялі вялікія дасягненні яе яўрэяў у розных галінах навукі і культуры. Ці ж гэта не ганарова, ці ж гэта не надавала прэстыжнасці Беларусі, што на яе зямлі ў мястэчку Лужкі Шаркаўшчынскага раёна нарадзіўся бацька сучаснай размоўнай мовы іўрыт Элізэр Бен-Іегуд (Лазар Перэльман). Гэтым размоўным варыянтам іўрыту і раней, і зараз карыстаюцца мільёны яўрэяў, толькі, на вялікі жаль, не ведаюць, якому кутку планеты Зямля дзякаваць за гэта. Не пабаюся паўтору і скажу: “Беларусі! Беларусі дзякуйце!”

## 3. У савецкім фармаце

Яўрэі Беларусі, як і ўсёй царскай Расіі, горача віталі здзейснены ў ёй у кастрычніку 1917 года рэвалюцыйны пераварот. Многія з іх былі актыўнымі ўдзельнікамі гэтай гістарычнай, эпахальнай, як раней любілі пісаць, падзеі і, як толькі ўзнікла магчымасць, сталі актыўна праводзіць у жыццё ідэі кастрычніка. Сярод іх важнае месца займала праблема культуры, прычым культуры не ўвогуле, а пралетарскай, якая ў першую чаргу павінна служыць інтарэсам шырокіх працоўных мас. На стварэнне, развіццё такой культуры бальшавіцкая партыя пераважна і скіроўвала творчую інтэлігенцыю ўсіх народаў, у т.л. і яўрэйскага. Волю партыі ўсяляк імкнулася праводзіць у жыццё кіраўніцтва Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР), пазней – Літоўска-Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі (Літбела), а затым ізноў БССР. Толькі вось агульная бяда і для тытульнага народа Беларусі, і для яе яўрэйскай, татарскай, украінскай і іншых этнічных супольнасцяў, што ў сакавіку 1921 года паводле Рыжскай дамовы значная частка тэрыторыі гэтай краіны адышла пад уладу пілсудскай Польшчы, у выніку чаго былі парушаны не толькі здаўна ўсталяваныя ў нас эканамічныя, але і культурныя сувязі. Ад гэтага часу яўрэйская культура на этнічным беларускім абшары пачала развівацца ў дзвюх іпастасях: савецкай (БССР) і буржуазнай (Другая Рэч Паспалітая).

Адзначаныя і іншыя негатыўныя моманты ўсё ж не маглі адмоўна адбіцца на стан культурнага жыцця Беларусі, у т.л. яе яўрэйскай супольнасці. На першым часе такое назіралася і на незаконна перададзеных Польшчы беларускіх землях. Спрэс ідзе аднаўленне разбураных у ходзе вайны і замежнай інтэрвенцыі гарадоў і вёсак, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарту, а людзей, нягледзячы на ўсё гэта, цягнула да сябе культура. Дзяржава, грамадства, як толькі маглі, рухалі наперад гэтую важную сферу. І яна не стаяла на месцы. Хаця і павольна, але рухалася да новых вяршынь.

Першыя пазітыўныя зрухі ў культурным жыцці беларускіх яўрэяў, выкліканыя, несумненна, кастрычніцкім пераваротам 1917 года ў Расіі, ніколькі не вялі да забыцця імі сваіх абавязкаў перад этнічнай радзімай далёкіх продкаў. Гэтаму імкненню ўсяляк спрыялі існыя ў той час у Беларусі сіяніцкія арганізацыі. Пад іх уплывам знаходзілася і значная частка творчай інтэлігенцыі, моладзі. Хаця на гістарычнай зямлі яўрэяў ў 20-я гады ХХ стагоддзя мелася надзвычай шмат вострых праблем эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага характару, яўрэйскія эмігранты з Беларусі і на новым для сябе месцы знаходзілі час, магчымасці для заняцця любімым відам творчай дзейнасці. У якасці прыкладу можна спаслацца на Шлому Розэнштэйна. Не ў сябе на радзіме, а на зямлі далёкіх продкаў ён стаў сусветна вядомым лексікографам іўрыта, аўтарам самага папулярнага іўрыцкага слоўніка.

Далёка абачлівых яўрэяў не ўсё задавальняла з таго, што ў першыя гады савецкай улады рабілася пад чырвонымі сцягамі кастрычніцкай рэвалюцыі. Такая незадаволенасць толькі падагравала эміграцыйныя настроі, у чым ужо меўся даволі багаты досвед. Шукальнікі асабістага шчасця нікуды так настойліва не імкнуліся, як у ЗША. Рэвалюцыйныя падзеі 1917 года ў Расіі выштурхнулі сюды пазней добра вядомага музыканта Яшу (Ёсіфа) Хейфеца (бацькі з Полацка, а сам ён нарадзіўся ў Вільні ў 1901 годзе). Пра вялікі прыродны талент скрыпача пераканаўча сведчыць факт яго гастроляў у Еўропе ўжо з 12-гадовага ўзросту. Удалечыні ад радзімы ён стварыў сабе славу аднаго з самых знакамітых музыкантаў свету. Пры жаданні колькасць такіх прыкладаў можна было б істотна павялічыць.

Яўрэйская этнічная супольнасць савецкай Беларусі, пазбаўленая ў выніку кастрычніцкага перавароту і грамадзянскай вайны многіх сваіх творцаў, усё ж мела на гэтай зямлі дастатковы патэнцыял для культурнага развіцця, узбагачэння ўласнага духоўнага жыцця. Пэўны час яўрэйская культура ў БССР пачувала сябе непараўнальна лепш, чым у дарэвалюцыйны перыяд. Яна нават стала аб’ектам дзяржаўнай культурнай палітыкі БССР. У тыя цяжкія,

галодныя пасляваенныя гады яўрэі мо ні ў чым не мелі такой вялікай патрэбы, як у забеспячэнні сябе неабходнай кніжнай прадукцыяй, перыядычнымі выданнямі. І штосьці рабілася ў гэтым напрамку, да прыкладу, стварэнне ў 1923 годзе ў Дяржаўнай бібліятэцы БССР спецыяльнага яўрэйскага аддзела. Такое стала магчымым дзякуючы перадачы ёй кніжнага фонду зачыненай Маскоўскай харальнай сінагогі. Штогод у аддзел паступала нямала літаратуры, аўтарамі якой былі беларускія яўрэі, бо на гэтым участку культурнай нівы працавалі яны досыць плённа.

Не абышла яўрэйскую культуру абвешчаная ў ліпені 1924 года дзяржаўная палітыка беларусізацыі. У наступным годзе ў структуры Інстытута беларускай культуры ствараецца яўрэйскі аддзел (пазней – сектар). Беларускія яўрэі прыхільна паставіліся – і гэта зразумела – да таго, што ў 1925 годзе Бюро ЦК КП(б)Б сваёй пастановай забараніла афіцыйна ўжываць слова “жыд”, замяніўшы яго на “яўрэй”. Якіх-небудзь пярэчанняў супроць такой замены не заўважалася сярод беларусаў.

Дзяржаўная палітыка беларусізацыі застала яўрэяў не на якім-небудзь культурным дзірване. Наадварот, яшчэ задоўга да гэтага ў дадзенай самай прэстыжнай, галоўнай этнаўтваральнай сферы дзейнасці чалавека яны мелі на беларускай зямлі, як паказана вышэй, багацейшыя набыткі. Да іх шмат чаго дадалося і ў першыя гады існавання БССР, пра што нельга не сказаць больш падрабязна, каб лепш зразумець значэнне беларусізацыі і для яўрэйскай культуры.

Стагоддзямі адарваныя не па ўласнай волі ад сваёй гістарычнай радзімы беларускія яўрэі накшталт усім сваім супляменнікам з іншых краін нічым так не даражылі, як прыроднымі рэлігійна-культурнымі традыцыямі, добра ўсведамляючы, што менавіта ў іх закладзена трывалая гарантыя захавання сябе як часткі самабытнага яўрэйскага этнасу незалежна ад месца пражывання. Ад такой выверанай гістарычным досведам практыкі яны не адступілі і ў час, калі ў Беларусі пачаліся як след не прадуманыя сацыялістычныя пераўтварэнні. Несумненна, самым вялікім плюсам беларусізацыі для яўрэяў з'яўлялася наданне іх даволі

шырока распаўсюджанай на той час роднай мове ідышу статусу афіцыйнай. Гэта дазволіла свабодна развіваць на ёй сваю нацыянальную культуру, выдаваць кнігі, газеты, часопісы, уводзіць яе ў навучальна-выхаваўчы працэс уласнай сістэмы адукацыі. Праўда, сярод яўрэяў меліся і прыхільнікі іўрыта, але ў моц розных прычын верх атрымаў ідыш. І хаця многія з актыўных удзельнікаў яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння не звязвалі будучыню апошняга з наданнем усёй паўнаты сацыяльных функцый ідышу, як адной з дзяржаўных моваў БССР, яго пазіцыі год ад году трывалелі. Немалаважную ролю ў гэтым адыгрываў знадворны фактар: вялікая папулярызацыя ідыша ў многіх краінах Еўропы, ЗША. Як вядома, у міжваенны час на ім выконваў песні і папулярны амерыканскі негрыцянскі спявак Поль Робсан. Яму належаць такія словы: “Яўрэйскі народ можа ганарыцца мовай ідыш. Яна не бядней за англійскую.

Яна пявучая не менш за французскую. І выразная гэтак жа, як руская”.[1] Было б проста нелагічным не выкарыстоўваць яўрэям Беларусі гэтай мовы, тым больш яшчэ ў якасці дзяржаўнай.

Беларусы, адчуўшы ўжо з першых гадоў пасля гвалтоўнага далучэння да расійскай імперыі моцны ўціск, а дзе-нідзе і выцясненне іх роднай мовы рускай, надзвычай талерантна ставіліся да нацыянальных моваў этнічных меншыняў свайго краю, у т.л. і яўрэйскай. Не выключана, што мо дзякуючы такому фактару ў 1920 годзе ў БССР на ідышы размаўляў 91 працэнт агульнай колькасці яўрэяў.У заслугу савецкай улады гэтага пакуль што нельга было паставіць, бо праіснавала яна яшчэ вельмі кароткі час. У тым жа годзе ў Расійскай Федэрацыі аналагічны паказчык склаў 48 працэнтаў, ва Украіне – 76.[2] Мінула зусім мала часу пасля надання палітыцы беларусізацыі статусу дзяржаўнай і ўжо практычна немагчыма было знайсці такую дзялянку яўрэйскай культуры, на якой не заўважыліся б істотныя пазітыўныя зрухі. Імкліва пашыраецца сетка

[1] Авив. 2006. март – апрель. С. 10.
[2] Смиловицкий Леонид. Евреи Беларуси. Из нашей общей истории. 1905 – 1953. Мн., 1999. С. 40.

яўрэйскіх выхаваўчых і навучальных устаноў, функцыянуюць яўрэйскае аддзяленне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, тры тэхнікумы, у кастрычніку 1926 года засноўваецца Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР, першымі артыстамі якога былі выпускнікі яўрэйскага сектара Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. У пачатку 1928 года яго "калектыў паспяхова выступіў на выстаўцы мастацтваў народнасцяў СССР у Маскве, быў адзначаны ганаровым медалём. У 1930 годзе спектакль "Фуэнтэ Овехуна" ("Авечая крыніца" Лопэ дэ Вегэ) у пастаноўцы Л.Літвінава з Ю.Арончык ў ролі Лаўрэнсіі трупа паказала на алімпіядзе мастацтваў народаў СССР, якая праходзіла ў Маскве з 15 па 22 чэрвеня ў Зялёным тэатры Парка культуры і адпачынку… у снежні гэтага ж года трупа брала ўдзел у Тыдні беларускай культуры, які прайшоў у Маскве". З музычных яўрэйскіх калектываў БССР найбольшай папулярнасцю карысталася створаная ў 1928 годзе пры Дзяржаўнай філармоніі харавая капэла пад кіраўніцтвам добра вядомага і сярод беларусаў Самуіла Палонскага, асабліва за песню на словы Янкі Купалы "Вечарынка ў калгасе".[1]

Жаданне яўрэйскай творчай інтэлігенцыі БССР да плённай стваральнай прафесійнай працы на сваёй культурнай ніве было, як ніколі раней, надзвычай вялікім, прычым такім, што далёка не ўсім хапала на ёй месца. Паводле практыкі мінулых гадоў, каму не даставалася жаданага месца на роднай ніве, падаваліся ў іншыя культуры і найперш – у беларускую. Абгрунтаваць такі выбар вельмі проста: па-першае, гэта была культура народа, на зямлі якога яўрэі здаўна пасяліліся і працягвалі жыць. Па-другое, беларуская культура валодала неаспрэчнай перспектывай: належыць тытульнаму, дзяржаўнаму народу, мела найбольшую колькасць пасіўных і актыўных носьбітаў, лагічна карысталася прэрагатывай ва ўладных структурах, што, між іншым, прадугледжвалася і ў прынятых у той час саюзных партыйных і савецкіх дакументах. Гэта сёння абсалютная бальшыня творчай інтэлігенцыі глядзіць на беларускую

[1] Басин Яков. Большевизм и евреи: Белоруссия, 1920-е. Исторические очерки. Мн., 2008. С. 224.

культуру як на тупіковую, паколькі лічыць – і на гэта мае рацыю, – што з прычыны функцынаявання ў краіне толькі рускамоўнай сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школы ў такой культуры з цягам часу не застанецца крытычнай масы носьбітаў, і ёй (беларускай культуры) на сваёй этнічнай тэрыторыі належыць уступіць месца рускай культуры. У гады беларусізацыі так не глядзелі на беларускую культуру БССР ні беларусы, ні яўрэі. Калі апошніх у чымсьці не задавальняла праца на ніве сваёй культуры, яны ў абсалютнай бальшыні выбіралі для сябе – асабліва ў першым пяцігоддзі беларусізацыі – беларускую. Няма ніякага сумнення ў тым, што найбольшай павагі да сябе заслугоўваюць тыя яўрэі, якія пры любых абставінах – за выключэннем толькі ўжытых супроць іх рэпрэсій – імкнуліся працаваць і працавалі на ніве роднай культуры. Іх неацэнны ўклад у апошнюю яшчэ як след не паказаны, але будзем спадзявацца, што хутка гэтаму надыдзе канец.

З’яўляючыся – няхай сабе і няпаўнапраўным – палітычным суб’ектам СССР, Беларуская ССР не магла не дбаць аб належнай адбудове сваёй сталіцы – горада Мінска. Праблем з гэтым, у тым ліку і кадравых, заўжды ўзнікала нямала. Дзеля іх паспяховага развязвання добра папрацавалі і яўрэйскія архітэктары, найперш – Іосіф Лангбард (1882–1951; г. Бельск Гродзенскай губерні). Хаця ў тыя гады ён жыў у Ленінградзе, з яго ўдзелам шмат што рабілася ў беларускай сталіцы. Ён аўтар будынка Дома ўрада (1934), Беларускага тэатра оперы і балета (1938), акруговага Дома афіцэраў (1939), галоўнага корпуса Акадэміі навук БССР. Паводле яго праекту ў 1939 годзе пабудавалі ў Магілёве Дом Саветаў, паколькі з-за меркаванняў ваенна-палітычнага характару гэты горад збіраліся пераўтварыць у сталіцу Беларускай ССР. Уз’яднанне з ёю ўвосень 1939 года “усходніх крэсаў” Польшчы зняло з парадку дня гэтую праблему. Званне заслужанага дзеяча мастацтваў і архітэктуры прысвоілі І.Лангбарду ў лютым 1934 года.

Гады беларусізацм сталіся плённымі для таленавітага яўрэйскага мастака Юдэля (Іегуды) Пэна. Са створаных ім за гэты час твораў найбольш значнымі з’яўляліся партрэты-

тыпы: “Шавец – камсамолец”, “Сват”, “Швачка”, “Партрэт стогадовага селяніна”. Яго трагічная смерць 28 лютага 1937 года (забіты ўначы невядомымі злачынцамі ва ўласнай кватэры) выклікала вялікае спачуванне не толькі ў яўрэяў, але і ў многіх беларусаў. Шчырыя прыхільнікі творчасці Ю.Пэна зрабілі нямала, каб захаваць для нашчадкаў яго багатую духоўную спадчыну. “У ліпені 1939 г. у Віцебску была адкрыта мастацкая галерэя Ю.Пэна, якая размяшчалася ў былой кватэры мастака. Тут экспанавалася каля 100 прац, якія адлюстроўвалі асноўныя этапы яго творчасці. Акрамя таго, у фондах галерэі знаходзілася яшчэ каля 800 твораў. У час вайны галерэя была эвакуіравана ў Саратаў, дзе знаходзілася да 1946 г.”[1]

Натхнёныя беларусізацыяй многія прадстаўнікі яўрэйскай інтэлігенцыі нібыта ў падзяку за гэта імкнуліся у сваіх творах адлюстроўваць не толькі нацыянальную, але і беларускую тэматыку. Асабліва гэта было характэрна Янкелю Кругеру (1869–1940), які стварыў партрэты Я.Купалы, Я. Коласа, З.Бядулі. Нельга не звярнуць увагі на ўдзел многіх яўрэйскіх майстроў пэндзля ў першых арганізаваных у 1925 і 1927 гадах Усебеларускіх мастацкіх выстаўках.

Пры ўсім жаданні творцаў як з ліку беларускай, так і яўрэйскай інтэлігенцыі працаваць на родную ці беларускую культуру ніяк нельга было забываць і пра ўнясенне свайго асабістага ўкладу ў прапаганду бальшавіцкіх ідэй, савецкага ўкладу жыцця. Не мог не лічыцца з гэтым і таленавіты не па гадах скульптар Заір Азгур (1908, в. Маўчаны Сенненскага раёна). На працягу 1922–1929 гадоў вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, Ленінградскім вышэйшым масмтацкім інстытуце, Кіеўскім мастацкім інстытуце. Будучы шчыра адданым сынам сацыялістычнай эпохі, З.Азгур не мог не ўслаўляць яе ў сваіх творах. Пацвердзіць сказанае можна яго даваеннага часу скульптурнымі працамі: “Ленін і Сталін”, “Сталін за работай”, “Сталін – тварэц Канстытуцыі”. Духу сацыялістычнай эпохі адпавядалі створаныя ім у 1937 годзе бюсты У.Леніна, Я.Свярдлава,

[1] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 2008. С. 350.

С.Касіёра, у 1939 годзе – К.Маркса і Ф.Энгельса. У заслугу маладому майстру можна паставіць, што ў той час ён імкнуўся штосьці такое зрабіць і дзеля ўслаўлення асобаў з ліку творчай інтэлігенцыі сваёй рэспублікі. Гэта партрэты: “Скульптар А.М.Бразер”(1935), “Народны артыст БССР М.Ф.Рафальскі” (1935), “Народная артыстка СССР Л.П. Александровская” (1940), “Пісьменнік Змітрок Бядуля” (1940).[1]

Сведчаннем натуральнай, а не гвалтоўнай інтэграцыі яўрэяў Беларусі ў яе нацыянальнае культурнае жыццё сведчаць шматлікія факты іх добрасумленнай працы ў навучальных установах у якасці выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры. Любімым прадметам для выкладання была яна і для выпускніка Рагачоўскага настаўніцкага інстытута Ісака Баруховіча (1923–1972). Працоўная біяграфія яго пачалася з 1940/41 н.г. у Стрэшынскай сярэдняй школе, дзе тады якраз вучыўся будучы вядомы беларускі паэт Хведар Жычка (1927–2007). Пра любімага настаўніка ён пакінуў такі ўспамін: “... некалькі чалавек з класа не вывучылі напамяць зададзены верш Максіма Багдановіча: “З песняў беларускага мужыка”. Паставіўшы нам у дзённікі заслужаную ацэнку “дрэнна”, Ісак Барысавіч насупіўся, доўга моўчкі стаяў каля дошкі, пазіраючы ў акно. Потым рэзка крутнуўся, загаварыў: “Не разумею, як можна не любіць такую паэзію”. Славу ж І.Баруховічу прынесла не педагагічная, а літаратурная дзейнасць на роднай яўрэйскай мове. Яго першыя паэтычныя творы на ідыш пачалі выходзіць з друку ў 1936 годзе. Шэраг кніг гэтага аўтара перакладзены на рускую мову. Лічу, што наспеў час зрабіць такое і на беларускай мове.

У двух кірунках – яўрэйскім і беларускім – працаваў выпускнік Беларускай драматычнай студыі ў Маскве (1926 г.) Леў Літвінаў (сапр. Гурэвіч). Яго рэжысёрская праца ў Дзяржаўным яўрэйскім тэатры БССР доўжылася з 1927 па 1932 год. За гэты час паставіў шэраг спектакляў, у т.л. і паводле Лопэ дэ Вэгі “Авечая крыніца”. Выключна плённай

---

[1] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. С. 348.

была праца ў 1932–1937 гадах на такой жа пасадзе ў БДТ – 1, пра што сведчаць, напрыклад, яго наступныя пастаноўкі: “Бацькаўшчына” К.Чорнага, “Канец дружбы” К.Крапівы, “Салавей” З.Бядулі, “Вялікадушнасць” В.Галаўчынера, “Неспакойная старасць” Л.Рахманава, “Жакерыя” П.Мерымэ.

Для развіцця беларускага нацыянальнага тэатральнага мастацтва шмат зрабіў выпускнік Беларускай студыі ў Маскве (1926) мінскі яўрэй Віктар Галаўчынер (1805–1961). Спачатку ён працаваў акцёрам, а затым рэжысёрам беларускага рабочага тэатра імя ЦСПСБ (1930–1932). Такую ж пасаду займаў з 1939 года ў Беларускім драматычным тэатры № 1 у Мінску. Адначасова займаўся літаратурнай дзейнасцю. У 1937 годзе ажыццявіў у Беларускім дзяржаўным цэнтральным тэатры рабочай моладзі (БДЦТРМ) пастаноўку па п’есе Тырса дэ Маліна “Дон Жуан” (“Севільскі спакуснік”). Зразумела, найбольшы ўклад ім унесены ў сцэнічную культуру Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР найперш пастаноўкамі “Вальпонс” Б.Джонсана (1934), “Фальшывая манета”

М.Горкага (1937), “Чараўніца” А.Гольдфадэна (1941). З напісаных В.Галаўчынерам да вайны драматычных твораў найбольшай папулярнасцю карысталася п’еса “Велікадушнасць”, пастаўленая ў 1935 годзе ў БДТ – 1.

Арганічна спалучаў працу на карысць яўрэйскай і беларускай культур Самуіл Палонскі (родам з Падольшчыны; 1902–1955). Па прыбыцці ў 1928 годзе ў Мінск ён шмат гадоў кіраваў тут яўрэйскім хорам, напісаў нямала твораў на аснове яўрэйскага музычнага фальклору. Дзеля развіцця беларускай культуры ён многа зрабіў, будучы кіраўніком Беларускай рэспубліканскай харавой капэлы, Ансамбля песні і танца Беларускай ваеннай акругі.

Пры пэўных абставінах у працы на дзве культуры, асабліва калі яны не выцясняюць адна адну, ёсць рацыянальнае зерне, і што ў міжваеннай Беларусі многія яўрэі не цураліся выкарыстоўваць такую магчымасць іх ніяк нельга асуджаць. У той час мелі месца і выпадкі, калі той ці іншы яўрэйскі творца цалкам заставаўся па-за межамі роднай

культуры, прычым паводле свайго ўласнага жадання, а не пад прымусам.

На шлях не ўласнай яўрэйскай, а беларускай культуры добраахвотна, свядома стаў у першыя гады існавання БССР яшчэ зусім юны мінчанін Майсей Грынблат (1905–1983). Пяць першых гадоў свайго акцёрскага жыцця (1921–1925) ён аддаў вельмі папулярнай у тыя часы тэатральнай трупе Уладзіслава Галубка. Пазней ён крута змяніў сваю прафесійную дзейнасць: стаў гісторыкам і шмат сваіх навуковых прац прысвяціў беларускай культуры, даследванню праблемы фармавання беларускай нацыі.

Ранняя смерць не дала як след раскрыцца на беларускай ніве літаратурнаму таленту Юлія Таўбіна (1911–1940; г. Астрагожск Варонежскай губерні) – сына аптэкара-яўрэя. Нельга не здзіўляцца прыхільнасці гэтага юнака да беларускасці, бо з 1921 года жыў у крайнім усходнім горадзе нашай зямлі Мсціславе, дзе столькі цяжкавылечных, а то і зусім невылечных ранаў пакінула пасля сябе царская палітыка русіфікацыі. Звярну ўвагу і на такое, што дзяржаўная палітыка беларусізацыі прыйшла ў Мсціслаў амаль на чатыры гады пазней, чым яе сталі ўкараняць у цэнтральных раёнах БССР. Мсціслаў да вясны1924 года знаходзіўся ў складзе Расійскай федэрацыі і жыў паводле яе культурнамоўных стандартаў. Не лічачыся з іх негатыўнымі для беларускай культуры наступствамі, пятнаццацігадовы Юлій пачынае свой літаратурны шлях не ў рускім, а ў беларускамоўным часопісе “Маладняк Каліншчыны”. Яго першы зборнік паэзіі “Агні” выйшаў з друку ў 1930 годзе, другі – “Каб жыць, спяваць і не старэць”, трэці – “Тры паэмы” – у 1931, чацвёрты – “Мая другая кніга” і паэма “Таўрыда” – у 1932 годзе. Друкаваная крыніца, адкуль я бяру гэтыя звесткі, не пералічвае далейшыя творчыя набыткі паэта, толькі фіксуе, што ў 1931 – 1932 гадах ён вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута.[1]

Затое шмат гадоў пазней пра песняра з Мсціслава такое напіша маладзечанскі бібліяфіл, аўтар вельмі цікавай

[1] Пісьменнікі Савецкай Беларусі. Мн., 1970. С. 364.

публікацыі “Пра кніжнікаў і кнігі” Міхась Казлоўскі: “Лічу, што паэзія Ю.Таўбіна з’яўляецца прыкладам такой беларускай паэзіі, якой бы яна стала, калі б не замінялі палітычныя абставіны пачатку XX ст.”[1] Цікавыя факты з творчага жыцця беларускага паэта яўрэйскага паходжання знаходзім у артыкуле Алеся Марціновіча “Як знічка на небе”.[2] Яшчэ чаго-небудзь пра Ю.Таўбіна ў беларускім друку мне не даводзілася сустрэць у 2011 годзе, г.зн. у год яго стогадовага юбілею. А шкада. Мсціслаўскі паэт заслугоўвае больш вялікай людской павагі да сябе за свой каштоўны ўклад у беларускую літаратуру, якая сёння ва ўласнай суверэннай дзяржаве перажывае такія цяжкія часы, адусюль выцясняецца рускай літаратурай. Нямала зрабіў Ю.Таўбін і для рускай літаратуры, будучы высланым у жніўні 1933 года за Урал. Тут ён шмат часу аддаў вывучэнню англійскай мовы, займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. У 1937 годзе ў Ленінградзе была выдадзена “Антлогия новой английской поэзии”, дзе былі змешчаны і пераклады Ю.Таўбіна. Яму належаць і пераклады вершаў у тэксце рамана ірландскага пісьменніка Шона О’Фаалейна “Гняздо простых людзей”. Маскоўскі крытык і літаратуразнаўца А.Старцоў сцвярджаў, што як перакладчык з англійскай мовы Ю.Таўбін мог дасягнуць сапраўдных вышынь”.[3] А не дасягнуў таму, што пасля вяртання ў Мінск яго арыштавалі і 29 кастрычніка 1937 года расстралялі, г.зн. у дзень, калі такі трагічны лёс напаткаў амаль 20 беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў.

Багатыя набыткі яўрэйскіх пісьменнікаў на літаратурнай ніве адкрывалі ім шырокую магчымасць актыўна ўдзельнічаць у працы розных створаных спецыяльна дзеля гэтага агульнанацыянальных арганізацый. Так, калі ў адпаведнасці з прынятай 27 мая 1932 года пастановай ЦК КП(б)Б “Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый у БССР” было вырашана стварыць Арганізацыйны камітэт Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, у яго склад ад яўрэйскіх пісьменнікаў увайшлі Хацкель Дунец і Ізі Харык.

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 9 верасня. С. 1.
[2] Літаратура і мастацтва. 2011. 23 верасня. С. 1.
[3] Родны край. 2011. 15, 16 верасня.

У маладой савецкай рэспубліцы Беларусь мелася няма-ла праблем з забеспячэннем нармальнай дзейнасці ўтворанага ў 1933 годзе ў Мінску Дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Пры ўкамплектаванні яго кадрамі не абышлося і без прыцягнення сюды на працу асобаў яўрэйскай нацыянальнасці. У 1938 годзе сярод оперных спевакоў іх налічвалася 8, беларускаў – 13 і гэтулькі ж рускіх, 6 украінцаў.[1] Не меў праблем з залічэннем у штаты тэатра ўжо ў першы год яго заснавання выпускнік Беларускага музычнага тэхнікума (1930) Ісідар Балоцін (сапр. Ізраіль Балотны; Бабруйск, 1907–1961). Упершыню ён дэбютаваў яшчэ ў 1931 годзе ў ролі опернага спевака у партыі Звездачота (“Залаты пеўнік” М.Рымскага –Корсакава) на сцэне Беларускай студыі оперы і балета. “Балоцін меў гібкі, выразны голас, ярка раскрываў вобразы вакальнымі сродкамі, быў майстрам вострахарактарнага сцэнічнага малюнка”.[2]

Напачатку не ўсё так гладка ішло б у даваеннай БССР са стварэннем і развіццём беларускага нацыянальнага балета, каб у гэтых мэтах не ўдалося спаўна выкарыстаць талент шэрагу яўрэйскіх артыстаў.  Самай высокай пахвалы з іх заслугоўвае Сямён (Самуіл) Дрэчын (1919 – 1993; Мінск). У 19-гадовым узросце ён скончыў у Мінску Беларускую студыю оперы і балета. Яго першымі партыямі былі: Зігфрыд – у “Лебядзіным возеры”, Базіль – у “Дон-Кіхоце”, Франц – у “Капеліі”, Гірэй – у “Бахчысарайскім фантане”. Ушчыльную наблізіцца да беларускай нацыянальнай тэматыкі С.Дрэчыну дапамог удзел у мерапрыемствах так званай пастановачнай брыгады, “якая раз’яджала па сельскай мясцовасці, збіраючы беларускі танцавальны фальклор. Пры вяртанні ў Мінск нярэдка прывозілі з сабой народных выканаўцаў, засвойваючы іх вопыт і тэхніку”. У пастаўленым у лістападзе 1939 года ў Мінску першым нацыянальным балеце “Салавей” па аднаіменнай аповесці Змітрака Бядулі, музыка Міхаіла Крошнера С.Дрэчын выконваў галоўную ролю маладога сялянскага пастуха Сымона. Да гэтага ніводзін з артыстаў балета не выступаў у такой ролі.

[1] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. С. 343.
[2] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. ІІ. Мн., 1970. С. 111.

Балет "Салавей" паказвалі ў 1940 годзе на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. Неўзабаве С.Дрэчына ўзнагародзілі ордэнам "Знак пашаны".[1] Акрамя С.Дрэчына, у 1938 годзе ў складзе балетнай трупы працавала яшчэ 12 яўрэяў. Беларусаў у ёй было 14, рускіх – 26.[2]

У 20-я гады ХХ стагоддзя ў Беларусі вялася інтэнсіўная праца па фармаванні ўласнай прафесійнай цымбальнай школы з тым, каб гэты папулярны ў народзе інструмент загучаў і падчас канцэртных выступленняў. Практыка ігры на гэтым інструменце была даволі багатай у беларускіх яўрэяў. Таму не дзіва, што яны так актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні беларускай цымбальнай школы, асабліва Х.Шмелькін і С.Навіцкі. Іх сумесныя выступленні па радыё і на канцэртах вельмі падабаліся аматарам ігры на цымбалах. Названыя цымбалісты разам з выдатнай спявачкай Ларысай Александроўскай ездзілі ў Данбас, Ленінград для запісу музыкі для першых гукавых кінафільмаў, удзельнічалі ў 1940 годзе ў "Тыдні беларускай музыкі" ў Маскве.[3] Шчырым прыхільнікам да ўсяго беларускага праяўляў сябе кампазітар Ісак Любан (1906 г.н., г. Чэрыкаў Магілёўскай губ.). У год заканчэння беларускага музычнага тэхнікума (1928) уладкоўваецца на пасаду мастацкага кіраўніка музычнага вяшчання Беларускага радыё, а з 1937 года і да вайны з Германіяй з'яўляўся мастацкім кіраўніком Ансамбля беларускай народнай песні і танца. Працуючы ў ім, запісаў песні "Хмель лугамі", "Сяло ж маё", "Кума мая, кумачка". Пад кіраўніцтвам І.Любана Зводны хор пагранчасцей БССР выконваў беларускія народныя песні "Ой, у лузе, лузе", "Позна сонца", "Кацілася ды ясна зорачка".

Ніякаму іншаму кампазітару, як толькі яўрэю Ісааку Любану даручыў напісаць музыку на свой верш "Бывайце здаровы" ўраджэнец мястэчка Пясочнае Капыльскага раёна Адам Русак.[4] І не памыліўся. Песня стала вельмі папулярнай

[1] Беларусь у ХХ стагоддзі. Сб. научных работ. Вып. 3. Мн., 2004. С. 296.
[2] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. С. 343.
[3] Евреи Беларуси. История и культура. Сб. статей. III -- IV. Мн. 1998. С. 98.
[4] У 30-я гады яны разам вучыліся ў Мінскім музычным тэхнікуме.

у даваенныя гады, прычым не толькі ў нашым краі. Яе ахвотна ўключалі ў свой рэпертуар вядомыя савецкія рускамоўныя эстрадныя спевакі, у прыватнасці, Леанід Уцёсаў (дарэчы, таксама яўрэй). Ужо ў пасляваенны час ён у лісце да аўтара тэксту песні пісаў: "Паважаны Адам Герасімавіч! Вашу цудоўную песню "Бывайце здаровы" я пачаў спяваць у 1938 годзе. Поспех быў велізарны. Як ні дзіўна, яна гучала не толькі ў мірныя гады, але і на фронце, дзе мы яе спявалі, выклікаючы ў байцоў радасную ўсмешку і падзяку за нястрымны аптымізм гэтай песні".[1] У пасляваенны час выконваў яе і адзін з самых папулярных у Францыі спевакоў Шарль Азнавур, армянін па паходжанні. Песню "Бывайце здаровы" любяць спяваць і слухаць і сёння.

Яўрэйская інтэлігенцыя вельмі хутка і беспамылкова ацаніла, што карыснага можа даць любой нацыянальнай культуры кіно. Многія мелі жаданне ўдзельнічаць у стварэнні яго і дзеля гэтага пакідалі Беларусь, бо ў апошняй адсутнічалі ўмовы развіваць такі прагрэсіўны масавы від мастацтва. Дамоў вярталіся толькі тыя, каго спецыяльна камандзіроўвалі ў Беларусь займацца тут кінамастацтвам. Для маладога беларускага кіно многае мог бы зрабіць мінскі яўрэй Іосіф Хейфіц (1905–1995), але пасля заканчэння ў 1927 годзе Ленінградскага тэхнікума экраннага мастацтва ён не пажадаў вярнуцца на радзіму і ўладкаваўся на працу ў кінастудыю "Ленфільм". З пастаўленых ім разам з А.Зархі даваенных фільмаў найбольшую папулярнасць здабылі "Дэпутат Балтыкі" (1937), "Член урада" (1940). У 1941 годзе яму прысудзілі прэмію СССР.

Пры іншых жыццёвых абставінах у здымках беларускіх кінафільмаў для Беларусі магла б удзельнічаць добра вядомая ўжо і ў тыя гады савецкая кінаактрыса Фаіна Ранеўская (Фельдман). Нарадзілася то яна ў Таганрозе (1895), але бацька яе прыехаў сюды з мястэчка Смілавічы Ігуменскага павета Мінскай губерні. Любіла выступаць у ролі бабулек, прычым з 22-гадовага ўзросту.

---

[1] Новы час. 2011. 25 лістапада. С. 24.

Студыя па вытворчасці мастацкіх фільмаў “Савецкая Беларусь” была створана ў Ленінградзе ў 1928 годзе, а ў БССР пераехала толькі ў 1938 годзе. Да закладкі гэтай студыі ў горадзе на Няве са снежня 1924 года функцыянавала Беларускае дзяржаўнае ўпраўленне па справах кінематаграфіі і фатаграфіі. У 1926 годзе ў “Белдзяржкіно” працавала 10 чалавек, з іх 8 яўрэяў. У 1929 годзе адпаведна 55 і 38 (69%).[1] Як вядома, мастацкія фільмы тае пары ствараліся ў асноўным на мясцовым матэрыяле, ішлі на беларускай мове, якая сёння пры стварэнні мастацкіх кінастужак амаль не ўжываецца на кінастудыі “Беларусьфільм”.

Уносіць адчувальны ўклад у развіццё беларускай культуры нішто так не спрыяла яўрэям, як параўнальна добрае валоданне імі і раней, і ў гады беларусізацыі галоўнай дзяржаўнай мовай БССР – беларускай. Як высветлілася пасля праведзенай у снежні 1924 года праверкі з ліку яўрэяў-супрацоўнікаў ЦВК, СНК, наркаматаў асветы і зямляробства беларускай мовай валодала ажно 90 працэнтаў, што было нават вышэй, чым у саміх яе этнічных носьбітаў. Пры такім добрым валоданні беларускай мовай яўрэі маглі плённа працаваць і працавалі на самых адказных дзялянках беларусізацыі, дапамагаючы тытульнай нацыі хутчэй пераадолець цяжкія наступствы царскай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі.

Заслугоўвае быць згаданым і такі факт, што першым па ліку рэдактарам грамадска-палітычнай і літаратурна-мастацкай газеты “Літаратура і мастацтва” быў яўрэй Хацкель Дунец (1932–1935). Тады было зусім нярэдкасцю, калі на яе старонках з’яўляліся і артыкулы на ідыш.

Прыхільна паставіліся да павышэння сацыяльнай ролі беларускай мовы ў грамадстве і многія яўрэйскія інтэлектуалы негуманітарнага профілю. У некаторых сваіх творах, да прыкладу, карыстаўся ёю добра вядомы ў Беларусі прафесар, доктар медыцынскіх навук, заслужаны дзеяч навукі Хаім Маршак (1886–1961). Шырокая вядомасць сярод медыцынскай інтэлігенцыі прыйшла да яго пасля таго, як у 1928

[1] Басин Яков. Большевизм и евреи… С. 228.

годзе стаў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага туберкулёзнага інстытута Наркамата аховы здароўя ў БССР.

Як станоўчае адзначу, што выклiканая палітыкай беларусізацыі практычная неабходнасць ведаць мову тытульнай нацыі не вяла да непісьменнасці яўрэяў Беларусі ў сваёй роднай мове. Такое будзе назірацца пазней, прыкладна праз дзесяць гадоў, калі яны павядуць сваіх дзяцей у рускамоўныя школы, а самі пацягнуцца да спажывання і працы на карысць рускай культуры, Так, у 1939 годзе ўжо толькі 41 працэнт агульнай колькасці яўрэяў БССР назвалі ідыш роднай мовай супраць 72 працэнтаў у 1926 годзе.[1]

На працягу ўсяго перыяду правядзення дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі зведваўся востры дэфіцыт на кадры высокага ўзроўню адукацыі і багатага прафесійнага досведу, бо справа ж датычыла карэннай перабудовы нацыянальна-культурнага жыцця краю. Каб развязаць гэтую адну з самых актуальных на той час праблем, партыйныя і савецкія органы часта пасылалі на адказныя дзялянкі беларусізацыі добра падрыхтаваныя кадры і з ліку яўрэйскай інтэлігенцыі. Заўважу, што іх нямала было ў яе асяроддзі, таму не павінна здзіўляць, што паводле дадзеных 1935 года ў агульнай колькасці навукова-даследчых устаноў БССР на яўрэяў даводзілася каля 30%, рускія мелі ў два разы меншы паказчык.

У прынцыпова іншых варунках даводзілася працаваць яўрэйскай творчай інтэлігенцыі ў міжваенны перыяд у Заходняй Беларусі. Польскія ўлады не спрыялі развіццю яўрэйскай культуры, але дынамічнае развіццё яе працягвалася, бо было каму працаваць на гэтай ніве. Ёсць нямала прыкладаў цеснай садружнасці беларускіх і яўрэйскіх дзеячоў культуры, у чым вельмі зацікаўленымі былі першыя, бо курс на паланізацыю беларусаў свецкія і духоўныя ўлады Другой Рэчы Паспалітай праводзілі з зайздроснай упартасцю. Адкрытае ігнараванне ўладамі беларускай культурай не паслужыла падставай быць абыякавым да яе лёсу ўраджэнцу мястэчка Гарадзішчы Наваградскага раёна,

[1] Смиловицкий Леонид. Евреи Беларуси… С. 91.

яўрэю па нацыянальнасці Барысу Клецкіну (1875–1937). У заснаваным ім незадоўга да Першай сусветнай вайны “Віленскім выдавецтве Б.Клецкіна” з’явіўся ў 1921 годзе і беларускі аддзел, г.зн. у той час, калі значная частка нашай краіны чужымі палітычнымі рэжымамі была перададзена Польшчы. Ізноў на гэтых абсягах беларускай зямлі запахла паланізацыяй, якой, аднак, не збаяўся Б.Клецкін. Ужо ў год стварэння названага аддзела выдавецтва выпусціла ў свет на беларускай мове дзве кнігі Макара Краўцова “Рада Беларускай Народнай Рэспублікі” і “Усебеларускі з’езд 1917 г.”, а таксама Максіма Гарэцкага “Гісторыя Беларускае Літаратуры”. Моцна пашчасціла беларускай справе ў 1923 годзе, калі на нацыянальнай мове нашага народа Б.Клецкін выпусціў кнігі: “Хрэстаматыя беларускае Літаратуры. XI век – 1905 год” Максіма Гарэцкага, “Родны край” – Леанілы Гарэцкай, “Шляхам жыцця” – Янкі Купалы, “У палескай глушы” – Тараса Гушчы (Якуба Коласа). Нягледзячы на забарону польскімі ўладамі ў сакавіку 1927 года Беларускай Сялянска-работніцкай грамады, усё ж у тым годзе, дзякуючы выдавецтву Б.Клецкіна, пабачылі свет кнігі: “Казкі жыцця (1907–1921)” Якуба Коласа, паэтычны зборнік “Пад сінім небам” Наталлі Арсенневай, “Вянок” – Максіма Багдановіча. Было б лішнім рабіць нейкі каментар да напісанага вышэй.

На вялікую бяду і беларусаў, і яўрэяў, у дзяржаўнай палітыцы беларусізацыі вельмі мала было па-сапраўднаму спрыяльнага, стваральнага часу. Ужо дзесьці праз пяць-шэсць гадоў яе пачало пакрысе калаціць, пра што ў адначассе добра паклапаціліся бальшавіцкія ідэалагічныя і рэпрэсіўныя службы. Як і трэба было чакаць, гэта адразу ж адбіла ў многіх яўрэяў ахвоту працаваць у рэчышчы беларускай культуры, бо партыйныя ідэолагі не спыняліся заяўляць, што варожыя ідэям сацыялізму сілы надалі ёй нацыяналістычны характар. Гэтым сілам прыдумалі адметнае слоўца “нацдэмы” (“нацыянальныя дэмакраты”), якое многіх з іх прывяло на эшафот масавых фізічных рэпрэсій 1937 – 1938 гадоў. Вельмі хутка, дзякуючы намаганням ідэалагічных службаў кампартыі Беларусі, да актыўнага

ўдзелу ў даследванні праблем зараджэння і развіцця ”нацдэмакратызму”, арганізацыі барацьбы з яго паслядоўнікамі ўдалося схіліць нямала прадстаўнікоў навуковай, творчай інтэлігенцыі і яўрэйскага паходжання. Асаблівае старанне да гэтага прыклалі філосаф Сямён Вальфсон, гісторык Сяргей Агурскі, літаратуразнавец О.Канакоцін, пісьменнік Алесь Кучар. Сваёй дапамогай савецкай рэпрэсіўнай машыне расправіцца з беларускім “нацдэмакратызмам” яны добра нашкодзілі і самім сабе, страцілі колішнюю заслужаную рэпутацыю ў асяроддзі як уласнай, так і беларускай творчай інтэлігенцыі.

Мэтанакіраванае адступленне партыйных і савецкіх кіраўнікоў ад прапанаванага імі ж самімі курсу на беларусізацыю не магло не закрануць і яўрэйскай культуры. У ёй таксама бачыліся “шкодныя” парасткі нацыяналізму, адыход ад прагрэсіўных ідэй пралетарскага інтэрнацыяналізму. Першымі адчулі на сабе ганенні з боку савецкай улады дзеячы іудзейскага культу. І гэта зразумела, паколькі ў жыцці беларускіх яўрэяў рэлігія заўжды адыгрывала выключна важную ролю ў іх культурным развіцці, захаванні этнічнай ідэнтычнасці. Як толькі належны разгон набраў бальшавіцкі атэізм, адразу ж без “справы” засталася галоўная сінагога Мінска. Яе добра абсталяванае памяшканне сталі выкарыстоўваць у якасці драматчнага тэатра. Уцалела яно і ў гады нямецкай акупацыі. У 1936 годзе ў БССР функцыянавала толькі 71 сінагога супраць 704 (уключаючы малітоўныя дамы) у дарэвалюцыйны час.

У няміласці бальшавіцкіх ідэолагаў апынулася існая ў тыя гады сістэма адукацыі яўрэйскіх дзяцей. Больш за ўсё непакоіла дзейнасць навучальых устаноў духоўнага характару, што і з’явілася галоўнай прычынай іх масавай ліквідацыі. Даволі рана, ужо ў 1930 годзе, зачынілі славутую сваімі набыткамі Шклоўскую іешыву, кіраўніком якой у той час быў вельмі паважаны яўрэямі равін Мардэхай Файнштэйн.

Не ўтрымаліся (зразумела, не па сваёй віне) на плыву свецкія яўрэйскія навучальныя ўстановы, якія былі створаны дзяржавай і фінансаваліся ёю. 1938 навучальны год стаў

апошнім у іх гісторыі ў Савецкай Беларусі. Адсутнасць у яўрэяў нацыянальнай школы забірала ў іх этнічную будучыню. Гэта разумелі ўсе адукаваныя людзі. Пахвальна, што ў той няпросты час у яўрэйскіх пісьменнікаў Зэліка Аксельрода, Элі Кагана і Рыгора Бярозкіна хапіла смеласці звярнуцца ў ЦК КП(б)Б, асабіста да яго першага сакратара Панцеляймона Панамарэнкі, з пратэстам супраць здзейсненага ў 1938 годзе закрыцця ў рэспубліцы яўрэйскіх школ, а таксама секцыі ідыш пры Акадэміі навук БССР. Эфекту ж ад гэтага не было: партыя не любіла даваць задні ход. Але сам зварот да першай партыйнай асобы трэба разглядаць як пазітыўную з’яву. Вось бы сёння беларускім афіцыйным пісьменнікам па прыкладу названых вышэй іх яўрэйскіх калегаў набрацца смеласці ды ўсур’ёз пагаварыць з кіраўніком краіны датычна таго, што чакае яе тытульны народ з прычыны адсутнасці ў нас беларускамоўнай, пасапраўднаму нацыянальнай адукацыі.

У тыя далёка не заўсёды спрыяльныя для яўрэйскай культуры гады на ідыш напісана ўсё ж мноства мастацкіх, навуковых, публіцыстычных твораў, падручнікаў і дапаможнікаў. Паводле ацэнкі спецыялістаў дасканала валодаў і па-майстэрску выкарыстоўваў гэтую мову у сваёй літаратурнай дзейнасці Уры Фінкель (1896–1957, мястэчка Ракаў). Асаблівай папулярнасцю ў чытача карысталіся яго кніга пра заснавальніка яўрэйскага тэатра на ідыш, драматурга і кампазітара А.Гольдфадэна (1926, напісана разам з Н.Ойслендарам), манаграфіі пра Менделе-Мойхер-сфорыма (Мн., 1937) і Шолам Алейхема М., 1938).[1]

Сярод створанай на ідыш літаратуры, бясспрэчна, ёсць нямала чаго і такога, што не згубіла сваёй каштоўнасці і па сённяшні дзень. З такой літаратуры хацелася б назваць публікацыі кіраўніка яўрэйскага сектара Інстытута беларускай культуры Бер Аршанскага раман “Аф хвалес” (“На хвалях”, 1924), трагедыю “Блут” (“Кроў”, 1926), “Яўрэйская літаратура ў Беларусі пасля рэвалюцыі” (1931), “Тэатральныя баі” (М., 1931), кіраўніка гістарычнай камісіі Яўрэйс-

[1] Скир Арон. Еврейская духовная культура в Беларуси. Мн., 1995. С. 87.

кага аддзела ІБК Ісраэля Сосіса – “Да сацыяльнай гісторыі яўрэяў Беларусі”, “Яўрэйскі сейм ў Літве і Беларусі і яго заканадаўчая дзейнасць”, “Першы вопыт прыцягнення беларускіх яўрэяў да земляробства”, “Яўрэйскія рамеснікі” (друкаваліся ў розных зборніках), “Гісторыя яўрэйскіх грамадскіх рухаў у Расіі ў ХІХ стагоддзі” (Мінск, 1929), Самуіла Агурскага – “На гістарычным фронце: Супраць ідэалізацыі Бунда” (М., 1930).[1]

Адсутнасць на сёння дастатковай колькасці кваліфікаваных спецыялістаў па ідышу зрабіла створаную на ім літаратуру амаль мёртвым капіталам. Страх агортвае душу, калі падумаеш, што ў выніку, як ніколі раней, стратнай дзяржаўнай моўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь некалі надыдзе час, што не будзе каму чытаць і напісаную на беларускай мове літаратуру. Яе ўжо і цяпер чытае не больш, як толькі кожны дзясяты этнічны беларус. З ідышам беларускія яўрэі практычна развіталіся ў ХХ стагоддзі. Калі ўлада не зменіць сваю нацыянальную палітыку, беларускую мову, без сумніву, адашлем у нябыт у ХХІ стагоддзі. Штучнае ўвядзенне сур’ёзных, непераадольных бар’ераў на шляху развіцця нацыянальных беларускай і яўрэйскай культур вымушала, асабліва актыўных носьбітаў апошняй, шукаць сабе працу на ніве рускай культуры. Пэўныя магчымасці для такой дзейнасці меліся і ў самой Беларусі. Але, вядома, далёка не для ўсіх. Гэта сёння адсутнічаюць усялякія перашкоды з такім пераходам, паколькі ў Беларусі пануе руская культура і ў ёй занятая абсалютная бальшыня творчай інтэлігенцыі. У даваеннай Беларусі, на яе шчасце, такое не назіралася, таму некаторыя з мясцовых яўрэяў у пошуках працы на ніве рускай культуры пакідалі бацькоўскі дом і падаваліся ў Расійскую Федэрацыю. Яўрэйская моладзь вельмі неахвотна вярталася на радзіму па заканчэнні культурна-асветных навучальных устаноў гэтай федэратыўнай рэспублікі.

Проста не злічыць усіх тых яўрэяў з Беларусі, што ў савецкі час працавалі за яе межамі, галоўным чынам на

[1] Беларусь у ХХ стагоддзі. Вып. 2. Мн., 2003. С.30, 31.

тэрыторыі РСФСР, на карысць рускай культуры. І хоць гэта ні на грам нічога не дадае да набыткаў беларускай культуры, усё ж мы павінны штосьці ведаць пра такіх нашых яўрэяў-землякоў, не баяцца залічваць іх у актыў Рэспублікі Беларусь. Можна толькі вітаць публікацыю Алеся Карлюкевіча "З палескай вёскі Бездзеж",[1] у якой так грунтоўна расказана чытачу пра важкі ўнёсак беларускага яўрэя Дзмітрыя Стонава (сапр. Уладаўскі) у рускую літаратуру. Да названай публікацыі гэтага рускага пісьменніка яўрэйскага паходжання ведала ў нашай краіне толькі толькі самае вузкае кола людзей.

Упэўнены, рана ці позна ў нас будзе салідная, у некалькіх тамах манаграфія па яўрэйскай культуры Беларусі, таму такія публікацыі, як у А.Карлюкевіча, нам вельмі патрэбныя і сёння, і заўтра.

Як і да кастрычніцкага перавароту ў Расіі ў 1917 годзе, важкіх прычын свядомага адыходу яўрэяў ад уласнай культуры, немагчымасці прысвяціць сябе беларускай было дастаткова. З гэтых прычын назаву адну, на мой погляд, самую галоўную: адсутнасць у першыя гады існавання Савецкай Беларусі салідных навучальных устаноў, падчас вучобы ў якіх можна было б здабыць глыбокія веды па абранай спецыяльнасці. Таму і ў савецкі перыяд дзеля атрымання класнай адукацыі яўрэі Беларусі вымушаныя былі шукаць жаданую навучальную установу за межамі сваёй радзімы, найчасцей у культурных цэнтрах Расійскай Федэрацыі. Менавіта так склаўся лёс ураджэнца Рагачова Анатоля (Танхума) Каплана. Пасля паступлення ў 1922 годзе ў Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут ён так і застаўся тут да канца свайго жыцця (1980). Бальшыня яго твораў захоўваецца ў Дзяржаўным Рускім музеі, Траццякоўскай галерэі, Эрмітажы, Нацыянальнай галерэі Вашынгтона, музеях Ватыкана, Лондана, Кёльна, Амстэрдама. Апошнім часам значная частка іх перададзена і Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі. У многім інакш склаўся творчы лёс у бабруйскага яўрэя Саламона Казіміроўскага. Свой

[1] Краязнаўчая газета. 2008. № 44 (лістапад).

родны горад Бабруйск пакінуў пры канцы 1930-х гадоў “ і паехаў па адукацыю ў Маскву. Іграў у студыі легендарнага Міхоэлса (мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра ў Маскве. – *Л. Л.*), скончыў ГІТІС і адразу ж, у 1940-м годзе прыехаў на працу ў славуты віцебскі калектыў (драматычны тэатр. – *Л.Л.*), з якім яго неўзабаве і надоўга разлучыла вайна. На фронт С.Казіміроўскі пайшоў добраахвотнікам…”[1]

Заслугоўвае быць адзначаным, што для многіх яўрэяў нашага краю, якія ў апошнія гады існавання царскай імперыі ці ў міжваенны перыяд выехалі ў Расію, даволі паспяхова склаўся лёс. Цалкам задаволеным ім не мог не быць рускі савецкі пісьменнік, драматург, перакладчык, дзіцячы паэт Самуіл Маршак (1887–1964; г. Варонеж). Па бацькавай лініі ён паходзіў ад далёкага койданаўскага продка Ізраіля Кайданавера, па матчынай – ад віцебскага рабіна Бэра Гітэльсона. Калі будучаму пісьменніку споўнілася 6 гадоў, яго мама разам “з ім і іншымі дзецьмі перабралася жыць да сваіх бацькоў у Віцебск, дзе і прайшлі дзіцячыя гады Самуіла Маршака”.[2] І хаця ў асяроддзі віцебскіх яўрэяў панаваў ідыш, дзед вучыў свайго ўнука і рускай мове, якая пазней стала рабочай мовай для яго плённай літаратурнай дзейнасці. Пачалася ж яна з вершаў, прысвечаных вядомаму ў той час скульптару яўрэйскага паходжання Марку Антакольскаму, з якім быў знаёмы дзед Самуіла.[3] У міжваенныя гады ён выдаў на рускай мове шэраг вельмі любімых дзецьмі паэтычных твораў: “Багаж”, “Містэр Твістэр”, казку – “Церамок”. Нібыта ў знак павагі да жыхароў зямлі сваіх продкаў ён пераклаў на рускую мову некаторыя творы беларускіх аўтараў – Ф.Багушэвіча, Я.Лучыны, Цёткі.

У сваю чаргу вершы Самуіла Маршака на беларускую мову перакладалі П.Броўка, А.Якімовіч і інш. У 1934 годзе ў Мінску ў перакладзе на беларускую мову выйшла кніга Самуіла Маршака “Вайна з Дняпром”, у 1937 годзе – “Пошта”, у 1941 годзе – Мы ваенныя”.

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2012. 6 студзеня. С.18.
[2] Новы Час. 2011. 17 чэрвеня. С. 14.
[3] Краязнаўчая газета. 2011, №41 (лістапад).

Уход не якіх-небудзь малаадукаваных пластоў, а самой красы яўрэйскага народа – творчай інтэлігенцыі ў чужыя культуры заўжды нёс наступствы для яго. Яшчэ больш небяспечны характар яны набылі, калі Масква ў інтарэсах "шчаслівага камуністычнага грамадства" ўзяла (на той час яшчэ даволі асцярожна) курс на збліжэнне і зліццё савецкіх нацый і народнасцяў. Пераход у такі адказны час на ўяўную для камунізму рускую культуру (такое ў інтарэсах кар'ерызму рабілі не толькі прадстаўнікі яўрэйскай інтэлігенцыі) быў ні чым іншым, як здрадай уласнаму народу, нічым не прыхаваным злачынствам. І раней, і сёння некаторыя з яўрэйскіх аўтараў галоўную прычыну няўдачы нацыянальна-культурнага адраджэння свайго народа ў гады беларусізацыі беспадстаўна бачаць у навязанай савецкай уладай ідышызацыі яго культуры, упускаючы з-пад увагі правалы і з самой беларусізацыяй ці ўкраінізацыяй. Ва ўмовах навязанага ідэалагічным апаратам бальшавіцкай партыі курсу на згортванне нацыянальнай працы ў БССР (такое рабілася ва ўсіх саюзных рэспубліках), нечувана масавага свядомага пераходу яўрэйскай творчай інтэлігенцыі на ніву самай прэстыжнай, самай перспектыўнай у СССР рускай культуры, нацыянальна культурнае адраджэнне беларускіх яўрэяў з трэскам правалілася б і тады, калі б яно ажыццяўлялася на аснове іўрыту і звязанай з ім традыцыйнай культурай. Не верыцца, што іўрыт мог бы ў чымсьці перашкодзіць саветызацыі яўрэяў Беларусі. Пад канец 30-х гадоў у СССР не мелася аніводнай нацыі, аніводнай народнасці, у якой у выніку "самай прагрэсіўнай у свеце ленінскай нацыянальнай палітыкі" не пахіснулася б прыродная этнакультурная самабытнасць, не адчуваўся б негатыўны ўплыў мэтанакіраванай савецкай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. А вось сапраўднага супроцьстаяння ёй (па вядомых прычынах) не назіралася ні ў адной з саюзных рэспублік і тым больш у БССР, хаця на гэтай зямлі яшчэ да кастрычніцкага перавароту 1917 года ў культуру (асабліва прафесійную) яе насельніцтва ўдалося без усялякай патрэбнасці ўнесці шмат чаго рускага. Такое не магло не адчувацца і на яўрэйскай культуры Беларусі.

Галоўным сродкам інтэрвенцыі ў нацыянальны арганізм кожнага народа з мэтай яго дээтнізацыі бальшавіцкая партыя беспамылкова лічыла рускую мову, рускую культуру. З другой паловы 1930-х гадоў яны імкліва падміналі пад сябе не толькі яўрэйскія, але і беларускія адпаведнікі. Таталітарнаму палітычнаму рэжыму і не такое падуладна.

У 1937 годзе, г. зн. у год, калі ліквідавалі яўрэйскі сектар Беларускай акадэміі навук, яго толькі двум уцалелым ад рэпрэсій супрацоўніукам Соф'і Рохкінд і Г.Шкляру даручылі скласці першы ў СССР яўрэйска-рускі слоўнік. "Нас, – згадвае першы з названых супрацоўнікаў, – прымацавалі да беларускага Інстытута літаратуры і мовы і адразу ж даручылі скласці беларускую граматыку для вышэйшых школ... Рэдактарамі былі прызначаны людзі, якія не вывучалі ідыш. Яны выкідалі словы, якія лічылі гебраізмамі, ідыёмы, размоўныя выразы. Іх можна зразумець – яны таксама калаціліся ад страху..." Слоўнік выйшаў з друку ў пачатку 1941 года, хаця на вокладцы ўказаны 1940 г.[1]

З 1938 года спыняецца дзейнасць яўрэйскага аддзела Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна. У 1940 годзе на ідышы выйшлі з друку толькі 8 мастацкіх кніг. Напярэдадні вайны Германіі з СССР яўрэі атрымлівалі толькі штодзённую газету "Октобэр" і штомесячны часопіс "Штэрн" ("Зорка").[2] У грамадскім жыцці яўрэяў крайне нікчэмнае месца належала іх нацыянальнай культуры. Да пары да часу яна займала трывалае становішча толькі ў яўрэйскіх сем'ях дый то далёка не ва ўсіх.

Недарэчная сітуацыя з яўрэйскай культурай у цэлым, і асабліва ў адукацыі, склалася пасля далучэння ў верасні 1939 года Заходняй Беларусі да БССР. Калі на тэрыторыі давераснёўскай 1939 года Савецкай Беларусі ўжо не існавала аніводнай яўрэйскай школы, на былых "усходніх крэсах" зліквідаванай Гітлерам і Сталінам польскай дзяржавы такія навучальныя ўстановы ствараюцца па ініцыятыве, пры непасрэдным удзеле саміх савецкіх органаў улады. Іншага, больш разумнага варыянту яны справядліва

[1] Евреи Беларуси ...Т. III – IV. С. 260.
[2] Скир Арон. Еврейская духовная культура в Беларуси. С. 94.

не бачылі для сябе. І як заканамерны ўсяму гэтаму вынік у снежні 1939 года ў заходніх абласцях БССР пачаліся заняткі ў 169 яўрэйскіх школах, што толькі на чатыры ўстановы было менш, чым рускіх. Аднак такое не стала прыкладам для тых абласцей і раёнаў, дзе яўрэйскія школы ў 1938 годзе закончылі сваё існаванне. Думаецца, у бліжэйшыя гады такое чакала б і адкрытыя на далучанай тэрыторыі яўрэйскія школы. Але ад прыняцця падобнага роду антыгуманнага адміністрацыйнага акту савецкую ўладу вызваліла развязаная Германіяй у чэрвені 1941 года вайна супраць СССР.

Ніяк не ўвязваліся з палітыкай давераснёўскай 1939 года БССР у сферы яўрэйскай культуры прапанаваныя ўжо ў першыя дні пасля ўз'яднання беларускіх земляў захады ўладаў па пашырэнні лістажу выдання яўрэйскага літаратурна-мастацкага і навукова-палітычнага часопіса "Штэрн" (выходзіў з мая 1925 г.). Сёе-тое і сапраўды рабілася ў гэтай справе, але толькі да красавіка 1941 года, калі ўжо часопіс "Штэрн" зусім перастаў ззяць на яўрэйскім небасхіле. У дакладной запісцы старшыні праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР Міхася Лынькова ў ЦК КП(б)Б (заўважу, што напісана па-руску і таму можа разглядацца як доказ выцяснення беларускай мовы са службовага справаводства вышэйшага партыйнага органа рэспублікі) заяўлялася пра неабходнасць арганізацыі выпуску на далучанай тэрыторыі яўрэйскіх газет, у тым ліку дзіцячых, да дадатковага яўрэйскага літаратурнага часопіса (месцам выдання яго прапаноўваўся Беласток). Пры немагчымасці па якіх-небудзь прычынах выдаваць яўрэйскую дзіцячую газету прапаноўвалася выпускаць на гэтай мове дадатак да газеты "Піянер Беларусі". Улетку 1940 года ў заходніх абласцях БССР працавалі Яўрэйскі драматычны тэатр (Беласток), Яўрэйскі тэатр мініяцюр. У мясцовым радыёвяшчанні ў Баранавічах на яўрэйскай мове штодзённа выходзіў адзін выпуск "Апошніх паведамленняў", у Беластоку на гэтай мове на працягу месяца ладзілася 13 выпускаў абласных і гарадскіх навін, у Гродне – 4 (у абодвух выпадках іх было столькі, колькі і на польскай мове). У сувязі з падрыхтоўкай

да першай гадавіны ўз'яднання беларускага народа ў баранавіцкай рэдакцыі "Апошнія навіны" адбылася перадача "Яўрэйскія савецкія пісьменнікі ля мікрафона".

На далучаных да БССР землях даволі моцныя пазіцыі захоўваліся ў іудзейскай рэлігіі. Такое было характэрна і іншым канфесіям. На першым часе бальшавікі асабліва не ўмешваліся ў іх жыццё, таму і ў лютым 1941 года служба вялася ў 387 сінагогах. У іх працавалі 293 равіны.[1]

Усё адзначанае вышэй не магло не цешыць яўрэяў усходняй часткі БССР, аднак якіх-небудзь адметных перамен у іх культурным жыцці не назіралася. Найлепшыя, калі можна так сказаць, гады для яго ўжо беззваротна мінулі. Новыя, свежыя сілы без асаблівай ахвоты, з аглядкай назад станавіліся на шлях роднай нацыянальнай культуры. Як ужо і да гэтага, яны з непараўнальна большым жаданнем цягнуліся да працы на рускую культуру, спакойна абмінаючы беларускую.

Несумненна, працуючы на беларускай зямлі і ў адрыве ад яе роднай культуры, яўрэі, як і творцы іншых нацыянальных культур, маглі здабыць тут немалую славу, да прыкладу, Эдзі Рознер (1910–1976). Ён быў першым мастацкім кіраўніком створанага ў Беластоку Дзяржаўнага джаза БССР.[2] З яго іменем звязана таксам заснаванне ў 1939 годзе ў Мінску джазавага аркестра. Да пачатку ўварвання нямецкай арміі на савецкую тэрыторыю ён ужо паспеў наведаць з гастролямі Маскву, Ленінград, Адэсу і пакінуць у аматараў джазавага мастацтва пералічаных гарадоў вельмі добрую пра сябе славу.

Выкліканая жорсткімі фізічнымі рэпрэсіямі мітусня яўрэйскай інтэлігенцыі (і не толькі) з выбарам для сябе больш-менш спакойнай, перспектыўнай ва ўмовах Беларусі той ці іншай нацыянальнай культуры не магла не стаць прычынай рознага роду канфліктаў і паміж самімі творцамі адной і той жа этнічнай прыналежнасці. Трывала ўсталёўвалася думка, з якой цалкам пагаджаюся і я, што для яўрэяў уласціва паважлівае стаўленне адзін да аднаго. Але калі ў

[1] Назаўсёды разам. Да 60-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Мн., 1999. С. 218.
[2] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. С. 344.

1930-я гады ў Беларусі, а таксама на тэрыторыі ўсяго СССР няспынна чыніліся масавыя фізічныя рэпрэсіі, карніцкім органам удалося даволі лёгка ўнесці раскол і ў асяроддзе яўрэйскай творчай інтэлігенцыі. Так, галоўнага рэдактара яўрэйскай газеты "Октобэр", намесніка народнага камісара асветы БССР Х.Дунца выключылі з Саюза пісьменнікаў Беларусі па прапанове старшыні яго яўрэйскага аддзялення І.Харыка. Выключылі, але пакінулі на волі нібыта дзеля таго, каб як толькі надыдзе час, даць слова Х.Дунцу для ўзвядзення так неабходнага суду паклёпу на І.Харыка. Х.Дунец на выдатна справіўся з такім няўдзячным абавязкам. Рэпрэсіўным органам усё ўдавалася.

Як парадокс, намнога лепш пачувалі сябе, не зведвалі аніякіх перашкод для творчай працы беларускія яўрэі, што напярэдадні кастрычніцкага перавароту 1917 года ці ўжо ў міжваенны перыяд падаліся ў эміграцыю. Адны з іх тварылі ва ўлонні роднай культуры, другія – на карысць культуры краін свайго пражывання. Найбольш шчасліва склаўся лёс тых, хто атабарыўся ў ЗША. Пішучы пра яўрэяў з Беларусі ў гэтай краіне, ніяк нельга абмінуць Керка Дугласа (сапр. Ісур Даніловіч), бацькі якога ў 1910 годзе памянялі Магілёўшчыну на адзін з самых бедных раёнаў Нью-Йорка, дзе і нарадзіўся ў 1916 годзе будучы кінаакцёр. На працягу шэрагу гадоў яго імя вельмі прыгожа свяцілася сярод Галівудскіх зорак. У сваёй кнізе-аўтабіяграфіі "Сын анучніка" ён згадвае і пра Марка Шагала, і пра радзіму бацькоў Магілёўшчыну.

Амерыканскай літаратуры, галоўным чынам публіцыстычнай, папулярна-гістарычнай, ёсць за што дзякаваць мястэчку Узляны Пухавіцкага раёна, у якім, як і ў многіх іншых такой катэгорыі населеных пунктаў Беларусі, і да кастрычніцкага перавароту 1917 года, і да Другой сусветнай вайны жылі яўрэі. У 1898 годзе тут у яўрэйскай сям'і Лаянсаў нарадзіўся Юджын. Доўга пажыць яму ў гэтым прыгожым куточку беларускай зямлі не давялося: у 1907 годзе разам з бацькамі эміграваў у далёкія ЗША і, відаць, не пашкадаваў, бо стаў тут, дзякуючы плённай літаратурнай дзейнасці, шырока вядомым чалавекам. З выдадзеных ім

кніг найбольш папулярнымі ў чытача сталі: “Давід Сарноў: біяграфія”, “Камандзіроўка ва Утопію”, “Чырвоная дэкада”, “Сталін – цар усяе Русі”. Заўважу, што першая з пералічаных кніг (выдадзена ў 1966 г. у Нью-Ёрку) прысвечана адраджэнцу Узлян, амерыканскаму генералу і вынаходніку Давіду Сарнову (1891–1971).[1] Вось Вам і Узляны! І гэта яшчэ не ўсё, што пацвярджаецца зместам наступнага абзаца.

Ёсць што добрага сказаць пра дзейнасць у міжваенны перыяд і іншых беларускіх яўрэяў Амерыкі на літаратурнай ніве. У такой дзейнасці для нас нямалаважным з’яўляецца прысутнасць у ёй беларускай (літоўскай) тэматыкі. Вось як гэты аспект падаецца адным з самых актыўных на сёння беларускім грамадска-палітычным, культурным дзеячом ЗША Вітаўтам Кіпелем: “Драматург Леон Кобрын, які нарадзіўся ў Віцебску, закранае беларускія тэмы ў сваёй вядомай п’есе “Янкель Бойль, або Вясковы хлопец”, а таксама ў апавяданьнях “Літоўская вёска” і “Зь літоўскага мястэчка ў шматкватэрны дом” (надрукаваныя ў 1927 г. у Нью-Йорку. – *Л.Л.*) Кобрын апісвае жыцьцё яўрэяў і іхныя дачыненьні зь мясцовым хрысьціянскім насельніцтвам, якія, хоць і не заўсёды суладныя, даволі часта былі прыязныя, асабліва што датычыць моладзі. Творы Кобрына расквечаны тыпова беларускімі выслоўямі й выяўляюць ягонае знаёмства з жыцьцём сялянаў, сярод якіх ён пасяліў сваіх герояў. Беларускія тэмы таксама знайшлі сваё адлюстраваньне ў кнізе Абрагама Кагана “Узьлёт Давіда Лявінскага” (выйшла ў 1934 г. у Нью-Йорку. – *Л.Л.*) ды ў першым томе ягонае шматтамовае аўтабіяграфіі “Лісьцё майго жыцьця”.[2] У гэтым звязку варта згадаць народжанага ў ЗША аўтара бестэлера “Вятры вайны” яўрэйскага пісьменніка з беларускімі каранямі Хэрмана Воўка, які “ў сваёй аўтабіяграфіі, падаючы ўспаміны пра бацькоў, настальгічна апісвае стары Менск”.[3]

Сказанае вышэй пра міжваенных яўрэйскіх літаратараў ЗША было ўласціва многім іх суродзічам з ліку майстроў

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 11 лістапада. С.6.
[2] Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША. С. 295.
[3] Тамсама. С. 296.

пэндзля. З такіх мастакоў, аселых у Злучаных Штатах, беларускую тэматыку выдатна адлюстроўвалі ў сваіх творах Абрам Маневіч з Мсціслава, Савелі Сарын – з Полацка, Бэр Кафэт – з Магілёўшчыны.[1]

Вялікай пахвалы за шчырыя клопаты пра сваю радзіму Беларусь заслугоўвае ўраджэнец Мінска яўрэйскага паходжання Ісак Гурвіч (1860–1924). Трапіўшы ў 1889 годзе ў Амерыку ў якасці яе імігранта, ён хутка стаў тут вядомым навукоўцам, актыўна ўдзельнічаў у сацыялістычным руху, што ніколькі не адрывала нашага земляка ад буйных падзей у нядаўна створанай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Каб хоць трохі дапамагчы ёй у развіцці вышэйшай школы І.Гурвіч у 1920-х гадах прадаў свой багаты ў некалькі тысяч тамоў кнігазбор Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту.

Цяжка сказаць, якая была б роля ЗША ў развіцці радыё і тэлебачання, каб у 13-гадовым узросце ў гэтую краіну не эмігрыраваў разам са сваімі бацькамі ўраджэнец мястэчка Узляны Давід Сарнаў (1891–1971; у ЗША стаў Дэвідам Сарнофам). Яму належыць галоўная роля ў вынаходніцтве і наладжванні ў ЗША ў 1920-я гады выпуску "музычных скрынь" (радыёпрыёмнікаў), а пазней, ужо ў канцы 30-х гадоў – тэлебачання. Калі з гадамі прыйшла чарга і да вынаходніцтва, развіцця каляровага тэлебачання, ён уклаў у гэтую справу 130 млн. долараў. Д.Сарнаў многа зрабіў для амерыканскага кіно, быў заснавальнікам Нацыянальнай вяшчальнай кампаніі (НВС).[2]

Не збаяўся выбраць ЗША ў якасці свайго эміграцыйнага прытулку ўраджэнец Магілёва Ізраіль Бейлін (1888–1989), якога пазней з-за памылкі ў амерыканскіх газетах назавуць Ірвінгам Берлінам. Ніхто не мог прадбачыць, што з цягам часу з гэтага яшчэ зусім юнага вулічнага спевака, афіцыянта-спевака амерыканскіх кафэ і рэстаранаў так хутка вырасце, ужо ў пачатку 1920-х гадоў, вядомы кампазітар. Шлягерам на ўсе гады стала напісаная ім у 1942 годзе песня "Белыя Каляды". Першым яе выканаў

[1] Тамсама. С. 302.
[2] Літаратура і мастацтва. 2004. 13 жніўня. С. 15.

знакаміты спявак Бінг Кросбі. Розныя кампаніі гуказапісу зрабілі з яе звыш 30 мільёнаў копій! Усяго І.Берлін напісаў каля дзевяцісот шлягераў. Яго песня “Божа, блаславі Амерыку” з’яўляецца неафіцыйным гімнам ЗША. І.Берлін яшчэ і аўтар самай папулярнай у ЗША балады да створанага ў 1942 годзе фільма Б.Кросбі “Атэль на свяце”. Гэты ўраджэнец Беларусі з’яўляецца аўтарам музыкі да 17 кінафільмаў і да 21 брадвейскага мюзіклу.[1] Невядома, што ён зрабіў бы, застаўшыся на ўсё жыццё ў родным Магілёве. Але няхай бы нават і дзясятую частку з таго, чым узбагаціў амерыканскую зямлю, яна (частка) як бы ў многім паспрыяла развіццю яўрэйскай культуры Беларусі, яе прэстыжнасці ў культурным свеце. А так ёй застаецца толькі цешыцца, што І.Берлін нарадзіўся не дзе-небудзь, а на яе зямлі.

Яўрэі з Беларусі, жывучы ў розных краінах, іншым разам рабілі штосьці такое, што непасрэдна адпавядала яе інтарэсам. Асабліва гэта датычыла тых, што на чужбіне не забываліся беларускай мовы, якую даволі шырока выкарыстоўвалі ў сваёй практыцы хрысціянскія рэлігійныя арганізацыі пасля выезду ў эміграцыю. Здараліся выпадкі, што іх кіраўнікі прыцягвалі такіх яўрэяў да ўдзелу ў перакладах рэлігійных кніг. Гэтай справай займалася і віленская яўрэйка Розенберг. “Незадоўга да смерці ў 1926 годзе зрабіла варыянт перакладу Псалмоў на беларускую мову. Яна пераклала таксама некалькі кніг Старога Запавету, якія, на жаль, не захаваліся”.[2]

Надзвычай жаданы, прэстыжны для ўсіх беларускіх яўрэяў эміграцыі амерыканскі напрамак ніяк не мог зрабіць непапулярнымі для іх перадавыя сваёй культурай многія еўрапейскія краіны і як у дарэвалюцыйны час асабліва Францыю. Тут стварылася самая шматлікая ў Еўропе дыяспара з яўрэяў Беларусі. Цяжка знайсці якую-небудзь са сфер культуры, дзе не працавалі б яны. А вось Германія з прыходам у 1933 годзе да ўлады Адольфа Гітлера ўжо ніколі не вабіла да сябе беларускіх яўрэяў. Наадварот, практычна

[1] Літаратура і мастацтва. 2006. 10 лістапада. С. 13; “Народная воля”. 2009 – 2010. 29 снежня – 4 студзеня.
[2] Наша слова. 2011. 30 лістапада.

ўсе яны, што трапілі ў гэтую краіну да ці пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года, імкнуліся хутчэй пакінуць яе, ратуючыся ад сістэматычных яўрэйскіх пагромаў.

* * *

У гісторыі культуры яўрэяў Беларусі міжваеннага перыяду шмат чаго было такога, з чым ім не даводзілася сутыкацца ні да ні пасля яго. Прычын для гэтага мелася нямала, але ж галоўную трэба выводзіць з самай сутнасці дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, нягледзячы і на незавершанасць апошняй, свядомы зрыў яе бальшавіцкім ідэалагічным апаратам, савецкімі спецслужбамі. Пад спрыяльным уздзеяннем беларусізацыі – на вялікі жаль кароткатэрміновым – яўрэі, захоўваючы, узбагачаючы свой нацыянальна-моўны ўклад жыцця, між іншым даволі часта далучаліся ў самых розных формах і да духоўных здабыткаў тытульнага насельніцтва, што рабіла больш абгрунтаванай, апраўданай, ужо даўно замацаванай за імі ва ўсіх жанрах літаратуры, грамадскім ужытку дэфініцыі "беларускія яўрэі". Калі раней яны сваё этнакультурнае жыццё ў пераважнай ступені спалучалі з рускім, цяпер на замену апошняга ішло беларускае, што асабліва выразна назіралася ў моўнай пераарыентацыі. Адзначу, што такая зусім заканамерная ў тых варунках з'ява не мела пад сабой прымусу, адбывалася натуральным чынам, таму магла разлічваць на далейшы працяг, прычым без усялякіх рэальных пагроз страты яўрэямі сваёй самабытнасці. Ініцыяваны агульнасаюзным партыйным цэнтрам адыход ад дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі карэнным чынам змяніў – прычым за досыць кароткі тэрмін – нацыянальна-культурнае становішча ў БССР, на што асабліва не паўплывала і далучэнне да яе ад Польшчы заходнебеларускіх земляў.У выніку ўсіх тых перамен у культурным жыцці найбольш пашанцавала прадстаўнікам рускай нацыянальнасці. Хоць Беларусь для апошніх з'яўлялася этнічна чужой тэрыторыяй, яны з дапамогай Масквы ўпэўнена выходзілі на тыя пазіцыі, якія займалі тут пад уладай царскай Расіі.

Многае з таго, што сказана вышэй пра беларускую культуру і яе прыродных носьбітаў, назіралася і ў асяроддзі яўрэйскай супольнасці. Нічым не абгрунтаванае ўзмацненне ідэалагічнай барацьбы бальшавіцкай партыі супроць ідышызацыі, акрамя шкоды, нічога іншага не магло даць беларускім яўрэям. Гэта досыць хутка зразумелі і тыя з іх, хто быў супроць афіцыйнай палітыкі ідышызацыі і стаяў за развіццё яўрэйскай культуры на іўрыцкай моўнай аснове. Пры ўсіх складанасцях тагачаснага жыцця ідышызацыя нават і ва ўмовах саветызацыі гарантавала яўрэям БССР захаваць сваю этнакультурную самабытнасць. У яўрэяў было дастаткова падстаў ганарыцца дасягненнямі ў развіцці ідышысцкай культуры. Нямала чаго з яе ўвайшло ў залаты фонд сусветнай яўрэйскай супольнасці. Дастаткова лёгкі пераход, нават і самой творчай інтэлігенцыі, з ідышысцкай культуры ў рускую ў сацыяльным плане даваў пэўную выгоду, а ў нацыянальным – паступовую дээтнізацыю. Гэта ўжо досыць добра адчулася на маладых пакаленнях беларускіх яўрэяў і пад канец 30-х гадоў, хаця самай дэідышызацыі не споўнілася і дзесяці гадоў.

Пасля згортвання афіцыйнай палітыкі беларусізацыі і ідышызацыі ў беларускай і яўрэйскай культур быў адзін вораг, прычым архінебяспечны – гэта русіфікацыя. Пішу “архінебяспечны” таму, што, акрамя навязвання яе беларусам і яўрэям самой дзяржавай, насустрач гэтай злыбедзе падаліся з распрасцёртымі рукамі элітныя колы і першых, і другіх у надзеі атрымаць ад Маскоўскага Крамля жаданы кавалак пірага. І многія атрымалі, а вось і беларуская, і яўрэйская культуры пакаціліся ў асіміляцыйную багну. Куды было б разумней, карэктней яўрэям, калі ўжо самі не жадалі далейшага паглыблення ідышызацыі жыцця ці пачалі адрывацца ад яе ў выніку нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі, падацца ў беларускую культуру, як культуру народа, зямлю якога ў перыяд Сярэднявечча самі абралі для сталага пасялення. У такіх варунках хоць трохі лягчэй было б весці супольнае змаганне з агульным злом – русіфікацыяй. Прычыненая ёю ў міжваенныя гады шкода і беларускай і яўрэйскай культурам не вызначалася б такой

маштабнасцю, не пакінула б такой кроватачывай раны. Гэты бесперспектыўны, небяспечны і для беларускай, і для яўрэйскай культур ход падзей, свядома выбраны партыйнымі ідэолагамі Масквы, на некалькі гадоў прыпыніла Вялікая Айчынная вайна. Але і з заканчэннем яе бальшавіцкая партыя ні на крок не адступіла ад сваёй заганнай практыкі дэнацыяналізацыі культур усіх нярускіх народаў СССР.

## 4. На змену біялагічнаму Халакосту прыйшоў этнічны

У вызваленай ад нямецкіх акупантаў Беларусі надзвычай складана было штосьці практычнае рабіць у сферы яўрэйскай культуры, прычым не так з-за эканамічнай разрухі, колькі па іншых прычынах. Думаю, што адну з галоўных з іх трэба бачыць у вялікіх стратах кадравага патэнцыялу. У поўнай меры адчувалася гэта і на яўрэйскай літаратуры. Да масавых фізічных рэпрэсій 1937–1938 гадоў у яўрэйскай пісьменніцкай арганізацыі БССР налічвалася звыш сарака творцаў. З іх дванаццаць былі расстраляны сталінскімі душагубамі ў 1937 годзе, сямёра адсядзелі ў сталінскіх лагерах і выйшлі адтуль з моцна падарваным здароўем, пражыўшы пасля вызвалення не больш за трычатыры гады. Моця Дзягцяр загінуў у савецка-фінскую вайну, не вярнуліся з франтоў Вялікай Айчыннай вайны Рувім Рэйзін, Леў Талалай, Генах Шведзік, Шымон Ляльчук, Давід Курлянд, Захар Барсук, Элі Каган, Бер-Сарын, ахвярамі гета сталі Сара Каган, Рахіль Брохес, Даніэль Маршак, Іцак Рэзнік, Нота Вайнгоз.[1]

Сярод іх было нямала па-сапраўднаму таленавітых творцаў, здольных унесці вялікі ўклад у яўрэйскую культуру ў нялёгкі для яе пасляваенны перыяд.

У пасляваеннай Беларусі ў яўрэяў не мелася магчымасці паслухаць філігарную ігру на скрыпцы Іягуды Жухавіцкага (выпускнік Венскай імператарскай кансерваторыі), Германа Саламонава (закончыў Лейпцыгскую дзяржаўную кансерваторыю і затым працаваў у ёй канцэртмайстрам). І першы, і другі закатаваны ў гета. Такі ж жорсткі лёс напаткаў кампазітара, стваральніка першага беларускага нацыянальнага балета “Салавей” паводле аповесці Змітрака Бядулі Міхаіла Крошнера.

Праўда, у першыя два гады пасля разгрому Германіі было нямала чаго і такога, што падавала надзеі толькі на лепшае ў аднаўленні яўрэйскага культурнага жыцця ў

---

[1] Авив. 2002. Май – июнь. С. 24; Релес Гирш. Еврейские советские писатели. С. 279.

Беларусі. ”У 1946 годзе, – узгадвае актыўны ўдзельнік таго жыцця Рыгор Рэлес, – на кароткі час з’явілася невялікая надзея, што ў рэспубліцы зноў адродзіцца яўрэйская культура. Вярнуўся з эвакуацыі Беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатр, сталі гучаць радыёнавіны на ідышы, меркавалася выданне альманаха. У Мінск вярнулася група яўрэйскіх пісьменнікаў. Першы нумар альманаха пад рэдакцыяй Хаіма Мальцінскага выйшаў пад шапкай ”Міт фэстн трот” (“Цвёрдым крокам”)”.[1] Тую спрыяльную сітуацыю не прамарудзілі выкарыстаць Герш Камянецкі і Айзік Платнэр. Першы з іх паспеў выдаць зборнік “Штаркер фун айзн” (“Трывалей за жалеза”), другі – кнігу “Міт лібе ўн глейбн” (“З любоўю і верай”).[2] Аднак, праз нейкі час сітуацыя рэзка змянілася. Група пісьменнікаў (Герш Камянецкі, Гірш Смоляр, Айзік Платнэр) звярнулася да першага сакратара кампартыі Беларусі П.К.Панамарэнкі з просьбай адкрыць у рэспубліцы яўрэйскія школы і зрабіць захады для ажыўлення яўрэйскай культуры, на якую пачаўся масіраваны наступ.

Іх запрасіў да сябе Панамарэнка. Размова ішла не так, як хацелася б. Панамарэнка даў зразумець пісьменнікам, што іх просьба пахне “бундзізмам” і сіянізмам і парэкамендаваў менш турбаваць гэтымі праблемамі партыйных кіраўнікоў”.[3]

Больш спакойным, упэўненым у заўтрашнім дні было жыццё прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі занятых у сферы адукацыі, асабліва ў яе самых высокіх звёнах, дзе ў першыя пасляваенныя гады адчуваўся востры дэфіцыт у прафесарска-выкладчыцкіх калрах. У 1946/47 навучальным годзе сярод 26 выкладчыкаў беларускага юрыдычнага інстытута яўрэяў было нават больш, чым беларусаў: адпаведна 17 і 7 чалавек. У многім падобнае становішча з выкладчыкамі склалася ў Беларускім політэхнічным інстытуце: яўрэяў – 68 чалавек, беларусаў – 48, рускіх – 29, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў – 9. У Мінскім медыцын-

[1] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Белоруссии… С. 52.
[2] Там же. С. 150.
[3] Там же. С. 53.

скім інстытуце на яўрэяў прыпадала 38% агульнай колькасці прафесарска-выкладчыцкага складу, на беларусаў – 41, рускіх – 20. І сярод студэнтаў ВНУ на яўрэяў даводзіўся больш высокі працэнт, чым гэтай нацыянальнасці ў агульнай колькасці жыхароў БССР, – 17,4. У агульнай колькасці выпускнікоў ВНУ 1948 года яўрэі складалі 16,3%.[1]

Тут прэтэнзіі да нацыянальнай палітыкі бальшавіцкай партыі ніяк нельга выставіць.

За ходам ажыццяўлення будаўніча-аднаўленчых работ у Беларусі не мог не сачыць Іосіф Лангбард, дзеля архітэктурнага развіцця якой так многа папарцаваў у даваенныя гады. Яшчэ знаходзячыся "ў эвакуацыі, Лангбард аднаўляе сувязь з праўленнем Саюза архітэктараў БССР і ўключаецца ў яго работу. Неўзабаве пасля вызвалення Беларусі ён прыязджае ў Мінск і прымае актыўны ўдзел у рабоце Камісіі Камітэта па справах архітэктуры пры СНК СССР, што склала Эскіз – ідэю схемы генеральнага праекта горада. У 1949 годзе ў сувязі з 30-годдзем БССР дойлід быў узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны".[2]

Без усялякай затрымкі адразу ж пасля вызвалення Мінска ад нямецкіх акупантаў вярнуўся дамоў добра вядомы ў даваенныя гады літаратурны і тэатральны крытык Міхась Модаль (родам з в. Камень Лепельскага раёна). Пачаў з працы загадчыка літаратурнай часткі Беларускага тэатра оперы і балета. Яго пяру належаць цікавыя, змястоўныя кнігі пра народную артыстку СССР, беларускую оперную спявачку Ларысу Александроўскую, выбітную танцаўшчыцу народную артыстку БССР Аляксандру Нікалаеву.

Вялікія страты кадравага патэнцыялу за час вайны і акупацыі ды плюс яшчэ адсутнасць усялякай падтрымкі ўладамі яўрэйскай культуры паставілі яе ў неверагодна цяжкія ўмовы. Спадзявацца, што на ніву яўрэйскай нацыянальнай культуры і найперш у мастацкую літаратуру прыйдзе моладзь, асабліва не даводзілася, бо ўжо за колькі гадоў і да вайны ў яе не было магчымасці атрымліваць адукацыю на мове ідыш. У сем'ях ён пакуль што бытаваў, але, як

[1] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. С. 400, 401.
[2] Родны край. 2012, 19 студзеня.

сведчыць сусветны вопыт, гэтага не заўсёды дастаткова, каб у падобных варунках мова сям'і станавілася рабочай мовай літаратурнага працэсу. Неабходна, каб яна абслугоўвала самыя прэстыжныя сферы дзейнасці чалавека, выкарыстоўвалася ва ўсіх звёнах выхавання і навучання маладых пакаленняў, не мела сабе канкурэнта ў культурным жыцці. Усяго гэтага ні на грам не далі яўрэйскай мове ў пасляваеннай Беларусі, што сёння назіраецца і з роднай мовай яе тытульнага народа. Такое начыста пазбаўляе беларусаў  нават самай мізэрнай магчымасці захаваць сваю этнакультурную самабытнасць. Сярод беларускіх яўрэяў не знайшлося дастатковай колькасці – на гэта, відаць, былі важкія прычыны – смелых, рашучых змагароў за аднаўленне для іх дзяцей школ з роднай мовай навучання. Паколькі абсалютная бальшыня яўрэяў канцэнтравалася ў гарадах з іх рускамоўнай адукацыяй, іх (яўрэяў) дзеці, акрамя атрымання неабходных тут ведаў, воляй-няволяй станавіліся аб'ектам немінучай русіфікацыі, што ў нейкай ступені ў адмоўным плане ўплывала і на стаўленне бацькоў да ўсяго свайго нацыянальнага. Яно трашчала па ўсіх швах. Гэта было добра вядома ў Маскоўскім Крамлі. Адсюль у лістападзе 1948 года паступіла распараджэнне аб закрыцці ў Маскве яўрэйскамоўнага выдаецтва “Дэр Эмес” (“Праўда”), друкаваную прадукцыю, якога ахвотна набывалі і ў Беларусі. Міне крыху больш за два месяцы і Палітбюро Усе КП(б) распарадзіцца аб роспуску аб'яднанняў яўрэйскіх пісьменнікаў (існавалі ў Маскве, Кіеве і Мінску), закрыцці яўрэйскамоўных альманахаў (выходзілі ў Маскве і Кіеве). Эпілогам палітыкі савецкага нацыянальнага генацыду ў дачыненні да беларускіх яўрэяў стала закрыццё ў красавіку 1949 года ў Мінску Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР, пра які больш падрабязна гаворка будзе ніжэй. У выніку ўсяго гэтага быў забіты асінавы кол у нацыянальнае жыццё яўрэяў Беларусі. Іх цяпер чакала толькі адно – этнічнае выміранне.

Публічна выступіць супраць такога нацыянальнага генацыду яўрэяў нельга было ні ў друку, ні па радыё, ні шляхам арганізацыі мітынгаў і дэманстрацый. У адпавед-

ныя інстанцыі ад яўрэяў маглі паступаць толькі ананімкі. У тагачасных умовах у Беларусі ў яўрэяў адсутнічала нават сімвалічная падтрымка ад яе тытульнай нацыі. І гэта зразумела, бо і пад ёй жа моцна хісталіся падваліны: ва ўсіх відах службовага справаводства выкарыстоўвалася толькі руская мова, толькі на ёй будаваўся навучальна-выхаваўчы працэс у вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе, што самым сур'ёзным чынам пагражала беларускай мове з гадамі стаць незапатрабаванай у грамадскім жыцці, г.зн. быць выкінутай на сметнік.

У той цалкам бесперапектыўнай сітуацыі беларускіх яўрэяў, як і ўсіх іх супляменнікаў свету, моцна абрадавала стварэнне ў маі 1948 года паводле рашэння Генеральнай асамблеі ААН 29 лістапада 1947 года незалежнай дзяржавы Ізраіль. Дзеля здзяйснення гэтай святой, запаветнай для многіх пакаленняў яўрэяў мэты спатрэбілася шмат часу і неверагодных намаганняў. Як вядома, Ізраільскае і Іудзейскае царствы ў выніку войн страцілі сваю палітычную незалежнасць яшчэ ў восьмым стагоддзі да нашай эры.

Творчая яўрэйская інтэлігенцыя Беларусі з вялікай радасцю вітала стварэнне дзяржавы Ізраіль, імкнулася і сама штосьці карыснае зрабіць дзеля яго інтарэсу, прычым не толькі эканамічнага, культурнага, але і ваенна-палітычнага. Так, мастаку з Пружан Мошу Бярнштэйну перад тым як заняцца па прыбыцці ў 1947 годзе ў Ізраіль любімай справай давялося з вінтоўкай у руках адстойваць яго дзяржаўную незалежнасць. Мастаку пашанцавала: застаўся ў жывых і ў 1949 годзе ўдзельнічаў у выставе "Аманім – алім" – "Мастакі – рэпатрыянты". "Поўнае прызнанне атрымаў пасля персанальнай выставы ў прэстыжнай тэльавіўскай галерэі "Кац".

За 50 гадоў насычанай творчай працы адбылося звыш 50 выстаў з яго ўдзелам. Яго працы некалькі разоў экспанаваліся ў Расіі, ЗША, Францыі, Галандыі і Італіі. У 1998 годзе карціны Бярнштэйна экспанаваліся на міжнародным фэсце тэатра ў Парме (Італія), у 1999 – за "дакументацыю

зніклага габрэйскага свету" мастак атрымаў узнагароду Інстытута вывучэння Халакосту (Ізраіль)".[1]

Здавалася б, яўрэі, маючы вялікую, справядлівую крыўду на рускамоўную Маскву за ўчынены апошняй супраць іх яшчэ з даваеннага часу нацыянальны генацыд, будуць унікаць рускай культуры, свядома пойдуць на збліжэнне з беларусамі, бо ў тыя гады ўжо і ў іх нацыянальна-культурным жыцці ўтварылася шмат незагойных ранаў ад дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі. На практыцы такога збліжэння, як і ў міжваенны перыяд, асабліва неназіралася. Не бачачы ў беларускай нацыянальнай культуры аніякіх перспектыў у суперніцтве з рускай, яўрэйская творчая інтэлігенцыя, забыўшыся на ўсе антысеміцкія дзеянні агульнасаюзнага бальшавіцкага ідэалагічнага апарату, свае галоўныя сілы пачала перакідваць у лона апошняй. Галоўную ролю адыграў тут характэрны не толькі яўрэям прагматызм: навошта працаваць на карысць бесперспектыўнай у сябе дома беларускай нацыянальнай культуры, калі ёсць шанец стварыць кар'еру на рускай культуры, якой партыйныя ідэолагі, не стамляючыся, прарочылі ў не такія ўжо і далёкія часы стаць культурай светлага камуністычнага грамадства. Беларускія яўрэі гужам пацягнуліся ў рускую культуру, у чым у іх і раней ужо меўся багаты практычны досвед. На шчасце – і, мо, не толькі беларусаў – не абышлося і без выключэння. Без усялякай прынукі, добраахвотна некаторыя з яўрэяў пацягнуліся да беларускай культуры, г. зн. да прыроднай культуры месца свайго пражывання. Адданых ёй творцаў не будзе памылкай назваць актыўнымі носьбітамі беларускай нацыянальнай культуры. Без іх удзелу яна панесла б яшчэ большыя страты ў выніку мэтанакіраванага ажыццяўлення звязаных з дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі мерапрыемстваў. Праводзіліся ж яны з зайздроснай паслядоўнасцю. Не толькі ў першае, але і ў наступныя дзесяцігоддзі пасля вайны яшчэ шэраг яўрэяў у сваёй літаратурнай дзейнасці свядома аддаваў перавагу беларускаму слову над рускім. Датычыла гэта як мастацкіх, так і літарату-

[1] Новы Час. 2011. 17 чэрвеня. С. 15.

разнаўчых твораў. Беларусь шмат у чым абавязана таленту крытыка і літаратуразнаўца з ліку яўрэяў Рыгору Бярозкіну. Мала хто, як ён, так глыбока, праўдзіва разгледзеў гісторыю беларускай паэзіі, асабліва ўклад у яе Янкі Купалы, Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова. “Зробленае Р.Бярозкіным у галіне літаратуразнаўства і крытыкі, – справядліва адзначае Кацярына Варанько, – спрыяла росту і паглыбленню творчай культуры ўсёй беларускай паэзіі”.[1]

Ніякія перамены да горшага ў нацыянальнай палітыцы КПСС, недастаткова спаважлівае стаўленне самога беларускага народа, асабліва яго палітычнай эліты і творчай інтэлігенцыі, да ўласнай культуры не пахіснулі шчырай адданасці беларускаму слову Эдзі Агняцвет ( сапр. Каган, 1916 – 2000, Мінск). Толькі яно было рабочай мовай таленавітай паэткі у той час, як многія з прадстаўнікоў яўрэйскай творчай інтэлігенцыі шукалі шчасце ў рускай культурна-моўнай стыхіі. Асабліва шмат выдатных паэтычных твораў прысвечана дзецям. Беларуская пісьменніца Алена Васілевіч нікольki не перабольшыла, пішучы: “З яе адыходам у бязмежнай журбе склала крылы цэлая эпоха дзіцячай літаратуры”.[2] Зусім не апраўдана, што яшчэ аніводная з дзіцячых арганізацый, рухаў не ўвасобіла ў сваю назву імя гэтай паэткі.

Гаворку пра Эдзі Агняцвет хачу закончыць радкамі з артыкула журналісткі Алены Мімрык (калісьці працавала адказным сакратаром часопіса “Бярозка”) “Неразлучная пара – Алесь і Тамара” (першы з названых беларускі пісьменнік Алесь Пальчэўскі, другая – яго жонка Тамара Цулукідзе): “Тут, за сяброўскай бяседай, вяліся гарачыя спрэчкі, гучалі песні. Спявала і Эдзі Агняцвет. Раней я не чула яе спеваў і нават не ведала, што ў яе цудоўнае каларатурнае сапрана. Заслухаешся!”[3]

Працягваў, як і да вайны, заставацца верным беларускаму мастацкаму, публіцыстычнаму слову Алесь (Айзік) Кучар. З яго пасляваенных кніг найбольш значныя: “Літара-

[1] Літаратура і мастацтва. 2008. 28 жніўня. С. 14.
[2] Роднае слова. 2000. 11 кастрычніка.
[3] Літаратура і мастацтва. 2011. 12 жніўня. С.4.

турна-крытычныя артыкулы", "Аб мастацкай прозе", "Над Дзвіной, Нямігай, Віліяй", "Аблічча часу", а з п'ес – "Заложнікі", "Гэта было ў Мінску". Ён з'яўляўся аўтарам даволі папулярных для свайго часу кінасцэнарыяў (дэманстраваліся на рускай мове) "Чырвонае лісце" (з А.Куляшовым) "Гадзіннік спыніўся апоўначы" (з М.Фігуроўскім), "Лісты да жывых".

Пасляваенная дзяржаўная палітыка русіфікацыі не вывяла з беларускай культурна-моўнай нівы аўтара п'есы "Канстанцін Заслонаў" Аркадзя Маўзона (сапр. – Маўшэнзон), па якой у 1949 годзе студыяй "Беларусьфільм" пастаўлены аналагічнай назвы кінафільм (атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР). Яго пяру належаць п'есы: "У бітве вялікай", "Наталля Крыўцова", "У ціхім завулку", "Калі ты чалавек", "Пад адным небам", "Куды ідзеш, Сяргей", "У доме на Сонечнай", "Усяго адно жыццё" і інш. Іх ставілі ў самых прэстыжных драматычных тэатрах Беларусі імя Янкі Купалы (Мінск) і Якуба Коласа (Віцебск).

У той цяжкі для нацыянальнай культуры час не мяняў свайго паважлівага стаўлення да беларускага слова яўрэй па паходжанні Уладзімір Мехаў (сапр. Нахамкін), за што яго высока цанілі і цэняць ў літаратурных колах. Рабіць добрую справу на карысць беларускай культуры дапамагала Уладзіміру Мехаву праца ў газетах "Літаратура і мастацтва" (аказны сакратар), "Чырвоная змена", на радыё. Самымі плённымі для яго гадамі на беларускай літаратурнай ніве былі 50 – 70-я. З выдадзеных тады кніг назаву: "Сцяг над рэўкомам" (1958), "Апошняя яўка" (1959), "Помнік герою" (1961), "Станцыя паблізу Тамбова" (1964), "Добры вечар, камбат" (1970), "Слухаецца справа аб замаху" (1972), "Старадаўняя гравюра" (1974). Ён аўтар п'ес для юнацтва "Чырвоны губернатар", "Палёт", пастаўленых адпаведна ў 1967 і 1969 гадах, а таксама шэрагу сцэнарыяў для дакументальных фільмаў. Сёння з'яўляецца сябрам неафіцыйнага Саюза беларускіх пісьменнікаў.[1]

[1] Наша слова. 2011. 16 лістапада.

На працягу многіх гадоў (з 1949 па 1989) аддана служыў беларускаму слову, як свайму роднаму, дыктар беларускага радыё Ілья Курган. І аўтару гэтых радкоў нават пры вялікай занятасці якой-небудзь важнай сур'ёзнай навуковай справай не хацелася выключаць радыё, калі з рэпрадуктара несліся ў эфір філігарна адчаканеныя ў вымаўленні І.Кургана словы маёй роднай, але ўжо афіцыйна моцна занядбанай роднай мовы.

Беларуская творчая інтэлігенцыя, звязаная з прафесійным выкарыстаннем роднага слова, не магла як след аддзячыць тым яўрэям, што з вялікай пашанай ставіліся да яго. Не маглі не толькі таму, што не валодалі ідышам, а галоўным чынам таму, што бальшавіцкія ідэолагі выключылі яго адусюль з грамадскага жыцця і самае страшнае – з літаратурнага працэсу. Павагу да ідыша можна было найлепш засведчыць перакладамі з яго літаратуных твораў на беларускую мову. Пакуль яшчэ не да канца і не ўсімі прадстаўнікамі яўрэйскай творчай інтэлігенцыі забыты, асабліва ў першыя пасляваенныя гады, ідыш не з'яўляўся тады перашкодай, каб пры наяўнасці жадання літаратараў перакладаць з яго на беларускую мову даволі значную колькасць цікавых для чытачоў, незалежна ад іх нацыянальнасці, твораў. Усяго за 1946–1980 гады было перакладзена з яўрэйскай мовы на беларускую 32 кнігі агульным накладам 724 тыс. асобнікаў.[1] Гэта быў трэці ў БССР па велічыні паказчык пасля перакладной літаратуры (маюцца на ўвазе творы тытульных нацый саюзных рэспублік) з рускай і украінскай моваў. Такога ў жыцці не назіралася б пры поўнай адсутнасці на Беларусі носьбітаў ідыша.

Добра пашчасціла з гэтым Айзіку Платнеру. З ідыша на беларускую мову былі перакладзены яго наступныя кнігі вершаў і апавяданняў "Сваёй краіне" (1947), "Соль жыцця" (1957), "Пылаючае сэрца" (1960); кнігі для дзяцей "Мой агарод" (1958), "Вясёлая іголка" (1961), "Магазін цацак" (1963); кніга выбраных вершаў "Дар сэрца".[2] Меў дачыненне да гэтай справы і досыць папулярны яшчэ ў сваім

[1] Друк Беларускай ССР. 1918 – 1980. Стат. зб. Мн., 1983. С. 33.
[2] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Белоруссии… С. 293.

маладым узросце паэт Рыгор Барадулін (нар. у 1935). У 1961 годзе ў яго перакладзе выйшаў з друку зборнік вершаў Рыгора Рэлеса "Бяроза пад вакном".

У Беларусі перакладалі з ідыша і на рускую мову, прычым часта такое рабілі самі аўтары. Так пaступіў і Рыгор Рэлес са сваёй аўтабіяграфічнай аповесцю "Над ракой Ульянкай", якая ў сярэдзіне 1960-х гадоў друкавалася ў маскоўскім яўрэйскім часопісе"Савеціш Геймланд". Такая перакладчыцкая дзейнасць спрыяла хоць захаванню памяці пра ідыш, аднак вельмі мала суцяшала яго шчырых носьбітаў. Яны ж не забыліся пра "залаты век" ідыша ў міжваеннай савецкай Беларусі, калі на ім не толькі пісалі літаратурныя творы, вялі заняткі ў самых розных тыпах навучальных устаноў, а нават выкарыстоўвалі ў службовым справаводстве яўрэйскіх нацыянальных сельскіх саветаў. Разам з беларускай, рускай і польскай мовамі яму знайшлі месца і на Дзяржаўным гербе Беларускай ССР.

Іншай мовы, як ідыш, не шукалі яўрэі, каб выказаць свой горкі, нясцерпны боль на ўсталяваным на "Яме" помніку ў памяць ахвяраў Мінскага гета. На яго чорным граніце высечаны радкі з напісанага ў 1946 годзе Хаімам Мальцінскім верша з перакладам іх на рускую мову. Толькі вось чаму не на беларускую? "Яма" ж знаходзіцца не ў Расіі, а ў цэнтры гістарычнай беларускай тэрыторыі?! Мала хто мог прадбачыць у даваенны час, што праз якую-небудзь чвэртку стагоддзя на ідыш будзе накладзена табу, што ад яго свядома пачнуць адмаўляцца і самі яўрэі, заносячы пад гукі фанфары ў свае кватэры рускую мову.

Як у даваенныя часы, яўрэяў моцна прываблівала да сябе праца на ніве нацыянальнага беларускага тэатральнага мастацтва. Роўных тут, бадай, не было Льву Літвінаву (сапр. Гурвіч) – галоўнаму рэжысёру Беларускага тэатра імя Янкі Купалы (1943 – 1950). Ужо ў першым пасляваенным годзе яму прысвоілі званне Заслужанага дзеяча мастацтва БССР. У гэтым самым прэстыжным тэатры ён паставіў спектаклі: "Позняе каханне", "Таленты і паклоннікі" А.Астроўскага, "Паўлінка" Янкі Купалы, "Рамэо і Джульета" У.Шэкспіра, "За

тых, хто ў моры” Б.Лаўранёва, “Дзень цудоўных падманаў” Р.Шэрыдана, “Гэта было ў Мінску” Алеся Кучара.

Пасля працы ў шэрагу тэатраў Савецкага Саюза вярнуўся ў 1967 годзе ў родную Беларусь Саламон Казіміроўскі, які перад вайной уваходзіў у склад беларускага драматычнага тэатра Віцебска, куды і на гэты раз уладкаваўся на пасаду галоўнага рэжысёра. Затрымаўся на ёй па 1975 год і паспеў паставіць “п’есы Шэкспіра, Мальера, Гальдоні, Горкага, Астроўскага, Нушыча, Макаёнка, Матусоўскага, спектаклі паводле Шамякіна і Дастаеўскага... Сярод лепшых – “Шостага ліпеня” М.Шатрова (Дзяржаўная прэмія БССР), “Матухна Кураж і яе дзеці” Б.Брэхта.

У 1973 годзе рэжысёр быў адзначаны ганаровым званнем заслужанага дзеяча мастацтваў БССР”.[1]

Традыцыйна адным з самых папулярных любімых відаў прафесійнай дзейнасці яўрэйскай творчай інтэлігенцыі і ў пасляваеннай Беларусі з’яўлялася музычнае мастацтва. Аднак пры праглядзе розных энцыклапедычных даведнікаў культуралагічнага характару не знайшоў звестак, каб хто-небудзь з яўрэйскіх кампазітараў Беларусі да пачатку нацыянальна-культурнага адраджэння канца 1980-х гадоў пісаў музыку ў духу традыцый уласнага народа. Яна не выходзіла за рамкі савецкага музычнага мастацтва з выразнай перавагай у ім рускага элемента. Пад уплывам апошняга зрусіфікоўваліся і самі кампазітары і іх супляменнікі, а таксама шырокія пласты беларускага народа, не абыякавыя да музычна-песеннага мастацтва.

Шмат чаго выйграла рускае музычна-песеннае мастацтва ад творчай дзейнасці паэта Міхаіла Ясеня і кампазітара Марка Кагана – яўрэяў па паходжанні. На вершы М.Ясеня пісалі музыку і іншыя кампазітары. У кастрычніку 1966 года М.Ясень разам з кампазітарам Ігарам Лучанком за песню “Память сердца” атрымалі першую прэмію Усесаюзнага конкурсу на лепшую савецкую песню. І пазней ён таксама плённа працаваў на ніве рускамоўнай паэзіі, пра што сведчаць такія яго вершы, пакладзеныя на музыку:

[1] Літаратура і мастацтва. 2012. 6 студзеня. С. 18.

“Майский вальс”, “Письмо из 45-го”, “Синие глаза”, “С днём рождения, Победа!” і інш.

Не выключаю, што хтосьці з кампазітараў мог пісаць творы і на яўрэйскую тэматыку, якія выконваліся ў вузкім коле прадстаўнікоў гэтай этнічнай групы, а таму не набылі так неабходнага для дадзенага жанру публічнага характару. Такім чынам, яўрэі самой савецкай рэчаіснасцю былі пазбаўленыя таго віду творчай дзейнасці, у якой у іх заўжды меліся выдатныя набыткі, якая дапамагала ім і ў далечыні ад сваёй гістарычнай радзімы, у чужых асяроддзях захоўвацца ў якасці самабытнай этнічнай супольнасці. У пасляваеннай Беларусі ў яўрэяў практычна адсутнічала ўсялякая магчымасць развіваць сваё нацыянальнае музычна-песеннае мастацтва. Затое іншым разам не баяўся паказаць прыхільнасць да яго хтосьці з музычных дзеячоў беларускай нацыянальнасці, да прыкладу, мастацкі кіраўнік Беларускага ансамбля песні і танца, рэарганізаванага ў 1950 годзе ў Дзяржаўны хор БССР, які ў сваю чаргу трансфармаваўся ў 1955 годзе ў Дзяржаўную акадэмічную капэлу БССР, Рыгор Шырма. Пры ўсіх уведзеных ідэалагічнымі службамі КПСС строгіх абмежавнняў для развіцця яўрэйскай культуры, што ў поўнай меры адчувалася і ў БССР, ён смела ўключаў у рэпертуар сваёй капэлы, а затым хору яўрэйскія песні. Іх на працягу амаль трыццаці гадоў выконвала Раіса Вол. Таленавітай спявачцы горача апладзіравалі не толькі прысутныя ў зале яўрэі, але і беларусы, рускія, украінцы…

Мо ніхто іншы з кампазітараў-яўрэяў так глыбока не разумеў усёй важнасці працы ў беларускім рэчышчы, як Генрых Вагнер (1922, Жырардаў, Польшча – 2000). Пра гэта пераканаўча сведчаць створаныя на яго музыку балеты: “Святло і цені” паводле рамана Пятруся Броўкі “Калі зліваюцца рэкі”, “Падстаўная нявеста”, “Пасля балю”, опера “Сцежкаю жыцця” і тэлеопера “Ранак” адпаведна па матывах аповесці Васіля Быкава “Воўчая зграя” і паэмы Аркадзя Куляшова “Песня аб слаўным паходзе”. Ваенна-патрыятычнай тэме ён прысвяціў вакальна-сімфанічныя паэмы “Вечна жывыя” і “Героям Брэста”. Паводле

меркаванняў музыказнаўцы Н.Сакалоўскай “Вагнер меў творчыя здабыткі ва ўсіх жанрах музыкі. Яго творчасць вызначалася пластычнасцю і нацыянальнай акрэсленасцю меласу, гукавой маляўнічасцю, драматычна-напружаным развіццём музычных вобразаў. Яго кампазітарскі стыль дастаткова своеасаблівы і самабытны. Яму ўласцівы высокі прафесіяналізм і глыбіня”.[1]

Творы беларускіх кампазітараў ахвотна ўключаў у свой канцэртны рэпертуар самы папулярны ў Беларусі скрыпач Леў Гарэлік (1929 г.н., родам з Бабруйска). Прафесійную кар’еру пачаў з 16-гадовага ўзросту ў складзе сімфанічнага аркестра Беларускай філармоніі (Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР). Найбольшая вядомасць прыйшла да яго падчас працы (з 1956 г.) канцэртмайстрам аркестра Беларускага тэатра оперы і балета. Аматарамі музычнага мастацтва надоўга запомніўся Леў Гарэлік сваімі бліскучымі сольнымі канцэртамі, з якімі даводзілася часта выступаць у розных беларускіх гарадах.

Беларусы не могуць не быць удзячнымі яўрэям за іх неацэнны ўклад у прафесійную падрыхтоўку спецыялістаў для самых розных сфераў культуры, і асабліва музычнай. У гэтым ёсць чым пахваліцца Эдзі Тырманд (1917, Варшава, Польшча – 2008), якая з 1949 года выкладала ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і адначасова пісала творы для сімфанічнага і эстраднага аркестраў. З падрыхтаваных ёю добра вядомых у краіне піяністак можна назваць Таццяну Дуброўскую, Ганну Каржанеўскую, Соф’ю Окалаву, Ларысу Талкачову. З 1952 па 1965 год працаваў выкладчыкам Мінскага музычнага вучылішча Леў Гарэлік.

І ўсё ж у пазбаўленых магчымасці працаваць у родным рэчышчы яўрэяў куды больш было шанцаў рэалізаваць свае інтэлектуальныя, мастацкія здольнасці дзеля рускага, чым беларускага інтарэсу. У БССР на рускай мове функцыянавалі ўсе вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, гарадскія агульнаадукацыйныя школы, шэраг драматычных тэатраў.

[1] Родны край. 2007 г. 13 ліпеня.

Мова суседняга народа займала вядучыя пазіцыі ў калектывах опернага тэатра і тэатра музычнай камедыі, інструментальна-вакальных ансамбляў. Прывольна ёй жылося ў сродках масавай інфармацыі, выдавецкай справе. Вышэй пералічаны акурат тыя сферы дзейнасці чалавека, да працы ў якіх яўрэі традыцыйна мелі вялікую зацікаўленасць, дастатковы досвед. Гэтае ж можна сказаць пра рускамоўную літаратурную дзейнасць яўрэяў. Словам, у афіцыйных крэмлёўскіх прыхільнікаў глабальнага панавання рускай культуры на ўсёй агульнасаюзнай прасторы, здавалася, не магло быць аніякіх прэтэнзій да яўрэйскай творчай інтэлігенцыі пасляваеннай Беларусі. І ўсё ж яны з’явіліся, прычым даволі рана, падчас штучна надуманай бальшавіцкімі ідэолагамі барацьбы з касмапалітамі, нізкапаклонствам перад буржуазнай культурай Захаду. Тая шкодная кампанія не абмінула многіх беларускіх яўрэяў. Прычым пераважна тых, хто займаў ключавыя пазіцыі ў сферы культуры, у іх ліку галоўныя рэжысёры Беларускага тэатра імя Янкі Купалы і Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя Максіма Горкага адпаведна Л.Літвінаў і В.Галаўчынер, вядомы тэатральны крытык М.Модэль. Іх імёны не сыходзілі са старонак перыядычнага друку пасля змешчанага 14 лютага 1949 года ў газеце “Літаратура і мастацтва” артыкула А.Есакова “Носьбіты бязроднага касмапалітызму”. Пасля той публікацыі яны ўжо не маглі разлічваць на спакойную працу ў роднай Беларусі. Так, В.Галаўчынер яшчэ ў 1949 годзе пакінуў яе і сваю далейшую творчую дзейнасць працягваў у якасці галоўнага рэжысёра ў тэатрах Іркуцка, Ташкента (у яго рускім тэатры паставіў у 1954 годзе п’есу Кандрата Крапівы “Хто смяецца апошнім”), Вільнюса ( у 1960 годзе паставіў п’есу паводле Галіны Нікалаевай “Бітва ў дарозе”, за што атрымаў Дзяржаўную прэмію Літоўскай ССР). Тэатральнае мастацтва нямала страціла з-за таго, што В.Галаўчынер апошнія больш за дзесяць гадоў свайго творчага жыцця павінен быў аддаць на карысць іншым саюзным рэспублікам.

Лёс В.Галаўчынера ў многім паўтарыў рэжысёр Л.Літвінаў. Мала хто мог прадбачыць, што пасля такой плённай

працы на ніве беларускага тэатральнага мастапцтва яму давядзецца шукаць шчасце ў Татарскай АССР, дзе ён з 1950 года працаваў у Казанскім тэатры імя Качалава за галоўнага рэжысёра. Тут ім за два гады да смерці была пастаўлена “Лявоніха на арбіце” А.Макаёнка. Як бачым, і на досыць далёкай адлегласці адчуваў сваю шчырую прыхільнасць да Беларусі. Названая пастаноўка была апошняй у творчым жыцці Л.Літвінава.

Не могуць не здзіўляць неверагодна суровыя меры пакарання да беспадстаўна абвінавачаных у касмапалітызме, нізкапаклонстве перад буржуазнай культурай Захаду. Так, паэта Айзіка Платэра прысудзілі аж да 25 гадоў катаржных работ! З іх адседзеў толькі трохі больш за пяць гадоў: выратавала хрушчоўская адліга. З 1950 да 1956 года пакутваў у лагерах Іркуцкай вобласці сакратар яўрэйскай секцыі Саюза пісьменнікаў БССР, паэт Герш Камянецкі (1895–1957). Годам пазней рэпрэсавалі і саслалі ў лагер удзельніка Вялікай Айчыннай вайны (дабраахвотнікам пайшоў на фронт) паэта Хаіма Мальцінскага (на момант арышту ўжо жыў у Бірабіджане і працаваў там у выдавецтве). Пасля вяртання ў Мінск затрымаўся тут да 1975 года, а затым пераехаў у Ізраіль.

Спакайней і нават часта больш плённа праходзіла дзейнасць яўрэйскіх творцаў на ніве і беларускай, і рускай культур у выпадках, калі яна не была звязанай з выкарыстаннем слова. Асаблівых перашкод, да прыкладу, не меў на сваім творчым шляху згаданы вышэй саліст, а затым балетмайстар Беларускага тэатра оперы і балета Сямён Дрэчын, атрымаўшы ў 1950 годзе нават Дзяржаўную прэмію СССР. У пасляваенныя гады ён стварыў у беларускіх нацыянальных балетах вобразы Князя і Васіля (“Князь-возера” В.Залатарова), Янкі (“Палымяныя сэрцы” таго ж кампазітара), “класічныя партыі ў балетах П.Чайкоўскага, А.Глазунова, Л.Мінкуса – усяго больш за тры дзясяткі роляў!”[1] З 1971 года знаходзіўся на пасадзе мастацкага кіраўніка і галоўнага балетмайстра Дзяржаўнага ансамбля танца БССР.

[1] Літаратура і мастацтва. 2000. 14 студзеня. С. 14.

Ніякіх перашкод, а толькі ўсялякую падтрымку меў ад савецкай улады скульптар Заір Азгур. Сваю адданасць бальшавіцкім ідэям ён спаўна даказаў яшчэ ў міжваенныя гады. У такім жа духу тварыў і пазней. На яго рахунку партрэты лідара французскіх камуністаў М.Тарэза, пісьменніка, публіцыста, пачынальніка новай літаратуры Кітая Лу Сіня, індыйскага пісьменніка і грамадзянскага дзеяча Рабіндраната Тагора, двойчы героя Савецкага Саюза С.Грыцаўца, В.Талаша, Ф.Дзяржынскага, М.Фрунзе. Аднак З.Азгур ніколі не забываўся пра неабходнасць адлюстраваць у сваіх партрэтах і скульптурах выбітных людзей беларускай культуры. Гэта – Францыск Скарына, Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Мікалай Аладаў і інш. А.Азгуру і скульптару Г.Заборскаму належала галоўная роля ў афармленні ў Мінску плошчы імя Якуба Коласа ў сувязі з яго 90-годдзем (адзначалася ў 1972 г.). Гэты велічны мемарыяльны комплекс складаецца з помніка беларускаму песняру і скульптурных кампазіцый паводле яго літаратурных твораў "Сымон-музыка" і "Дрыгва" (у апошнім паказаны легендарны герой Грамадзянскай вайны Дзед Талаш).

Ідэалагічныя структуры савецкай Беларусі цалкам задавальняла праца аднаго з класікаў сацрэалізму мастака Мая Данцыга. Асабліва гэта датычыла яго палотнаў, прысвечаных будаўніцтву горада Салігорска: "Гудзе зямля Салігорская", "Я ведаю, горад будзе Салігорск", "Навасёлы", "У заводскай сталовай", "Сонечны дзень".[1] Найбольш вядомыя яго палотны "Партызанскае вяселле", "Беларусь – Маці партызанская", "Мой горад Мінск", "Мой горад старажытны, малады", "Песня пра Мінск", "Мінск прачынаецца", "Верхні горад". За Салігорскі жывапісны цыкл (1960 – 1966) яму прысвоілі прэмію Ленінскага камсамола Беларусі. Ён з'яўляецца аўтарам мазаічнага пано ў кінатэатры "Партызан" і ў гасцініцы "Юбілейная" (у сааўтарстве з Б.Няпомняшчым). Паводле ацэнкі Фелікса Гарда найлепшыя творы М.Данцыга "вельмі дакладна адлюстроўваюць псіхалагічны стан нашага

[1] Лыч Леанід, Навіцкі Уладзімір. Гісторыя культуры Беларусі. С. 458.

грамадства ў 60 – 70-я гады: гонар за вялікую краіну і яе слаўную гісторыю, прыярытэт грамадскага над асабістым...”[1] У савецкія часы такое было ўласціва многім творцам, што знаходзіла поўную падтрымку ад уладаў. Самыя вядомыя вучні М.Данцыга Г.Паплаўскі, В.Сумараў, Л.Шчамялёў, А.Бараноўскі, М.Казакевіч.

Паспяхова рэалізоўваў атрыманы ад самой прыроды выключна багаты талент архітэктар Леанід Левін (1936 г.н., Мінск). Ён удзельнічаў у стварэнні мемарыяльнага комплексу “Хатынь”, праектаванні будынка Дзяржаўнага тэатра лялек БССР і кінатэатра “Піянер”, павільёна ВДНГ БССР, з’яўляўся аўтарам помнікаў героям Вялікай Айчыннай вайны капітану Мікалаю Гастэлу і яго экіпажу ў Радашковічах, разведчыцы Фені Кананавай у Любані, Канстанціну Заслонаву ў Оршы, падпольшчыкам Асінторфа, Скідаля і інш., за што меў ад савецкай улады шэраг самых высокіх узнагарод.

Такія прыклады плённай працы яўрэйскіх творцаў на карысць беларускай ці рускай савецкай культуры БССР можна было б доўжыць і доўжыць. А вось магчымасці працаваць ва ўлонні сваёй нацыянальнай культуры ў творчай інтэлігенцыі гэтай этнічнай супольнасці былі крайне абмежаваныя. Па сутнасці, толькі Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР. У яго складзе было нямала заслужаных артыстаў БССР, у рэпертуары прысутнічалі спектаклі на нацыянальную тэматыку, у прыватнасці “200 000” паводле Шолам-Алейхема, п’есы рускіх, савецкіх аўтараў – А.Астроўскага, К.Сіманава.

Дзеячы яўрэйскага – і не толькі – тэатральнага мастацтва з вялікай радасцю прымалі ў Мінску вядомага ў СССР актора і рэжысёра, старшыню Камітэта па прысудженні Сталінскіх прэміяў Саламона Міхаэлса, продкі якога паходзяць з Беларусі. У 1946 годзе ён паставіў “спектакль пра беларускіх партызанаў “Лясы шумяць”, а на працягу 1947 года ... кансультаваў пастаноўку “Тэўе – малочнік” у Беларускім тэатры, на сцэне якога ігралі па панядзелках яўрэйскія артысты”. У час камандзіроўкі ў Беларусь

[1] Товарищ. 2007. 27 декабря.

С.Міхаэлс “правёў прагляд спектакляў “Канстанцін Заслонаў” у Беларускім,“Алеся” ў Оперным”.[1] Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР як адзіная аддушына – да таго ж яшчэ і вельмі прэстыжная – яўрэйскай нацыянальнай культуры на ўсім беларускім абшары не мог не быць самым любімым месцам для яе носьбітаў, у чым у свой час пераканаўся і я на сваім уласным досведзе. З 1945 па 1948 год вучыўся ў Мінскім статыстычным тэхнікуме. Наш інтэрнат (пабудаваны ў акупацыю драўляны барак) размяшчаўся ці на тэрыторыі сучаснага будынка Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, ці каля яго трохі ў бок да вуліцы Леніна. Гэта рукой падаць да сённяшняга Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Ён і ў 40-я гады мінулага стагоддзя тут размяшчаўся, толькі пад трохі іншай назвай. Не ведаю, спектаклі Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР ішлі тут усе гады да свайго закрыцця ці толькі ўлетку 1947 года, калі я вырашыў наведаць адзін з яго спектакляў. Дзве прычыны падштурхнулі пайсці на такі крок: частыя назіранні за тым, як шмат яўрэяў тоўпілася перад уваходнымі ў тэатр дзвярыма перад пачаткам спектакля і захаваныя ад даваеннага часу ўспаміны пра ладжаныя культурныя мерапрыемствы яўрэямі майго роднага мястэчка Магільнае Уздзенскага раёна. Білет купіў на дзённы спектакль, паколькі ён каштаваў значна таней, чым на вячэрні. Што ішло тады, не памятаю. Гледачоў, а сярод іх і дзяцей, была поўная зала. Паміж дзеямі спектакля людзі з радаснымі тварамі шпацыравалі ўнутры памяшкання, а хтосьці выходзіў і на вуліцу. Адчуваў, што маё выразнае славянскае аблічча дый сам узрост (18 гадоў) сяго-таго здзіўлялі. А сусед па крэсле ў зале нават спытаў:

– Ці ўсё Вы разумееце, пра што ідзе гаворка на сцэне?

Не стаў хлусіць і сказаў:

– Не, але з зацікаўленасцю сачу за тым, што адбываецца на сцэне і больш-менш разумею сэнс падзей.

З яўрэйскай лексікі мне было вядома не больш як з паўсотні слоў, якія чуў да вайны ад сваіх сяброў у час іх

[1] Евреи Беларуси. История и культура. Сб. статей. III – IV. С. 200.

дыялогаў з дарослымі, пераважна з бацькамі. Яўрэйскія дзеці мястэчка Магільнае ў нашай прысутнасці размаўлялі паміж сабой па-беларуску. А вось калі хто-небудзь з дарослых яўрэяў, а тым больш бацькі, звярталіся да іх (а такое рабілася толькі на яўрэйскай мове) на роднай мове, яны і пры нас карысталіся ёю. На маё не зусім карэктнае пытанне да даваеннага сябра-аднагодка Моты Бернштэйна:

– Чаму ты з намі гаворыш па-беларуску, а як толькі пачуеш голас мамы, адразу ж пераходзіш на яўрэйскую мову? Я ж не раз чуў, як твая мама амаль без усялякага акцэнту гаварыла па-беларуску з маёй мамай.

Мота не палез за адказам у кішэню:

– Мы ў сям'і размаўляем толькі па-яўрэйску. Бацькі настойліва раяць нам не адступаць ад гэтага правіла ў размове з імі і на вуліцы ў прысутнасці нават мясцовых жыхароў неяўрэяў.

Можа не гэтак строга, катэгарычна, аднак такога разумнага правіла прытрымліваліся яўрэі і ў першыя гады пасля вайны. Я, напрыклад, не заўважаў, каб у Мінску кагосьці здзівіла яўрэйская гаворка ў грамадскім месцы, у краме, сталоўцы і г. д. Яна ўспрымалася, як звычайная з'ява. Але да пэўнага часу!

Закрыццё з чыста палітычных мэтаў Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР – гэта, без перабольшвання, быў ні чым іншым, як смяротным ударам па культуры беларускіх яўрэяў. У век цывілізацыі ніводзін народ не можа існаваць пры адсутнасці нацыянальнага тэатра. Яўрэяў Беларусі пазбавілі такой магчымасці, і яны, напэўна ж ведалі, чаго можна чакаць ад такой цяжкай сваімі наступствамі чыста адміністратыўнай акцыі. Памяць пра колішняе існаванне такой архіпатрэбнай культурнай установы жыла ва ўсіх, хто хоць раз наведаў яе. Яна (памяць) з вялікай сілай абудзілася падчас зараджэння яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння і захоўваецца ў людзей сталага веку і пасёння. Спрыяе гэтаму і выдадзеная ў 2000 годзе ў Мінску невялікая кніжка А.Герштэйна "Судьба одного театра". Упэўнены, што некалі пра яго будзе напісана сапраўдная, грунтоўная манаграфія, якой ён цалкам заслугоўвае.

Бадай, ні ў кога з артыстаў пасля закрыцця Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР не было шчаслівага працягу свайго прафесійнага шляху. Не знайшла яго і сапраўдная зорка гэтага нешчаслівага лёсу тэатральнага калектыву Юдзіф Арончык. Найбольш за ўсё яна запомнілася сваімі прыхільнікамі ў ролі Лаўрэнсіі ў п'есе "Авечая крыніца" Лопэ дэ Вэга, місіс Форд – "Віндзорскія свавольніцы" Уільяма Шэкспіра, Годл – "Тэўе-малочнік" Шолам-Алейхема, Стэрэ – "Музыкант" Ш.Галкіна, Кручынінай – "Без віны вінаватыя" Аляксандра Астроўскага, Рохэлэ – "Рэкруты" І.Аксенфельда, Стэра – "Бойтро" М.Кульбака, Міраліндзы – "Тракціршчыца" К. Гальдоні. Пасля закрыцця гэтай яўрэйскай нацыянальнай тэатральнай установы нейкі час заставалася без працы, а з 1950 па 1956 год была актрысай тэатра драмы і камедыі пры Беларускай дзяржаўнай эстрадзе. Затым многія гады яна з'яўлялася мастацкім кіраўніком Мінскага тэатра мімікі і жэста Беларускага дзяжаўнага таварыства глухіх. Пры Ю.Арончык яго наведвалі не толькі глуханямыя гледачы. Ён "стаў да такой ступені папулярным, што яго пачалі запрашаць на гастролі ў іншыя рэспублікі і ў Маскву".[1] Пасля выхаду на пенсію з-за пагаршэння здароўя рэпетыцыі праводзіла на грамадскіх пачатках.

Крайне абмежаваная, проста сірочая прысутнасць яўрэйскай культуры, і асабліва мовы, у грамадскім жыцці наканавала апошняй немінучую пагібель. Ужо з канца 1940-х гадоў у БССР на мове ідыш не выходзілі газеты і часопісы, не выдавалася літаратура, што вымушала многіх майстроў мастацкага слова пісаць па-руску ці па-беларуску, чым яны толькі спрыялі дэнацыяналізацыі ўласнага народа. Толькі адзінкі не жадалі стаць на такі небяспечны для яго шлях. Усё сваё доўгае жыццё не развітваўся з ідышам яўрэйскі паэт Рыгор Рэлес (нарадз. у мястэчку Чашнікі на Віцебшчыне 23 красавіка 1913 г.). Гэтая мова заставалася амаль адзінай у яго паэтычнай творчасці. Яго кнігі на ідышы выходзілі ў1980-я гады ў Маскве. Пазней з

[1] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Белоруссии. С. 182, 304, 305.

актывізацыяй нацыянальнай дзейнасці яўрэяў ён будзе выкладаць ідыш для дарослых і моладзі.

Лішнім было б даказваць, што сапраўднай трагедыяй яўрэйскай культуры ў пасляваенны перыяд з’явілася адсутнасць у гэтай этнічнай групы Беларусі нацыянальных школ. У межах БССР да верасня 1939 года яны закончылі сваё існаванне яшчэ перад вайной. Калі ў народа адсутнічае адукацыя на роднай мове, яго немінуча чакае самае горшае, што толькі можа быць, – этнічнае выміранне. Сказанае датычыць нават народаў з багатай культурнай спадчынай, тых, што жывуць на сваёй гістарычнай тэрыторыі, пакуль што вызначаюцца здаровай, недэфармаванай нацыянальнай самасвядомасцю. Аднак рана ці позна ўведзеная ў адукацыю чужая мова бязлітасна зруйнуе ўсё, што нацыі дапамагала быць нацыяй. Яе нават не выручыць, што яна спакон веку жыве на сваёй этнічнай зямлі, дасягнула палітычнай незалежнасці, мае высокаразвітую эканоміку, бо ўсё гэта, як сведчыць сусветная практыка, далёка не эквівалентна выратавальнай, этнастваральнай ролі адукацыі ў роднай мове ў лёсе таго ці іншага народа.

У масе сваёй добра адукаваныя беларускія яўрэі не мелі патрэбы, каб іх хтосьці павучаў, чаго ім трэба чакаць ад навучання дзяцей у рускамоўных агульнаадукацыйных школах, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Калі ж ніхто нават пальцам не скрануў дзеля змянення гэтай нікуды не вартай моўнай сітуацыі ў сістэме адукацыі, дык толькі таму, што не было і мізэрнай упэўненасці, што хтосьці зоймецца яе (адукацыі) змяненнем. Да пасіўнасці штурхала яшчэ і ледзь не поўная абыякавасць да дадзенай лёсавызначальнай праблемы самой тытульнай нацыі БССР. За ўсе пасляваенныя гады не засведчана аніводнага выпадку, каб хтосьці з яе вядомых грамадска-палітычных, культурных дзеячоў, навукоўцаў, педагогаў рашуча выступіў супраць русіфікацыі маладых пакаленняў беларусаў праз рускамоўную сістэму адукацыі. Да Гарбачоўскай перабудовы (пачалася з сярэдзіны 1980-х гадоў) нават у кулуарных умовах баяліся весці размову на гэтую тэму.

Як і ў многіх іншых выпадках, і тут не абышлося без выключэння, праўда, трохі іншага парадку. На працягу ўсіх пасляваенных гадоў сярод яўрэяў траплялася нямала і такіх, якія, не жадаючы бачыць сваіх дзяцей цалкам адарванымі ад уласных і ўзгадаванымі на чужых для іх рускіх культурна-моўных пачатках, настойліва шукалі выйсце з таго цалкам пройгрышнага становішча і лічылі, што яно (выйсце) усё ж ёсць: эміграцыя ў Ізраіль, г. зн. на гістарычную радзіму сваіх найдалёкшых продкаў. Як вядома, ён заўсёды з'яўляўся прывабным месцам для беларускіх яўрэяў. Сюды іх нямала выехала за час, калі Беларусь знаходзілася ў складзе Расійскай імперыі, балазе, тады не забаранялася стаць на такі шлях. А вось ідэалагічныя службы КПСС усяляк перашкаджалі яўрэйскай эміграцыі ў Ізраіль. Аднак яны аказаліся бездапаможнымі прадухіліць масавы выезд яўрэяў у гэтую і іншыя краіны. З беларускіх яўрэяў нямала апынулася за мяжой яшчэ да Гарбачоўскай перабудовы. Пацвярджаюць гэта наступныя звесткі: у 1974 годзе БССР пакінуў 271 яўрэй, у 1975 – 249, у 1977 – 953, у 1979 – 2712, у 1980 – 2322.[1]

Не памылюся, калі скажу, што як і ва ўсе папярэднія эпохі, у апошнія дзесяцігоддзі існавання СССР з БССР у эміграцыю падаваліся яўрэі, калі ўжо не адны з самых таленавітых, дык усё ж з надзвычай багатым прафесійным багажом, высокім узроўнем адукацыі[2] і што вельмі важна – шчыра адданых яўрэйскай нацыянальнай ідэі. Маючы такога аўтарытэтнага нават у вачах партыйных ідэолагаў, добра вядомага ў шырокіх колах творчай інтэлігенцыі бацьку Абрама Заборава, усё ж яго сын Барыс (1935 г.н.) пакідае ў 1977 годзе родны Мінск і ад'язджае ў Ізраіль. Савецкая ўлада не даравала старэйшаму Забораву за такі бяскрыўдны, у поўным сэнсе слова апраўданы ўчынак сына. Праз пэўны час Барыс Забораў звяжа сваё творчае жыццё з Парыжам і назаве Францыю сваёй трэцяй радзімай.

---

[1] Иоффе Э.Г. Страницы истории евреев Беларуси: Краткий научно-популярный очерк. Мн., 1996. С. 202.

[2] Паводле Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1979 года ў яўрэяў Беларусі на кожную тысячу чалавек даводзілася 245 асобаў з вышэйшай адукацыяй, у рускіх – 159, украінцаў – 139, беларусаў – 45, палякаў – 26.

Ёсць дастаткова падстаў сцвярджаць пра даволі істотнае ў пасляваенныя гады разрастанне дыяспары беларускіх яўрэяў, а разам з гэтым пра пашырэнне ў яе магчымасці ўплываць на культуру краін свайго новага месца пражывання. Паколькі сярод эмігрантаў мелася нямала прадстаўнікоў самых розных катэгорый творчай інтэлігенцыі, прычым і такіх, якія ў той ці іншай ступені валодалі іўрытам і ідышам, замежнымі мовамі, гэта вельмі спрыяла хуткаму ўключэнню ў культурнае жыццё абраных для эміграцыі краін. Пазітыўна ўплывала на гэта як след узмацнелая за ўсе папярэднія гады замежная яўрэйска-беларуская прысутнасць. Надзвычай важна, што змяняліся пакаленні за пакаленнямі, а яўрэі не забываліся пра зямлю сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў... І галоўнае, што такой памяццю ніхто не быў так спаўна надзелены, як адукаваныя, творчыя людзі. У ЗША да іх належаў пісьменнік Морыс Гіндус, які ў сваіх творах неаднаразова згадваў Беларусь, называючы яе роднай.[1] Захаваная многімі нашымі яўрэйскімі землякамі любоў да пакінутай радзімы толькі садзейнічала іх працы ў розных галінах культурнай сферы, яскравым прыкладам чаму могуць служыць набыткі ўраджэнца Віцебска Марка Шагала (1887 – 1985). Пасля вяртання ў 1948 годзе з ЗША ў Францыю ён з зайздроснай актыўнасцю ўключыўся ў любімую працу. Яму належаць “вітражы ў саборах ў Мецы (Францыя, 1960–1968), у царкве ў Цюрыху (Швейцарыя) і саборы ў Раймсе (Германія, абодва 1974), манументальнае пано для Метраполітэн-опера ў Нью-Йорку (1966), размалёўка плафона для Гранд-опера ў Парыжы (1964), мазаікі і габелены для парламента ў Іерусаліме (1960) і інш.”[2]

Не мог не быць задаволеным сваім лёсам Лоўрэнс Зайгер (з 1957 г. – Лары Кінг). Нарадзіўся ён у Брукліне ў сям’і яўрэйскіх эмігрантаў з Беларусі. З пачатку 1950-х гадоў працаваў на радыё. У свае 23 гады ўжо інтэрв’ювіраваў жонку былога прэзідэнта ЗША Франкліна Рузвельта Элеанору Рузвельт. “У 1978-м шоу Лары Кінг стартуе на тэлеканале

[1] Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША. С. 296.
[2] ЭГБ. Т. 6. Кн. II. С. 189.

MBC. А ў 85-м тэлекампанія CNN прадстаўляе першае міжнароднае ток-шоу з выкарыстаннем тэлефонных званкоў гледачоў у прамым эфіры, і Лары Кінг становіцца яго вядучым". На гэтай пасадзе знаходзіўся 20 гадоў. Лік яго гасцей у прамым эфіры пераўзышоў 40 тыс., сярод якіх такія вядомыя асобы, як Джон Кенедзі, Пол Макартні, Маргарэт Тэчэр, Тоні Блэр, Ясір Арафат, Міхаіл Гарбачоў, Уладзімір Пуцін, усе прэзідэнты ЗША, пачынаючы з Форда".[1]

З прыходам да жыцця Гарбачоўскай перабудовы дзверы ў эміграцыю насцеж расчыніліся практычна перад усімі яўрэямі, за выключэннем тых, хто, валодаў дзяржаўнымі і ваеннымі сакрэтамі. Як правіла, увесь час сярод іх колькасна пераважалі асобы са здаровай яўрэйскай нацыянальнай самасвядомасцю, шчыра адданых сваім культурна-моўным традыцыям. Жыць па чужых канонах, ва ўмовах Беларусі – па рускіх, ніхто з іх не жадаў, чаго нельга сказаць пра ўсіх тых, хто заставаўся на яе зямлі, практычна не маючы аніякіх магчымасцяў ладзіць сваё жыццё паводле ўласных яўрэйскіх стандартаў, таму інтэграваўся ў чужыя. У якасці апошніх свядома выбіраліся рускія, як лічылася, найбольш прэстыжныя ў параўнанні з беларускімі. У выніку адпаведнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі і яўрэйскай самарусіфікацыі гэтая этнічная група Беларусі прыйшла да распачатага ў канцы 1980-х гадоў нацыянальна-культурнага адраджэння крайне збяднелай, знясіленай. Суцяшае, што хоць не пад уплывам беларускага фактару. У яе не было на роднай мове ні газеты, ні часопіса, ні якой-небудзь нацыянальнай культурнай установы. Не больш за дзесятак людзей дасканала валодала ідышам, а яшчэ менш іўрытам. Яўрэям робіць вялікі гонар, што і ў гэтых архінеспрыяльных, проста безнадзейных умовах яны усё ж выказалі гатоўнасць і прыступілі да ажыццяўлення першачарговых мерапрыемстваў па выратаванні сябе ад канчатковай русіфікацыі, па збудаванні свайго нацыянальнага дома на беларускай зямлі. Больш падрабязна пра гэта будзе сказана пазней.

[1] Літаратура і мастацтва. 2005. 12 жніўня. С. 12.

Іншым словам, як недарэчнасць, нельга назваць, што ў канец адарваныя ад уласных традыцый беларускія яўрэі пад уплывам засвоенай рускай культуры сталі ў пераважнай бальшыні выпадкаў сваю нацыянальную прыналежнасць вызначаць этнонімам “рускія”. Здавалася б, што ад яго трэба было як мага далей дыстанцыянавацца ў справядлівай крыўдзе на тое, што па віне ж палітычнага кіраўніцтва рускага народа адбылося практычна канчатковае амярцвенне яўрэйскай культуры. Толькі мізэрная колькасць з дашчэнту абруселых беларускіх яўрэяў у графе “нацыянальнасць” сваіх асабовых дакументаў пісала сама ці прасіла іншых напісаць “беларус” (а да гэтага настойліва абавязваў геаграфічны фактар) ці “ўкраінец”.

Дарэчы, у тыя нядобрай памяці гады выРачэнне ад сваёй нацыянальнасці было характэрна не толькі для беларускіх яўрэяў. Руйнавальны працэс русіфікацыі штурхаў на такі шкодны, неапраўданы для нацыянальнага інтарэсу шлях і многіх іх супляменнікаў з іншых саюзных рэспублік. Ім вырашыла пайсці, яшчэ да таго як стала вядомай спявачкай, Ала Пугачова (сапр. Пеўзнер). Яна нават “не пажадала, каб яе ўключылі ў энцыклапедыю расійскіх яўрэяў”.[1] Паслухалі, але ж такім учынкам ёй не ўдалося прымусіць не паверыць у яе яўрэйскае паходжанне не толькі ўсіх, але нават і самых шчырых прыхільнікаў свайго таленту. Не паверылі, але як захапляліся і працягвалі захапляцца яе цудоўным голасам.

А цяпер дазволю сабе некалькі адступленняў, каб згадаць сёе-тое з практыкі маіх асабістых кантактаў з яўрэямі ў 60–80-я гады мінулага стагоддзя. Пачну са згаданага ўжо раней этнографа, фалькларыста, гісторыка Майсея Грынбалта, які ў сваіх працах шмат месца адводзіў даследаванню беларускай народнай вусна-паэтычнай творчасці, што якраз і паслужыла прычынай пайсці з ім на сустрэчу. Праўда, не па сваёй патрэбе, а па просьбе аднаго з кіраўнікоў дашкольнага аддзела Міністэрства асветы БССР. Дзесьці ў 1964 ці 1965 годзе (тады я працаваў малодшым

---

[1] Евреи Беларуси. История и культура. Сб. статей. Вып. I. Мн., 1997. С. 150.

навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР) яна разам са сваёй каляжанкай вазілі групу дзяцей у Рыгу для ўдзелу ва Усесаюзным конкурсе дзіцячага музычна-песеннага мастацтва і занялі там самае апошняе месца, хаця дзеткі прыгожа спявалі, дэкламавалі і танчылі. Журы прысудзіла такое месца таму, што ўсе выступленні беларускіх дзяцей будаваліся не на сваім, а на чужым рускім матэрыяле. Як бачым, і тады былі людзі, якія добра разумелі, высока цанілі нацыянальнае ў культуры. Каб сёння з такіх людзей склалі журы па правядзенні вынікаў конкурсу выступлення эстрадных калектываў краін СНД, яны і на гэты раз беларусам прысудзілі б апошняе месца, бо на нацыянальнай мове спяваюць толькі адзінкі з іх. Прасілі мяне звязацца з М.Грынблатам дзеля таго, каб дапамог падабраць нацыянальны матэрыял для маючага адбыцца чарговага конкурсу дзяцей. І ён, як мне стала вядома, зрабіў гэта. Але тая сустрэча з вядомым фалькларыстам запомнілася мне па зусім іншай прычыне: па форме дыялогу паміж намі. Як моцна, арганічна заангажаваны ў культуру карэннага насельніцтва рэспублікі М.Грынблат размаўляў са мной прыгожа па-беларуску, а я, хаця і прыроджаны прадстаўнік гэтага насельніцтва, толькі на той час да апошняй ніткі зрусіфікаваны беларус, карыстаўся, прычым даволі прафесійна, рускай мовай. Тая гаворка доўжылася не менш, як паўгадзіны. І я нават паспеў заўважыць, што майму суразмоўцу неяк вельмі лёгка ўдавалася дзякуючы выкарыстанню беларускай мовы падкрэсліць сваю перавагу над адарваным ад яе наведвальнікам. Неўзабаве адчуў, як ад поту стала мокра пад пахамі, як з'явіўся ён і на лобе. Добра, што нехта зайшоў з суседняга кабінета. Гэта я адразу ж выкарыстаў, каб хутчэй развітацца з не зусім зручным для мяне суразмоўцам. Але як я выйшаў на калідор, не мог ніяк адмахнуцца ад думкі: чаму гэта я, беларус, размаўляю з яўрэем па-руску, а ён са мною па-беларуску? Ну дзе тут логіка? Адсутнічае! Да сустрэчы з М.Грынблатам я трохі балаваўся з беларускім словам, далёка не прафесійна ўжываў яго ўперамежку з рускай мовай на калідоры Інстытута гісторыі АН БССР, бо ў саміх кабінетах такое

звычайна не практыкавалася сярод супрацоўнікаў. Некаторыя з іх, асабліва з раёнаў былой Заходняй Беларусі, вельмі цягнулі мяне ў сваю беларускамоўную кампанію, але да сярэдзіны 1960-х гадоў я заставаўся закаранелым рускамоўным навукоўцам. Калі ж трохі пазней стаў свядома, без сур'ёзнага чужога ўплыву, хіліцца да беларушчыны, вельмі часта згадваў той непрыемны для мяне беларуска-рускамоўны дыялог з М.Грынбалтам. Дзесьці ў самым пачатку 80-х гадоў з ім была ў мяне яшчэ адна сустрэча, але ўжо ў яго на кватэры, калі мой шаноўны, на шмат гадоў старэйшы калега знаходзіўся на пенсіі. Я пад той час ужо ўсур'ёз заняўся даследаваннем розных аспектаў нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі, меў даволі багатую літаратуру па дадзенай праблеме і, зразумела, дасканала валодаў роднай беларускай мовай, размаўляў на ёй ва ўсіх жыццёвых сітуацыях. Для навуковай працы ўзнікла патрэба мець пад рукой выдадзеную М.Грынблатам у 1968 годзе кнігу “Белорусы. Очерки происхождения и этничной истории”. У кнігарнях, у т. л. і букіністычнай краме Мінска, яе ўжо ніяк нельга было знайсці, таму набраўся смеласці і падаўся на кватэру да аўтара. На маю просьбу прадаць кнігу пачуў несуцяшальны адказ:

– У мяне засталіся толькі тры экзэмпляры. Пару з іх магу ахвяраваць толькі якім-небудзь культурна-асветніцкім арганізацыям для калектыўнага карыстання, а не ў прыватныя рукі.

Мяне такі адказ ніколькі не здзівіў. Да яго ж я быў падрыхтаваны і лічыў, што ў такім выпадку абавязкова згадаю М.Грынблату пра апісаную вышэй нашую першую сустрэчу.

– Ах, вось хто сёння завітаў да мяне! – з радаснай усмешкай сказаў гаспадар кватэры. – З такім нечаканым госцем ды ўжо на гэты раз беларускамоўным, я проста не магу не падзяліцца сваёй кнігай.

Як бачым, візіт даў мне жаданы вынік. Атрыманая кніга не толькі тады, але і сёння часта бывае ў маіх руках.

Мне асабіста не даводзілася чытаць у архіўных дакументах, але ад некаторых сваіх калег неаднаразова чуў,

што М.Грынблат у 1930-я гады нібыта нелегальна супрацоўнічаў з савецкімі спецслужбамі. Вядома, такога зусім нельга выключаць, улічваючы складанасці таго цяжкага для беларускага грамадства, найперш для самой творчай інтэлігенцыі, часу. Але шчырая прыхільнасць М.Грынблата да ўсяго беларускага ў пік пасляваеннай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі ў БССР не можа не выклікаць вялікай павагі да гэтага чалавека.

З 1966 года, калі я ўжо стаў кандыдатам гістарычных навук, прыняў для сябе за крэда: у межах Беларусі размаўляць толькі па-беларуску. Рускую мову выкарыстоўваў толькі па настойлівай просьбе суразмоўца. Здаралася такое вельмі рэдка. Дзесьці ў пачатку 1960-х гадоў шаслівы выпадак звёў мяне з зусім незнаёмым земляком (ведаў толькі яго бацькоў і малодшага брата, якія загінулі ў Уздзенскім гета), доктарам гістарычных навук, прафесарам Міхаілам Шклярам. Мовай зносін тады была ў мяне выключна руская. Калі ж рашуча і беспаваротна замяніў яе на беларускую і пры чарговай сустрэчы з М.Шклярам стаў размаўляць з ім на роднай мове, пачуў ад яго вельмі радаснае для мяне слова “Малайчына!”. Паважаны прафесар пачаў з прыемнасцю, гэта адчувалася па ўсмешцы на яго твары, згадваць, якую важную ролю займала беларуская мова ў яго жыцці падчас вучобы ў Мінскім педінстытуце імя Максіма Горкага (закончыў у 1941 годзе), працы ў пасляваенныя гады інструктарам, намеснікам загадчыка аддзела ЦК ЛКСМБ. І пасёння добра помніцца сустрэча з М.Шклярам у пачатку 1970 года, калі праводзіўся чарговы Усесаюзны перапіс насельніцтва.

– Вось і на гэты раз, – чую ад яго, – пры вызначэнні нацыянальнасці прапанаваў запісаць мяне яўрэем, хаця не валодаю роднай мовай, не з’яўляюся носьбітам культуры свайго народа. У сям’і ўсё ладзіцца, як і ў многіх маіх знаёмых з яўрэяў, паводле рускіх стандартаў жыцця.

Мне нічога не заставалася, як толькі пагадзіцца з пачутым, бо тады такое было ўласціва, за рэдкім выключэннем, амаль усім яўрэйскім сем’ям творчай, навуковай, педагагічнай інтэлігенцыі Мінска. І не толькі.

Не магу не згадаць і такога. Мая гутарковая беларуская мова не заўсёды прыхільна ўспрымалася тымі, хто паводле сваёй этнічнай прыналежнасці павінен быў, калі не карыстацца, дык паважаць яе. А вось з боку яўрэяў я ніколі не сустракаў непрыязнага стаўлення да маёй беларускай гаворкі. Калі ў 1970–1980 гады ў кіёсках Мінска купляў газеты і ўступаў у размову з прадаўшчыцамі, беларускі стараліся і слова не сказаць на роднай мове, каб я не падумаў, што яны родам з вёскі, а яўрэйкі, наадварот, імкнуліся гаварыць са мною па-беларуску. Па мове прадаўшчыц можна было беспамылкова вызначыць іх нацыянальнасць.

У 1960–1980 гады існавалі вялікія цяжкасці з набыццём білетаў на канцэрты замежных артыстаў. Іншым разам даводзілася наведаць да дзесяці кіёскаў па продажы білетаў у тэатры. Прыемнае ўражанне пакінула пакупка білетаў у такім кіёску на Плошчы Перамогі. На выказаную мною па-беларуску просьбу кіяскёрка прамовіла:

– Білеты засталіся ў мяне толькі па папярэдніх заказах для сталых кліентаў, але Ваш зварот па-беларуску проста не магу не задаволіць.

Пасля пачутага я быў на сёмым небе. Ад таго часу заўсёды “тэатральна атаварваўся” у тым кіёску. А працавала ў ім Дора (прозвішча свядома не назвала). Як неўзабаве высветлілася, жыла яна па суседстве са мной у раёне Мінскага камвольнага камбіната і нават аднойчы была жаданым госцем у нашай сям’і. Непрыкметна для ўсіх нас траіх, Доры, мяне і маёй жонкі Ефрасінні, праз нейкую гадзіну на стале ўжо стаяла апарожненая бутэлька “Белавежскай”, і я вельмі шкадаваў, што ў кватэры больш нічога не мелася са спіртнога. Калі ад хмяльнога напою Дора трохі павесялела, яна перайшла на беларускую мову і добра засведчыла прыстойнае валоданне ёю.

У пачатку 1970-х гадоў сектар Камуністычнага будаўніцтва (быў і такі!) Інстытута гісторыі АН БССР, дзе я ўжо меў пасаду старшага навуковага супрацоўніка, быў моцна заняты напісаннем пятага тома пяцітомнай “Гісторыі Беларускай ССР”. Машыністка сектара не паспявала друкаваць падрыхтаваныя намі тэксты. А час прыспяшаў,

таму даводзілася заключаць працоўныя пагадненні з машыністкамі, што займаліся гэтай справай на даму. Адзін час нас абслугоўвала, – і досыць прафесійна, бездакорна, – Сіма Абрамаўна (прозвішча не памятаю). Кватэру яе наведваў не менш як дзясятак разоў. Аднойчы застаў яе ў добрым настроі і пачуў такія словы:

– Леонид Михайлович! Угадайте, почему я Вас уважаю больше, чем кого-нибудь из других сотрудников, посещающих меня.

– Не ведаю,– адказаў я. – Ну не за прыгажосць жа ці розум, чым мяне прырода асабліва не надзяліла.

Глянуўшы мне ў вочы, з прыемнай усмешкай на твары сказала:

– А потому, что Вы один из всех моих клиентов разговариваете на белорусском языке. Это сразу же не без радости заметили мои двое детей, с которыми я стараюсь дома разговаривать только на еврейском языке. Поверьте, когда они услышали Вашу белорусскую речь, стали более разговорчивыми дома, начали охотнее читать изданные на еврейском языке книги.

Мне заставалася толькі падзякаваць Сіме Абрамаўне за такія словы. Ад таго часу мне ў вялікую радасць было наведваць яе кватэру.

Прыведзеныя прыклады непадробнай, шчырай павагі названых мною яўрэяў да роднай мовы абранай імі зямлі ёсць вынік не толькі іх высокай духоўнасці ў цэлым. Такое ў значнай ступені магло выклікацца і настальгіяй па сваёй практычна канчатковa страчанай не па іх віне мове, таму любыя спробы беларусаў не даць загінуць свайму роднаму слову знаходзілі ў многіх яўрэяў поўнае разуменне. Вось каб сёння гэта стала абавязковым правілам для беларускай палітычнай і інтэлектуальнай эліты, тады яны на адрасаванае ім ад радыёжурналіста прывітанне “Добрай раніцы!” не адказвалі б, як на здзек, “Доброе утро!”.

Лічу за вялікую трагедыю для яўрэйскай нацыянальнай культуры, а ў пэўнай ступені і для культуры Беларусі ў цэлым, што дзесьці ўжо з пачатку 1950-х гадоў творчая інтэлігенцыя гэтай адной з самых старажытных у нас

этнічных груп практычна перастала быць рухавіком сваёй культуры. Абсалютная бальшыня прадстаўнікоў такой інтэлігенцыі кінулася абрабляць ніву рускай культуры Беларусі, на якой, на вялікую бяду і яе прыналежныя да тытульнага народа творчыя людзі з зайздроснай ахвотай рабілі сабе кар'еру, ведаючы, што ў адпаведнасці з нацыянальнай палітыкай кампартыі перспектыва мелася толькі ў рускай культуры, прычым нават і на тэрыторыі кожнай саюзнай рэспублікі. З улікам такой сітуацыі вельмі важным з'яўляецца не забывацца, памятаваць, а ўсё-такі хто ж з яўрэяў застаўся і працаваў, калі не выключна, дык пераважна ў рэчышчы беларускай культуры, бо толькі ў такім выпадку і тады, і сёння можна прыносіць карысць духоўнаму жыццю беларусаў, не ставіць яго пад удар русіфікацыі.

Створаныя ў Беларусі ўжо і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе найспрыяльныя ўмовы для рускай культуры тлумачаць, чаму так ахвотна ехала сюды на сталую працу з розных рэгіёнаў СССР творчая інтэлігенцыя, у т. л. і яўрэйская. Без усялякай цяжкасці можна назваць безліч такіх прыкладаў. Таму не дзіва, што з такой хуткасцю, з такой інтэнсіўнасцю разбураліся ў Беларусі прыродныя асновы яе нацыянальнай культуры. З мігрантаў-яўрэяў толькі нязначная колькасць штосьці карыснае рабіла для яе. У якасці прыкладу можна назваць ураджэнца ўкраінскага горада Харкава Віктара Вуячыча, які заўжды ўключаў беларускія песні ў свой рэпертуар, ад чаго ён станавіўся толькі больш багатым, разнастайным. Шырокую вядомасць набыў асабліва пасля таго, як стаў у 1966 годзе салістам эстрады беларускай філармоніі. У гэтым жа годзе заваяваў званне Лаўрэата Усесаюзнага конкурсу эстраднай песні (1-я прэмія), у наступным годзе – Лаўрэатам Міжнароднага конкурсу эстраднай песні “Залаты арфей” (Балгарыя).

Нечувана маштабны пераход яўрэяў да жыцця паводле рускіх культурна-моўных стандартаў усё ж насіў у значнай ступені вымушаны характар, таму не магло не быць і супраціву такой трансфармацыі. Бо і сапраўды, як можна паважаць той лад жыцця, які прывёў твой народ да этнічнага вымірання, прымусіў запісвацца ў нацыяналь-

насць таго народа, па віне якога засіміляваны твае супляменнікі. Я, напрыклад, хутчэй згадзіўся б залічыць сябе да якога-небудзь мала вядомага афрыканскага племені, чым прыняць нацыянальнасць народа нават самай высокай культуры, урад якога вымусіў мяне, маіх суродзічаў жыць паводле яго канонаў.

Той супраціў, вядома ж, ладзіўся не праз правядзенне рознага роду дэманстрацый і мітынгаў. Такія формы пратэсту цалкам выключыла з практыкі сталінская таталітарна-палітычная сістэма. Іншым разам здаралася і такое, што пратэст супраць русіфікацыі яўрэі выказвалі публічным падкрэсліваннем сваёй прыхільнасці да беларушчыны. Ад аднага са сваіх знаёмых пачуў такое: калі падчас правядзення з настаўнікамі Мінскага раёна святочнага мерапрыемства з нагоды 50-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ўсе выступоўцы гаварылі на рускай мове, дык адзін з яўрэяў, на вялікі здзіў прысутных, у гэтых мэтах выкарыстаў беларускую мову, паставіўшы ў крайне няёмкае становішча яе прыродных носьбітаў з ліку мясцовага раённага начальства, педагагічнай інтэлігенцыі.

Ці вось другі выпадак. У 70-я гады мая жонка Ефрасіння працавала ў рэспубліканскім апараце Міністэрства асветы БССР. Не раз здаралася і мне наведваць яго апартаменты, размаўляць з супрацоўнікамі. Ужываў толькі беларускую мову. Яны ж усе на перабой, каб мо даказаць мне, старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, сваё бездакорнае валоданне рускай мовай, сваю адданасць ленінскай нацыянальнай палітыцы, карысталіся выключна моваю бальшавікоў. І толькі калі да гэтай кампаніі далучаўся супрацоўнік выразна яўрэйскага паходжання па прозвішчы Гінзбург ці Гінтаўт, я чуў ад яго прыгожую, пявучую літаратурную беларускую мову.

Характэрная для 70 – 80-х гадоў мінулага стагоддзя амаль поўная адсутнасць у грамадска-духоўным жыцці Беларусі яўрэйскай нацыянальнай культуры – трагедыя не толькі для прыродных носьбітаў апошняй. Яе нечуваны да гэтага заняпад меў цяжкія наступствы і для самой Беларусі. Яна шмат што страціла ад гэтага ў плане сваёй культурнай

разнастайнасці. І не толькі. З прычыны немагчымасці прадстаўнікам яўрэйскай творчай інтэлігенцыі працаваць у роднай культуры яны, яшчэ раз паўтаруся, у пераважнай бальшыні сваёй хлынулі ў рускую культуру, як больш перспектыўную, міжвольна выступаючы ў ролі русіфікатараў тытульнай нацыі БССР. Яе кіраўніцтва вітала гэта. Глабальнае выключэнне яўрэйскай нацыянальнай культуры з усіх грамадскіх сфераў духоўнага жыцця нашага краю сталася сапраўднай катастрофай, этнічным Халакостам для беларускіх яўрэяў. Не існуе аніякіх цяжкасцяў, каб даць усяму гэтаму правільнае тлумачэнне. Наўрад ці хто будзе аспрэчваць, што акрамя вялікіх страт яўрэйскай творчай інтэлігенцыі ў гады вайны і нямецкай акупацыі, узмацненне ў выніку дзяржаўнай палітыкі рускага фактару ў духоўным жыцці БССР, самым адмоўным чынам паўплывала на стан яўрэйскай культуры і мэтанакіраваныя захады бальшавіцкага ідэалагічнага апарату па яе абмежаванні, учыненыя ў першыя пасляваенныя гады спецслужбамі рэпрэсіі супраць дастаткова вялікай колькасці творчай яўрэйскай інтэлігенцыі, да таго ж яшчэ высокага прафесіяналізму. Пад іх траплялі нават і тыя, каго нядаўна выпусцілі на волю са сталінскіх засценкаў. Практычна нічога нельга было рабіць дзеля інтарэсаў яўрэйскай культуры падчас Хрушчоўскай адлігі, а таксама ў больш познія гады. У такіх неспрыяльных умовах у многіх з прадстаўнікоў яўрэйскай творчай інтэлігенцыі, прычым, як правіла, здаровай нацыянальнай самасвядомасці, прападала ўсялякае жаданне заставацца на беларускай зямлі, хаця ў ёй прэлі яўрэйскія косці аж ад самых далёкіх часоў вялікага князя літоўскага Вітаўта. Масавая эміграцыя яўрэяў на сваю гістарычную радзіму, у заходнія краіны толькі паскарала ход канчатковага знікнення яўрэйскай культуры ў Беларусі. У гэтай культуры заставалася багатая спадчына, але адсутнічала ўсялякая перспектыва. Найвялікшы, проста нечуваны парадокс!

**5. Ухабістымі шляхамі нацыянальна-культурнага адраджэння**

Мала каму верылася, што Гарбачоўская перабудова падштурхне да нацыянальна-культурнага адраджэння і беларускіх яўрэяў. У іх жа духоўным жыцці ўжо дзесяцігоддзі бесперашкодна панавала амаль усё рускае. За ўсе гады пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ў Беларусі ні радка не надрукавалі на яўрэйскай мове, дзверы Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра наглуха зачынілі перад гледачамі ў 1949 годзе. Пасля вайны ніводзін з беларускіх яўрэяў не атрымаў у сябе на радзіме адукацыі на роднай мове! Нацыянальна-адраджэнскі працэс ускладніўся не толькі негатыўным для яго наступствам масавага даперабудовачнага выезду яўрэяў у Ізраіль, ЗША і іншыя краіны, але і яго няспынным працягам у другой палове 1980-х гадоў. Пакідалі ж Беларусь пераважна самыя элітарныя пласты яўрэяў, якія тут на месцы маглі б вельмі істотна ўплываць у лепшы бок на нацыянальна-культурнае адраджэнне сваёй этнічнай супольнасці.

З сярэдзіны 60-х гадоў мінулага стагоддзя я беспаваротна прымкнуў да незадаволеных нацыянальнай палітыкай КПСС навукоўцаў-гуманітарыяў, бачачы ў ёй галоўную прычыну страты беларусамі – і не толькі – сваёй этнакультурнай адметнасці. Далей за досыць асцярожную крытыку такой стратнай нацыянальнай палітыкі ў сваім вузкім коле мы не ішлі, ведаючы, што яе ва ўсім падтрымлівае цалкам залежны ад Маскоўскага крамля магутны, шырокаразгалінаваны ідэалагічны апарат ЦК КПБ. Падчас удзелу ў 1980-я гады ў міжрэспубліканскіх навукова-практычных канферэнцыях па праблеме нацыянальных дачыненняў у СССР я пераканаўся, што многія мае калегі з саюзных рэспублік даволі смела выказваюць сваё крытычнае стаўленне да яе, не баяцца гаварыць пра немінучую страту іх нацыямі культурнай самабытнасці, калі будзе працягвацца шкодная, нічым не апраўдная палітыка русіфікацыі. Пад моцны ўплыў такіх прамоў трапіў і я ў тыя далёка не лепшыя для савецкіх нацый андропаўскія гады. Падчас канферэнцыі ў Баку (снежань 1983 г.) асмеліўся паведаміць яе ўдзельнікам, у якім трагічным стане апынуўся беларускі

народ у выніку грубага ігнаравання партыйнымі і савецкімі органамі яго карэннымі нацыянальнымі інтарэсамі. Неўзабаве змест майго выступлення трапіў у рукі ідэалагічных работнікаў ЦК КПБ. Па матэрыялах той бакінскай канферэнцыі выйшла кніга ў сталіцы Азербайджанскай ССР. Словам, калі пачаліся Гарбачоўская перабудова, а следам за ёю і нацыянальна-культурнае адраджэнне, я быў ужо трохі вядомым у рэспубліцы, мяне часта запрашалі на звязаныя з яго практычнай рэалізацыяй мерапрыемствы. Аднойчы на адно з такіх з'явіліся прадстаўнікі татарскай і яўрэйскай меншыняў з прапановамі аб'яднацца з беларусамі і супольнымі намаганнямі ратаваць сябе ад згубных наступстваў русіфікацыі. Так сталася, што гэтая прапанова не знайшла належнай падтрымкі, але пэўныя кантакты падтрымліваліся, асабліва з татарскай грамадой, калі ў жывых былі такія выдатныя яе актывісты, адраджэнцы, як Якуб Якубоўскі (1932–1998) і Ібрагім Канапацкі (1949–2005). Свае практычнага характару нацыянальна-адраджэнскія мерапрыемствы яна ладзіла пераважна на беларускай мове. Шырока выкарыстоўвалася яна пры правядзенні канферэнцый, у перыядычным друку.

Сказанае было зусім не ўласцівым для яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння. Яно і раней будавалася, і сёння будуецца галоўным чынам на рускамоўнай аснове, што можа разглядацца як поўны адрыў яўрэяў пад уздзеяннем русіфікацыі ад культурна-моўных стандартаў тытульнай нацыі Рэспублікі БССР. Такое ігнараванне апошніх ніяк нельга ставіць у віну яўрэям, бо яно не ў меншай ступені характэрна і самім беларусам, абсалютную бальшыню якіх русіфікацыя, у тым ліку і пасля ўсталявання прэзідэнцкай формы кіравання краінай, зрабіла непадобнымі саміх на сябе: беларускасць амаль страцілі, а стаць рускімі перашкаджае неўласцівы ім менталітэт. Будаваць нацыянальна-адраджэнскі працэс на рускамоўнай аснове вымушае яўрэяў неваloданне пераважнай бальшынёю іх сваімі нацыянальнымі мовамі іўрыт і ідыш. Таму не на іх, а на рускай мове вядзецца амаль уся культурна-асветніцкая праца, друкуюцца кнігі, выходзяць газеты, за выключэннем

невялічкай беларускамоўнай газеты “Мы яшчэ тут”, за што нацыянальна-свядомым беларусам трэба быць удзячнымі яе рэдакцыі, аўтарам ніяк не падлеглым негатыўнаму ўздзеянню на сябе гнюснай русіфікацыі чужой і сваёй гадоўлі. Русіфікацыя так глыбока ўелася ў душы некаторых сучасных яўрэйскіх інтэлектуалаў, што яны і пасёння нашую краіну называюць не як прынята афіцыйна Беларусь, а Беларусія, чаго, дарэчы, падтрымліваюцца амаль усе палітыкі і афіцыйныя ідэолагі Расійскай Федэрацыі, а таксама многія прадстаўнікі яе навуковай і творчай інтэлігенцыі.

Панаванне рускага фактару ў сучасным яўрэйскім нацыянальна-культурным адраджэнні пярэчыць карэнным беларускім інтарэсам, бо садзейнічае разбурэнню, дэфармацыі і без таго дашчэнту зруйнаваных прыродных асноў духоўнага жыцця тытульнага насельніцтва. Этнакультурная самабытнасць Беларусі не адыдзе ў нябыт (у гэтым зацікаўлены ўвесь цывілізаваны свет!) толькі тады, калі роля рускага фактару будзе да мінімуму зведзена не толькі ў культуры карэнных жыхароў, але і ўсіх існых тут нацыянальных меншыняў. Дарэчы, у створаных на постсавецкай прасторы краінах такія меншыні не адрываюць сваё нацыянальна-культурнае адраджэнне ад інтарэсаў тытульнага народу, хаця і маецца нямала працаўнікаў такога разумнага, узважанага падыходу.

Каб лепш зразумець, як складана было яўрэям разгортваць нацыянальна-культурную працу, прывяду такую цытату з публікацыі Аркадзя Шульмана “Остров Релеса”: “Людзі пасляваеннага пакалення, якія ведалі сваіх бацькоў ці не ведалі іх, былі настолькі асіміляваны (чытай: зрусіфікаваны. – *Л.Л.*), што любыя праявы яўрэйскай культуры ўспрымаліся імі як застарэлыя, не маючыя актуальнасці, ці нават як чужародныя. Вяртанне да культуры, да традыцый бацькоў і дзядоў патрабавала велізарных высілкаў і ўнутранай ломкі”.[1] І беларускія яўрэі пайшлі на гэта, здзяйсняючы сапраўдны нацыянальна-патрыятычны вычын!

[1] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Белоруссии… С. 256.

Калі ўжо ў бліжэйшы час нічога не зменіцца да лепшага ў дзяржаўнай нацыянальнай палітыцы Рэспублікі Беларусь, у падобнае становішча, апісанае вышэй, непазбежна трапіць і яе тытульны народ. Хацелася б, каб і тады ў яго асяроддзі ў гэты нялёгкі, лёсавыпрабавальны час знайшліся, як у яўрэяў, асобы, здольныя да стваральнай адраджэнскай працы, самаахвярнага змагання за святую беларускую нацыянальную ідэю.

Архінеспрыяльныя ўмовы для выкліканага Гарбачоўскай перабудовай яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння не сталі прычынай поўнай разгубленасці, пасіўнасці людзей у гэты адказны для іх будучыні час. У ліку першых у канцы 1980-х гадоў было заснавана Мінскае аб'яднанне яўрэйскай культуры. Разам з іншымі актыўна працаваў над яго ўтварэннем урач-літаратар Фелікс Хаймовіч. І пазней ён працягваў заставацца актыўным на ніве яўрэйскай культуры. Такое ж можна сказаць пра яго дачку і зяця. У іх выкананні песні на ідыш заўсёды з вялікай прыемнасцю слухалі і слухаюць прысутныя.

Яшчэ на самым старце яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння быў заснаваны ўлетку 1991 года ў Віцебску музей Марка Шагала. Дзейнасці яго ніяк нельга не пазайздросціць: за дваццаць гадоў існавання ў межах Шагалаўскіх чытанняў прагучала каля двухсот дакладаў, з якімі выступалі дакладчыкі ад дванаццаці краін свету.[1] Матэрыялы прачытаных дакладаў спрыялі не толькі паглыбленню ведаў пра гэтага славутага мастака, але і дазвалялі лепш уявіць сабе, што трэба практычнае рабіць, каб нарошчвалася магутнасць сучаснага яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння, каб схіліць да ўдзелу ў ім як мага больш людзей.

Знамянальнай падзеяй на шляху яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння па праву можна лічыць адкрыццё ў красавіку 2002 года ў беларускай сталіцы на вуліцы Веры Харужай Мінскага яўрэйскага абшчыннага дома. На наладжаную ў сувязі з гэтым цырымонію прыбылі

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 17 чэрвеня. С. 2.

не толькі прадстаўнікі з многіх гарадоў і пасёлкаў рэспублікі, але і дыпламаты Арменіі, Германіі, Літвы, Расіі, Турцыі, Украіны, Францыі і іншых краін. Найбольшая заслуга ў з'яўленні на свет гэтага дома належыла аднаўленаму ў 1991 годзе прадстаўніцтву ў Рэспубліцы Беларусь Амерыканскага яўрэйскага размеркавальнага камітэта (Джойнта). Ён быў створаны ў ЗША яшчэ на пачатку Першай сусветнай вайны. Афіцыйнае адкрыццё яго прадстаўніцтва ў Мінску адбылося ў лютым 1923 года. Пра атрыманую ад гэтай дабрачыннай арганізацыі дапамогу ніколі не забывалі беларускія яўрэі, таму аднаўленне яе працы ўсе прынялі з вялікай радасцю. І не памыліліся. У аднаўленай спонсарскай дзейнасці Джойнта адразу ж вядучае месца заняла праблема культуры. Ён пачаў фінансаваць дзейнасць Яўрэйскага народнага ўніверсітэта ў Мінску і Яўрэйскага ўніверсітэта культуры ў Віцебску, выданне публіцыстычнага штогодніка "Мишпоха", яўрэйскіх каляндароў, кніг розных літаратурных жанраў. З яго дапамогай у многіх яўрэйскіх арганізацыях створаны бібліятэкі з "кніг па яўрэйскай тэматыцы на <u>рускай мове</u> (падкрэслена мною. – *Л.Л.*), выдадзеных галоўным чынам у Ізраілі. Джойнт спансуе семінары для тых, хто займаецца яўрэйскімі танцамі, музыкай і песнямі, "Шагалаўскія дні" у Віцебску, ажыццяўляе падтрымку музычных калектываў, у тым ліку танцавальных і харавых. Фактычна на сродкі Джойнта праводзяцца Рэспубліканскія фестывалі яўрэйскай культуры, фестывалі творчасці яўрэйскіх дзяцей Беларусі, выставы яўрэйскіх мастакоў, спаборніцтва каманд Клуба вясёлых і знаходлівых і іншыя культурныя мерапрыемствы".[1] Такой фінансавай падтрымкі можа пазайздросціць любая этнічная супольнасць Беларусі. І вялікі грэх будзе, калі яўрэі Беларусі не стануць на яе зямлі перакананымі носьбітамі ўласных культурна-моўных традыцый на аснове ідыша ці іўрыта, а будуць, як у папярэдняе савецкае паўстагоддзе, знаходзіцца ў "сяброўскіх абдымках" русіфікацыі.

[1] Иоффе Эмануил, Мельцер Беньямин. Джойнт в Беларуси. Мн., 1999. С. 67, 68.

Ад 2002 года бярэ пачатак свайго існавання і размешчаны ў Мінскім яўрэйскім абшчынным доме Музей гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі. Праз пяць гадоў у яго фондах ужо знаходзілася каля 10 тысяч экспанатаў, вялікая колькасць розных дакументаў, фатаграфіі, кнігі на мове ідыш, да 100 твораў выяўленчага мастацтва і амаль столькі пласцінак на яўрэйскай мове. З вялікай зацікаўленасцю пазнаёміўся з яго экспанатамі і аўтар гэтых радкоў. Пацікавіцца з набыткамі музея прыходзяць сюды і асобы неяўрэйскай нацыянальнасці. Ад першых дзён існавання Музея ім кіруе шчыра ўлюбёная ў сваю справу, глыбока дасведчаная ў пытаннях яўрэйскай культуры беларускіх яўрэяў мастацтвазнаўца Іна Герасімава.

Падобныя, як у Мінску, аб’яднанні, культурна-асветніцкія асяродкі культуры неўзабаве былі створаны, пачалі актыўна працаваць з людзьмі і ў іншых гарадах Рэспублікі Беларусь, прычым не толькі ў буйных паводле сваіх памераў. Не шмат часу для аднаўлення сваіх культурных традыцый спатрэбілася яўрэям Мазыра. Сур’ёзна яны заявілі пра сябе ўжо ў 1992 годзе. У 2001 годзе сябры гуртка “Зрабі сам” Ала Сяргейчык, Людміла Садоўская і іншыя сталі пераможцамі на Усебеларускім фестывалі нацыянальных культур. Калектыў гэтага гуртка і ансамбль яўрэйскай песні “Мишпоха” атрымалі Дыплом “За захаванне і прапаганду самабытнай культуры народаў, якія пражываюць у Беларусі”. Годам жа раней названы ансамбль заваяваў шэсць Ганаровых грамат на фестывалі яўрэйскай песні ў Гомелі. У ансамблі мелася больш за 20 харыстаў ва ўзросце ад 60 да 80 гадоў. У яго песенным рэпертуары пераважаюць творы, напісаныя на ідышы.[1]

Магілёўскія яўрэі з вялікім задавальненнем сталі наведваць спектаклі мясцовага аматарскага тэатра “Шалом”. Асаблівай папулярнасцю ў ім карыстаецца прафесійны драматычны артыст Зміцер Зэлікаў. З нагоды яго 80-га юбілею ў сакавіку 2005 года “ў Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і адпачынку прайшла праграма “Бенефіс,

[1] Авив. 2002. № 5 – 6 (июнь). С. 20.

бенефіс, бенефіс…”, да арганізацыі якой спрычыніліся сябры Магілёўскай яўрэйскай абшчыны ды грамадскага аб’яднання “Хэсэд Барух”. Спецыяльна да юбілею артыста была прымеркавана прэм’ера спектакля “Буйны выйгрыш” па п’есе Шолам-Алейхема”. У пастаноўцы быў заняты і З.Зелікаў.[1]

Удумлівы, з усіх бакоў узважаны падыход да арганізацыі сваёй працы характэрны Пінскаму яўрэйскаму культурна-асветнаму таварыству Хаіма Вейцмана.[2] Як вядома, яўрэі гэтага беларускага горада маюць вельмі багатую гісторыка-культурную спадчыну: у свой час ён быў цэнтрам вывучэння Торы, меў першакласныя навучальныя ўстановы, шпіталі, бібліятэкі. Улетку 2007 года ў Мінскім яўрэйскім абшчынным доме працавала выстава “Яўрэі Пінска ў старых фатаграфіях”, прысвечаная 500-годдзю яўрэйскай абшчыны гэтага горада. У экспазіцыі пераважалі фатаграфіі 1918–1939 гг. У заслугу пінскім яўрэям можна паставіць, што яны ў нялёгкім для сябе 2002 годзе, як, дарэчы, і для ўсёй Беларусі, арганізавалі выданне газеты “Карлін”. Назва гэтая зусім невыпадковая. Янааднаўляе ў памяці людзей асобу равіна Карлінскага, які ў сярэднявеччы заснаваў у Пінску адну з самых першых на беларускай зямлі яўрэйскую абшчыну. Функцыі галоўнага рэдактара газеты “Карлін” усклалі на вядомага журналіста Сямёна Шапіру.[3]

З радасцю вітала і актыўна ўключылася ў яўрэйскае нацыянальна-культурнае адраджэнне незабыўная тэатральная дзяячка Юдзіф Арончык. Яна нават прапанавала стварыць яўрэйскі тэатр, але, як высветлілася, сярод патэнцыяльных артыстаў не знайшлося дастатковай колькасці асобаў з належным валоданнем ідыша. І як тут не падзякаваць тэарэтыкам і праваднікам дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі ў Беларусі! На смерць Ю.Арончык (1993 г.) Рыгор Рэлес адгукнуўся такімі горкімі словамі: “Пайшла з

[1] Літаратура і мастацтва. 20054. 1 красавіка. С. 3.
[2] Першы прэзідэнт Дзяржавы Ізраіль.
[3] Літаратура і мастацтва. 2007. 24 жніўня.

жыцця адна з апошніх носьбітаў яўрэйскай культуры, а іншыя ўжо ніколі не з'явяцца".[1]

Можа гэта і занадта катэгарычна, бо культурнае ж жыццё яўрэяў на Беларусі працягваецца і не выключана, што ў іх асяроддзі з'явяцца асобы, раўназначныя Ю.Арончык.

З сусветнай практыкі нацыянальна-культурнага адраджэння многіх, асабліва еўрапейскіх, народаў добра вядома, што яно не дае жаданага плёну, калі ажыццяўляемыя дзеля яго рознага роду ідэалагічнага, растлумачальнага парадку мерапрыемствы не падмацоўваюцца чымсьці такім, што ўздзейнічае на эмоцыі, настрой людзей. Адной гаварыльняй нікому не ўдаецца зрушыць іх з месца, прывесці ў дзеянне. На жаль, яна вельмі характэрна сучаснаму беларускаму нацыянальна-адраджэнскаму руху. Яўрэі ж менш сутыкаюцца з ёю і мо таму, што неад'емным атрыбутам іх жыцця заўжды з'яўляецца музыка і спевы. Характэрна гэта і сённяшнему дню, хаця яго ніяк нельга назваць светлым, радасным.

Усёй сваёй практычнай дзейнасцю цалкам адпавядае багатым традыцыям яўрэйскага музычнага мастацтва невялікі па колькасці ўдзельнікаў бабруйскі ансамбль "Гхія" ("Адраджэнне"). Сцвярджаць такое дазваляюць: выхад яго ў пераможцы Гала-канцэрта "Ханукальныя агні" у Мінску, заваяванне звання лаўрэата Міжнароднага фестывалю нацыянальных культур у Гродне, уладальнік Гран-пры І Міжнароднага фестывалю "Яўрэйскі кірмаш", лаўрэат міжнароднага фестывалю народнай творчасці "Вянок дружбы". Гэты калектыў паспяхова выступіў у верасні 2011 года ў Адэсе на IX Міжнародным фестывалі яўрэйскай музыкі. У ім бралі ўдзел музычныя калектывы з Ізраіля, Латвіі, Літвы, Расіі (у т.л. Татарстана), Украіны. І на гэты раз выступленне ансамбля "Гхія" было паспяховым. Яно атрымала высокую адзнаку кіраўніцтва фестывалю, якое выказала музычнаму калектыву падзяку за значны ўнёсак у развіццё яўрэйскай культуры".[2]

---

[1] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Беларуси. С. 185.
[2] Літаратура і мастацтва. 2011. 30 верасня. С. 3.

Сапраўдным пачастункам для музычных гурманаў стаўся арганізаваны ў адзін з лістападаўскіх дзён 2011 года Ансамблем салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава у Малой зале імя Рыгора Шырмы Белдзяржфілармоніі канцэрт "Мелодыі яўрэйскага мястэчка". Наведвальнікам прадставілі "самабытную разнажанравую музыку, якая некалькі стагоддзяў таму прыйшла на беларускую зямлю: гучалі матывы пранікнёнай калыханкі "Міндаль ды разынка", і яўрэйскага танцавальнага фальклору, і хасідскіх літургічных спеваў... Разам з ансамблем выступіла ўдзельніца яго першага складу, віртуозная піяністка Бэла Штэйнбук (Ізраіль)."[1]

Да ідэі яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння не засталіся раўнадушнымі паэт Міхаіл Ясень (сапр. Гольдман) і кампазітар Марк Каган, якія да гэтага тварылі пераважна ў рэчышчы рускага музычна-песеннага мастацтва, што не давала аніякай карысці для беларускай нацыянальнай культуры, наадварот, перашкаджала яе нармальнаму развіццю з-за садзеяння павышэнню ролі рускага фактару ў духоўным жыцці рэспублікі. На вялікі жаль, з вясны 2008 года гэты таленавіты паэт-песеннік перастаў тварыць на карысць яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння. Ён памёр, не дажыўшы трох месяцаў да свайго 82-годдзя.

З пачаткам яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння гэтай этнічнай супольнасці Беларусі ўсё большую ўвагу сталі надаваць у афіцыйных і неафіцыйных сродках масавай інфармацыі. Рэдакцыя часопіса ARCHE ў 2000 годзе прысвяціла дадзенай праблеме ўвесь свой трэці нумар. Пераважалі ў ім артыкулы па самых розных пытаннях яўрэйскай культуры: Ларыса Фінкельштэйн пазнаёміла чытачоў з творчасцю Ізраіля Басава, Уладзімір Мальцаў – з Дзяржаўным яўрэйскім тэатрам БССР. У гэтым нумары часопіса былі змешчаны вершы Рыгора

Рэлеса, Хаіма-Нахмана Бяліка і Святланы Аксёнавай-Штэйнгруд.

---

[1] Там жа. 25 лістапада. С. 11.

Будучы моцна заклапочанымі ходам нацыянальна-культурнага адраджэння, аддаючы шмат часу і энергіі яго пераўвасабленню ў практыку, яўрэйскія творцы, тым не менш, не адрываюцца ад сваёй асноўнай прафесійнай дзейнасці, уносяць таксама пасільны ўклад у развіццё культуры Беларусі. Гэта добра адчуваецца на многіх яе напрамках, у тым ліку і на тым, дзе шмат гадоў плённа працуе таленавіты мастак, клапатлівы настаўнік Май Дацынг.У яго ёсць усе падставы, каб ганарыцца сваімі вучнямі. Вось, напрыклад, адна з іх: Вікторыя Каваленчыкава. Закончыла яна аддзяленне станковага жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. З 2008 года жыве і працуе ў Нідэрландах, мае ў сталіцы гэтай краіны Амстэрдаме сваю галерэю. Таленавітая беларуская мастачка "брала ўдзел у больш як 35 персанальных і групавых выстаўках у Беларусі, Швейцарыі, Германіі, Бельгіі, Італіі, ЗША і Расіі". У М.Данцыга захоўваецца групавая фатаграфія, на якой ён паказаны разам са сваімі студэнтамі, у т. л. і з Вікторыяй. На адвароце фатаздымка надпіс: "Лепшаму настаўніку ад лепшых вучняў!"[1]

Думаецца, у 70-я – першую палову 80-х гадоў мінулага стагоддзя мала хто з яўрэяў верыў у рэальнасць спакойна, публічна ладзіць рознага роду культурныя мерапрыемствы ў духу нацыянальных традыцый. Распачаты з канца 1980-х гадоў адраджэнскі працэс дапамог паверыць у такое. Радуе, што не зафіксавана аніводнага выпадку, каб супроць гэтага выступалі хто-небудзь з мясцовага насельніцтва ці афіцыйныя ўлады. Хутчэй наадварот: ад іх мелася падтрымка, выказвалася імі павышаная зацікаўленасць да гэтага. У цесным ключы заўжды працавалі і сёння працуюць беларускія і яўрэйскія творцы Ліды. Калі ў канцы красавіка 2011 года у вялікай зале Лідскага раённага палаца культуры ладзіўся дабрачынны канцэрт для ветэранаў і людзей сталага веку, ён пачаўся песняй "Беларуская зорка" ў выкананні ансамбля яўрэйскай песні "Шалом".[2]

---

[1] Наша слова. 2011. 11 траўня
[2] Літаратура і мастацтва. 2011. 26 жніўня. С. 23.

Як станоўчае можна адзначыць, што з пачаткам і ў ходзе яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння да сваіх духоўных каштоўнасцяў рашуча пацягнуліся і многія з тых яўрэяў, што раней свой талент аддавалі іншым культурам, нават і рускай. Праўда, пазіцыі апошняй заставаліся і застаюцца непахіснымі ў асяроддзі яўрэяў Беларусі.

Узгадаваныя ўжо далёка не ў першым пакаленні на рускіх культурна-моўных традыцыях яўрэі не адлучаюць ад іх і сваіх дзяцей. Усё беларускае ў іх жыцці ці цалкам адсутнічае, ці адыгрывае толькі пабочную ролю. Са сказанага вельмі лёгка зразумець, чаму ў 1995 годзе "Мудрые еврейские сказки" (складальнік навуковец-гісторык Эмануіл Іофе) выйшлі ў мінскім выдавецтве "Ураджай" на рускай, а не на беларускай мове. Прычым не толькі, каб найлепш паспрыяць далучэнню яўрэйскіх дзяцей да рускай мовы, хаця на ёй і ў той год, і ў папярэднія гады ў продаж паступала кніг (у т. л. і для дзяцей) у дзясяткі разоў больш, чым беларускамоўных, у чым вялікая заслуга выдавецтваў не толькі Расійскай Федэрацыі (зацікаўлена ў шырокай прысутнасці рускай мовы на беларускім абшары), але і ўласных, для якіх нацыянальны інтарэс і тады, і сёння не ўяўляе асаблівай каштоўнасці. На гэтую кнігу зрабіў невялікі водгук акадэмік, Прэзідэнт грамадскага аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына" (у часопісе "Мишота", дзе змешчаны водгук, яно памылкова названа "Отечество") Радзім Гарэцкі і выказаў пажаданне, каб яна была перакладзена і з'явілася на свет у беларускай мове. На практыцы ж такога не адбылося. Не той час! Не тое стаўленне да яе ўсіх, а не толькі яўрэяў.

Ва ўмовах нацыянальна-культурнага адраджэння любога народа заўжды павышаецца ўвага, надаецца вялікае значэнне захаванню памяці пра яго самых выбітных асобаў, якія ўжо даўно ці толькі што адышлі ў невядомы свет. Таму 13 студзеня 2008 года беларускія яўрэі не маглі не адзначыць 60-годдзя з дня трагічнай гібелі ў Мінску свайго земляка, народнага артыста СССР, рэжысёра, педагога, лаўрэата дзяржаўнай прэміі СССР, мастацкага кіраўніка Маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, старшыні

Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта Саламона Міхоэлса (сапр. – Воўскі). Ускладанне кветак адбылося на рагу мінскіх вуліцаў Ульянаўскай і Беларускай – месца яго гібелі 13 студзеня 1948 года. У цырымоніі "узялі ўдзел прадстаўнікі Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын, а таксама мемарыяльнай секцыі РГА "Беларускае дабраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры". А 15 студзеня ў Мінскім яўрэйскім абшчынным доме адбылася вечарына памяці С.Міхоэлса".[1]

У гэты ж дзень 15 студзеня ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася кніжна-ілюстраваная выстава "Я веру ў творчы пачатак Сусвету…", прымеркаваная да 100-гадовага юбілею народнага мастака Беларусі і СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Заіра Азгура. У экспазіцыю ўвайшлі блізу 200 дакументаў – альбомы, кнігі, каталогі выставаў, часопісы, рэпрадукцыі, фотаздымкі, паштоўкі і экспанаты з Мемарыяльнага музея З.Азгура.[2]

Чарговы прыход на беларускую зямлю нацыянальна-культурнага Адраджэння дазволіў не толькі яе яўрэям, але ўсёй прагрэсіўнай грамадскасці краіны канчаткова вярнуць сюды памяць пра сусветна вядомага мастака, ураджэнца Віцебска Марка Шагала. З 1991 года ў гэтым горадзе пачалі рэгулярна ладзіцца Шагалаўскія дні, арганізоўвацца выставы яго работ. У 1994 годзе ў Віцебску адбыўся Першы міжнародны Шагалаўскі пленэр, у якім удзельнічала звыш 40 мастакоў з розных краін свету. Важнай падзеяй стала адкрыццё ў гэтым горадзе мемарыяльнага дома-музея Марка Шагала.

Толькі станоўчай ацэнкі заслугоўвае ўсё тое, што рабілася і робіцца яўрэямі па вяртанні сабе памяці пра сваіх выбітных асобаў, бо такое, як нішто іншае, пазітыўна ўплывае на нацыянальны гонар народа. Калі раней прагрэсіўныя колы беларускага грамадства гаворку вялі ў асноўным пра Марка Шагала, апошнімі гадамі цалкам заслужана ўсё часцей згадваецца імя Хаіма Суціна. У 2008 годзе Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА супольна з

[1] Краязнаўчая газета. 2008. № 3 (студзень).
[2] Там жа.

Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі арганізавалі на радзіме мастака ў Смілавічах Чэрвеньскага раёна экспазіцыю “Прастора Суціна”.

Добра адчуваецца цяга яўрэяў і галоўнае – моладзі – да сваіх нацыянальных моваў – іўрыта і ідыша. Упэўнены, што міне трохі часу, і яны будуць чуваць у публічных месцах. Каб такое стала рэальнасцю, нямала што робіцца не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі.

Нельга не вітаць выхаду ў 2008 годзе ў свет паралельна на англійскай і беларускай мовах манаграфіі канадскай даследніцы, прафесара ўніверсітэта Ватэрло Зінаіды Гімпелевіч “Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі ХХ стагоддзя: паходжанне, гісторыя, дыскурс і біяграфіі”. Не шкодзіла б, каб гэтае даследаванне мелася ва ўсіх вядучых бібліятэках Рэспублікі Беларусь.

Пра актывізацыю нацыянальна-культурнай дзейнасці беларускіх яўрэяў, абумоўленую адраджэнскім працэсам, добра ведаюць і ў суседняй Польшчы. Калісьці гэтая краіна была належным чынам прадстаўлена яўрэйскай культурай, чаго нельга сказаць пра сёняшні дзень. Аднак памяць пра яе захоўваецца і, не выключана, што менавіта па гэтай прычыне ўвесну 2006 года ў польскія гарады Мронгава і Ольштэн запрасілі на гастролі (доўжыліся тры дні) ансамбль музыкі “Шалом” Лідскай яўрэйскай абшчыны. Артысты пазнаёмілі палякаў з яўрэйскай культурай. Бальшыня песень выконвалася на ідыш і іўрыце. Завяршала кожную праграму песня на польскай мове”[1] (падкрэслена мною. – *Л.Л.*), г. зн. на дзяржаўнай мове краіны. Вось бы такую разумную практыку ўвесці і для Беларусі, прычым не толькі яўрэямі, рускімі, украінцамі … а і самімі беларусамі. Тады, напэўна, хоць трохі збавіла б свае абароты русіфікацыя культуры Рэспублікі Беларусь, нейкую палёгку атрымала б творчая інтэлігенцыя нацыянальнай арыентацыі.

Як станоўчае можна адзначыць, што з пачаткам яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння стала больш аддавацца ў Беларусі ўвагі выданню кніг па розных

---

[1] Авив. 2006. (март – апрель). С. 3.

пытаннях жыцця гэтай этнічнай супольнасці, чаго практычна не назіралася на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду. Пераўтварылася ў норму рэгулярнае правядзенне фестываляў яўрэйскай кнігі, падчас якіх наведвальнікаў знаёмяць з новымі кніжнымі выданнямі, арганізуюць сустрэчы з аўтарамі. Шмат цікавага, запамінальнага было для тых, хто ў лістападзе 2004 года прысутнічаў на восьмым такім фестывалі ў Мінску. На ім “адбылася прэзентацыя дакументальнай кнігі ўспамінаў людзей, што перажылі жахі гета, – “Когда слова кричат и плачут”, а таксама фільма пра яўрэйскае супрацьстаянне і рэдкую падзею – падкоп, дзякуючы якому больш за 200 чалавек змаглі ўцячы з Наваградскага гета, – “Выживший в аду”. Адметнай падзеяй стала выступленне сямейнага тэатра “Мишпоха”, з дапамогай якога на фестывалі было арганізавана дзіцячае свята”.[1]

Добрай традыцыяй, карыснай ва ўсіх дачыненнях справай ужо стала арганізацыя дзён яўрэйскіх ведаў. Калі ў кастрычніку 2010 года яго праводзілі ў Мінскім яўрэйскім абшчынным доме, сюды запрасілі паўдзельнічаць у свяце прадстаўнікоў яўрэйскай абшчыны з Ізраіля, Расіі і Украіны. “У межах яго прайшло каля 50 мерапрыемстваў, прысвечаных гісторыі, культуры і традыцыям яўрэйскага народа”. Гасцям расказалі пра малавядомыя факты з біяграфіі французскага мастака яўрэя Хаім Суціна з беларускага мястэчка Смілавічы.[2] Адбылася гаворка пра мінулае шэрагу беларускіх мястэчак, дзе некалі высокі працэнт жыхароў падаў на яўрэяў, дзякуючы чаму тут важнае месца займала іх культура.

Пры адказным, узважаным падыходзе да справы многае можна чакаць ад працы заснаванага ў 2011 годзе Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка Цэнтра ізраільскай культуры і вывучэння мовы іўрыт. На добры лад у ім трэба было б вывучаць і мову ідыш, бо, менавіта, пераважна ж на яго аснове стваралася, развівалася, дасягнула буйнога поспеху яўрэйская культура Беларусі.

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2004. 26 лістапада. С. 3.
[2] Літаратура і мастацтва. 2010. 5 лістапада. С. 2.

Як і ў савецкія даваенныя гады, ідэолагі, непасрэдныя праваднікі ў жыццё ідэі яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння ломяць свае галовы над тым, на якой моўнай аснове яно павінна адбывацца: на іўрыце ці на ідышы. Пытанне гэтае, на мой погляд, не з катэгорыі шараговых. Тут ёсць над чым паразважаць. Як на мой беларускі розум, а не розум яўрэя, лічу, што ў беларускіх яўрэяў няма больш важнай місіі, як развіваць на нашай зямлі ідышысцкую культуру з такімі тут багатымі ў яе традыцыямі. Няхай на іўрыце яўрэі твораць на сваёй гістарычнай радзіме ў Ізраілі. Дзякаваць богу, у гэтай краіне ёсць каму займацца развіццём такой культуры. Паколькі ж для Беларусі спрадвеку больш характэрна ідышысцкая культура, яе трэба і аднаўляць, даваць новае жыццё. Чым жа дрэнна было б, каб гэты прыгожы куточак планеты Зямля пераўтварыўся можа ў адзіны на ўсёй яе тэрыторыі арэал існавання ідышысцкай культуры? Несумненна, праблемы вялікія паўстануць у сувязі з амаль поўнай адсутнасцю ў яе тут адпаведнага кадравага патэнцыялу, бо абсалютная бальшыня нашых яўрэяў дашчэнту зрусіфікаваная. Шчыра ж адданыя сваім нацыянальна-культурным традыцыям яўрэі больш цягнуцца да іўрыцкага, чым да ідышысцкага пачатку. Я маю такую адкрытую зацікаўленасць да аднаўлення прысутнасці ідышысцкай культуры на Беларусі яшчэ і таму, што моцна ўпэўнены: гэта істотным чынам паўплывае ў лепшы бок і на яе карэннае насельніцтва, прымусіць задумацца, асабліва інтэлігенцыю, што нельга на сваёй роднай зямлі жыць па-за беларускімі культурна-моўнымі стандартамі, аддаваць тут усё пад уладу і без таго так шырока распаўсюджанай на велізарнай еўраазіяцкай тэрыторыі рускай культуры. Яе панавальная прысутнасць у нас ніколькі не надае аўтарытэту Беларусі ў свеце, а вось развіццём нацыянальнай культуры яна набыла б яго (аўтарытэт). І беларускія яўрэі спавяданнем ідышысцкай культуры больш павагі здабудуць для сябе на планеце Зямля, чым калі стануць у нашым краі сапраўднымі носьбітамі культуры на іўрыцкай моўнай аснове. Такой культурай ні сёння, ні заўтра нікога не здзівіш, чаго нельга сказаць пра

ідышысцкую культуру. Я рэкамендаваў бы ўсім народам планеты Зямля падалей трымацца ад культур-гігантаў, каб не быць праглынутымі імі, бо ў такім выпадку жывым не застанешся дый моцна збяднее культурная разнастайнасць цывілізаванага свету.

Нацыянальна-культурнае адраджэнне любой этнічнай супольнасці, акрамя вялікіх намаганняў яе найбольш актыўных колаў дзеля дасягнення гэтай святой мэты, зацікаўленасці і непасрэднага ўдзелу самой дзяржавы ў правядзенні звязаных з ёю мерапрыемстваў, патрабуе яшчэ і значных матэрыяльных, фінасавых сродкаў. Не толькі нацыянальныя меншыні Рэспублікі Беларусь, але і яе тытульны народ не валодаюць такімі сродкамі дзеля забеспячэння патрэб свайго адраджэння. Па лініі дзяржавы іх больш за ўсё асігнуецца на рускамоўныя адукацыю і культуру краіны, што з'яўляецца самым сур'ёзным тормазам не толькі на шляху беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння. Яўрэйская абшчына магла б і не зведваць асаблівых цяжкасцяў з задавальненнем сваіх фінансавых і матэрыяльных патрэб, калі б іх гістарычная метраполія Ізраіль не знаходзілася б у стане сталых ваенных канфліктаў з арабскімі краінамі, што істотна абясточвае яе бюджэт. Са сказанага становіцца зразумелым, чаму яўрэйская супольнасць Беларусі і пасёння на ўсім яе абшары не мае аніводнай дыхтоўнай сінагогі. Дарэчы, будынкі некаторых іудзейскіх храмаў, нягледзячы на вандалізм эпохі атэізму і фашысцкай акупацыі, ўсё ж захаваліся, але па розных прычынах не выкарыстоўваюцца паводле свайго прызначэння. Ёсць такі, толькі карэнным чынам пераабсталяваны атэістычнымі ўладамі храм і ў Мінску. Як вядома на працягу многіх дзесяцігоддзяў памяшканне самай адметнай у гэтым горадзе сінагогі выкарыстоўвае калектыў Рускага нацыянальнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага. А вось яўрэі ў сталіцы Рэспублікі Беларусь і да нашых дзён не маюць прыстойнага будынка сінагогі, хаця ў гэтым горадзе яны за час пражывання ў ім узвялі вялікую колькасць аб'ектаў культавага прызначэння. Сёння, хаця і марудна, з вялікімі цяжкасцямі, але ўсё ж у адным з самых

прыгожых месцаў Мінска ўзводзіцца шыкоўная мячэць. І будзе зусім не апраўдана, калі беларускія мусульмане вось-вось атрымаюць рэальную магчымасць маліцца Алаху ў пабудаванай паводле апошнягя слова тэхнікі мячэці, а тутэйшыя іудзеі па-ранейшаму будуць туліцца ў пазбаўленых усялякіх сучасных выгод старых сінагогах. Ці не прыйшоў час дзяржаве матэрыяльна дапамагчы мінскім яўрэям ўзвесці прыгожы іудзейскі храм у знак кампенсацыі за забранае ў іх памяшканне для сталічнага рускага драматычнага тэатра. Не памылюся, калі скажу, што яўрэі сваім укладам у культуру Беларусі цалкам заслугоўваюць таго, каб мець у Мінску адпаведную самым высокім архітэктурным стандартам сінагогу, ад чаго ён не толькі папрыгажэе, але і будзе прывабліваць да сябе многіх замежных турыстаў.

З сур’ёзнымі цяжкасцямі з-за адсутнасці матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў давялося сутыкнуцца падчас рэканструкцыі адной з самых старых мінскіх сінагогаў на вуліцы Крапоткіна. За поўнамаштабную рэканструкцыю яе ўзяліся на сем гадоў пазней ад раней вызначанага тэрміну: у 2003 замест 1996 года. Яшчэ да заканчэння асноўных работ у памяшканні будучай сінагогі ў 2006 годзе функцыянавалі сталічная яўрэйская гімназія “БІ – Л”, у якой меліся кампутарныя класы, басейн, багатая бібліятэка. Акрамя абавязковых агульнаадукацыйных прадметаў, выкладаліся яўрэйская гісторыя і іўрыт. Гімназію наведвала каля 200 вучняў.[1]

Акрамя Мінска, яўрэйскае нацыянальна-культурнае адраджэнне адразу ж паставіла на парадак дня аднаўленне старых і будаўніцтва новых іудзейскіх храмаў у абласных цэнтрах і іншых гарадах. І ў такіх выпадках дадзеная праблема развязвалася вельмі цяжка, бо не хапала матэрыяльных і фінансавых сродкаў, што аднак не вяло да спынення гэтай патрэбнай працы. Добра ведаючы, што без сінагогаў вельмі лёгка завесці ў тупік адраджэнскі працэс, шчырыя прыхільнікі яго многае робяць, каб не дапусціць такой непажаданай з’явы. Плённа, нястомна працуе на

[1] Минский курьер. 2006. 30 мая. С. 3.

яўрэйскую адраджэнскую ідэю з улікам яе рэлігійнага фактару лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне архітэктуры, аўтар будынка новай сінагогі ў Мінску, арганізатар правядзення ў Беларусі міжнародных дзіцячых пленэраў “Адраджэнне яўрэйскага мястэчка” Галіна Левіна. У лютым 2009 года ў зале Барысаўскай цэнтральнай бібліятэкі з поспехам прайшла выстава яе жывапісных эцюдаў, ілюстрацый да апавяданняў яўрэйскага паэта нашай краіны Р.Рэлеса, “невялічкія дарожныя замалёўкі беларускіх, яўрэйскіх, італьянскіх ды іншых мясцін”.[1]

Ужо на самым старце яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння ў Беларусі яго актыўна падтрымлівае дзяржава Ізраіль. Такую пазіцыю апошняга вельмі лёгка зразумець. У ліку праведзеных па яго ініцыятыве важных мерапрыемстваў заслугоўвае быць названай арганізаваная Нацыянальнай бібліятэкай РБ у канцы студзеня 2007 года Пасольствам Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь і выдавецтвам ТАА “МЕТ” пры падтрымцы габрэйскіх арганізацый “Джойнт” і “Сохнут” выстава “Дні габрэйскай кнігі”. “У галерэі “Лабірынт” Нацыянальнай бібліятэкі было прадстаўлена больш як дваццаць ізраільскіх выдавецтваў, якія друкуюць кнікі на іўрыце ды рускай мове, выдавецтвы рэлігійнай літаратуры”.[2] Заслугоўвае быць згаданым і такі факт. Калі ў пачатку 2008 года ў Мінску працавала выстава “Кнігі Беларусі – 2008” на ёй пасольства гэтай краіны аформіла стэнд плошчай ў 50 кв. м, на якім было прадстаўлена звыш 800 кніг. З іх “больш як палова – прадукцыя ізраільскіх выдаўцоў, астатняе – расійскія і беларускія кнігі, прысвечаныя яўрэйскай гісторыі, культуры ды іншым тэмам”. На стэндзе Ізраіля прысутнічалі “і кнігі яўрэйскай тэматыкі беларускай вытворчасці. Іх падрыхтоўкай займаецца выдавецтва “МЕТ”.[3]

Вялікую зацікаўленасць у наведвальнікаў выклікала зладжаная 14 верасня 2009 года ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы Мінска “ізраільская фотавыстаўка “Тэль-

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2009. 9 лютага. С. 10.
[2] Літаратура і мастацтва. 2007. 9 лютага. С. 2.
[3] Літаратура і мастацтва. 2008. 8 лютага. С. 1.

Авіў – 100”. Арганізавалі яе Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр пры пасольстве Ізраіля і ўпраўленне культуры Мінскага гарвыканкама” (падкрэслена мною. – *Л.Л.*). Змешчаныя на ёй каляровыя фатаграфіі адлюстроўвалі “жыццё найбуйнейшага горада з насельніцтвам “2,5 млн. чалавек, які больш як на 14 кіламетраў працягнуўся ўздоўж Міжземнага мора”.[1]

Гэтаму ж Ізраільскаму культурна-інфармацыйнаму цэнтру шматлікія знаўцы, аматары жывапісу абавязаны знаёмствам з выдатнымі творамі ізраільскай мастачкі Малкі Цэнцыпер, якія ўлетку 2010 года дэманстраваліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Да гэтага творы яе паказваліся ў многіх краінах свету, у т. л. у ЗША, Мексіцы, Грэцыі, Іспаніі, Францыі… А цяпер ужо і “беларуская публіка спрычынілася да віртуознага майстэрства і невычэрпнага пачуцця гумару, з якім мастачка ўвасабляе сваю ўлюбёную тэму – маляўнічае, шумнае, шчаслівае жыццё насельнікаў яўрэйскага мястэчка: яго каларыт перадала падборка работ… пад назваю “Вясновая мелодыя” …”[2]

Станам сучаснага нацыянальна-культурнага адраджэння яўрэяў Беларусі не толькі цікавяцца, але і імкнуцца ў чымсьці яму дапамагчы іх супляменнікі, што ўжо атабарыліся на сваёй гістарычнай радзіме – ў Ізраілі. Хаця калекцыянер з гэтага горада Леанід Закс нарадзіўся не ў Беларусі, а тут маюць карані толькі яго продкі, ён зусім не абыякавы да лёсу гэтай краіны. У сталіцы апошняй Мінску праходзілі выставы з яго калекцый, а ў жніўні 2009 года ён перадаў у дар Беларусі “больш за 20 графічных работ вядомых мастакоў-авангардыстаў Сярэбранага веку”, купленых за ўласныя грошы ў аднаго з маскоўскіх калекцыянераў. Купіў жа Л.Закс творы гэтых мастакоў толькі таму, каб падарыць Беларусі, паколькі ўсе яны мелі дачыненне да яе, наведвалі Віцебск. Набытыя ў іх творы сталі асновай для наладжанай у верасні 2009 года ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Мінску мастацкай выстаўкі.[3]

---

[1] Краязнаўчая газета. 2009. № 35 (верасень).
[2] Літаратура і мастацтва. 2010. 28 мая. С. 2; 27 жніўня. С. 10.
[3] Народная воля. 2009. 1 – 3 верасня.

Было б вялікай памылкай думаць, што з пачаткам і ў ходзе яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння абсалютная бальшыня дадзенай этнічнай супольнасці з галавой акунулася ў гэты прагрэсіўны, так патрэбны рух. Не, такога не адбылося. Як і ў папярэднія гады яўрэйская творчая інтэлігенцыя ў сваёй пераважнай колькасці працуе на рускую культуру, што асабліва датычыць майстроў мастацкага слова. У яе прамым інтарэсе нават і тое, што прымкнутыя да яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння асобы забяспечваюць яго патрэбы ў перыядычным друку, мастацкай, навуковай, публіцыстычнай літаратуры, літаратуры службовага характару на рускай мове, што апошняя з'яўляецца рабочай пры правядзенні ўсемагчымых культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў. Мо няма сярод яўрэйскіх адраджэнцаў толькі тых, хто жадаў бы ўвесці яе ў іудзейскае набажэнства.

Сёння амаль кожнаму больш-менш адукаванаму чалавеку добра вядома, што па віне антыбеларускіх палітычных рэжымаў Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі гарады нашага краю адыгрывалі проста мізэрную ролю ў развіцці яго нацыянальнай культуры. Яны найперш былі цэнтрамі польскай, яўрэйскай, а затым рускай культур. У многім адрозную ролю ў культурным жыцці адыгрывалі мястэчкі. У іх культуры ўжо прысутнасць беларускага фактару не выклікае аніякага сумнення, чаго нельга не ўлічваць і пры выбары мовы выдання кніг пра нашыя мястэчкі. Глабальная зрусіфікаванасць сучаснага яўрэйскага жыцця не дазваляе паступаць такім чынам. Таму нікольки не здзіўляе выданне на рускай мове кнігі Аляксандра Розенберга “Очерки по еврейской истории городов и местечек Беларуси” (Мн., 2011). Такіх населеных пунктаў у кнізе 56, сярод якіх, зразумела, нямала і з багатай арыгінальнай беларускай, а не рускай культурай. Не знайшлося беларускай мове месца і ў кнізе Міхаіла Южука “Уроки памяти”, якая выйшла ў свет увосень 2011 года ў Пінску. Сказанае датычыць і “Путеводителя по еврейским местам Витебска”, хоць ён выдаваўся не па-за межамі нашай краіны, а ў яе сталіцы Мінску

(2011). Тэксты паралельна надрукаваныя на рускай і англійскай мовах.

Далёка не апошняга дзесяцігоддзя рашучы адыход яўрэяў ад беларускай культуры і далучэнне да рускай пераканаўча тлумачаць, чаму ў час правядзення ўвесну 2000 года ў Баранавіцкім клубе "Шалом" Дня паэзіі ўсе чатыры мясцовыя паэты-яўрэі выступілі на ім з рускамоўнымі вершамі.[1] Гэтага, вядома, магло б не назірацца, калі б кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь вяло паслядоўную палітыку супроць русіфікацыі культуры свайго тытульнага народа, усяляк імкнулася забяспечыць ёй прыярытэты. Такога ўжо не назіраецца больш за паўтара дзесяцігоддзя.

На шчасце і радасць зацікаўленых у культурнай разнастайнасці Беларусі людзей у жыцці даволі часта здараецца такое, што зусім не ўпісваецца ў трывала ўсталяваную норму. Вось адзін з прыкладаў у пацвярджэнне сказанаму. Мяркую для многіх, у тым ліку і для мяне, вельмі ўсцешна, што сярод жыхароў нашай краіны яшчэ знаходзяцца людзі, гатовыя на сур'ёзныя практычныя крокі, каб толькі не даць адысці ў нябыт ідышу, на якім на беларускай зямлі створана такая багатая яўрэйская духоўная спадчына, г. зн. тое, што можа істотна павысіць імідж нашай Бацькаўшчыны ў вачах сусветнай цывілізацыі. З прыемнасцю чытаў у газетах "Народная воля" (10.07.2008) і "Наша слова" (16.07.2008), што адмысловец у галіне мовы ідыш Аляксандр Астарух склаў ілюстраваны ідыш-беларускі слоўнік. З'явіўся ён на свет пасля 76 гадоў выхаду ў нашай краіне першага такога слоўніка. Праца А.Астаруха па складанні слоўніка доўжылася 10 гадоў (!). Гэтая выдадзеная накладам у тысяча паасобнікаў 928-старонкавая праца ўключае каля 25 тысяч слоўнікавых артыкулаў і 50 тысяч слоў. Верыцца, што слоўнік не будзе пыліцца на кніжных паліцах, будзе мець даволі шырокае кола карыстальнікаў.

Не толькі здзіўляюць, але і абнадзейваюць правядзенні 14 ліпеня і 4 верасня 2011 года нязвыклыя для нашай

---

[1] Авив. 2000. № 4 (апрель).

практыкі аўтобусныя экскурсіі пад назовам “У пошуках ідыша”. У іх удзельнічала каля 70 чалавек, сярод якіх знаходзілася нямала беларусаў, у прыватнасці, аўтар вялікага ідыш-беларускага слоўніка А.Астарух, бо і іх цікавіць усё, што звязана з жыццём нашых яўрэяў на розных этапах гісторыі. Арганізаця такіх экскурсій ажыццяўляецца праз прыватную ініцыятыву мінскага педагога Святланы Бергер і не носіць якога-небудзь камерцыйнага характару.[1]

Мяркую, што ўсё гэта можа хоць трохі дапамагчы выправіць архінедарэчнае ў Беларусі ў канцы XX – пачатку XXI стагоддзя, калі літаратурныя творы на ідышы пісаў толькі адзін майстар мастацкага слова Рыгор (Гірш) Рэлес, прычым у дужа сталым веку. Мо як ніхто іншы паэт-адзіночка ў ідышы быў вельмі паважанай у яўрэйскім асяроддзі асобай. Калі бібліятэка Хэсэд-Рахаміма і МОЕК імя Ізі Харыка ладзілі 27 красавіка 2003 года ў Мінску святкаванне 90-гадовага юбілею Р.Рэлеса, на сустрэчу з ім сабралася ўся краса яўрэйскай абшчыны. Юбіляра “сардэчна павіншавалі: прэзідэнт Саюза беларускіх яўрэйскіх аб’яднанняў і абшчын Л.Левін, віцэ-прэзідэнт гэтага ж Саюза Я.Басін, прадстаўнік Швейцарскай дабрачыннай арганізацыі М.Заўтэр, прэзідэнт Беларускага аб’яднання яўрэяў – былых вязняў гета і нацысцкіх канцлагераў М.Трэйстэр, прадстаўнік Саюза беларускіх яўрэяў-інвалідаў і ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны М.Гінзбург, вядомы беларускі паэт і перакладчык Р.Барадулін, дырэктар Хэсэда С.Абрамава, дырэктар Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі І.Герасімава, журналіст Г.Лабадзенка, гісторык Э.Іофэ, паэты А.Левіна і Е.Полеес, музыкант І.Чарнін і многія іншыя.

Артысты з народнага тэатра Магілёўскага Хэдэса паказалі сцэны са спектакля па п’есе Р.Рэлеса “За кулісамі”.

Вёў сустрэчу галоўны рэдактар часопіса “Мишпоха” А.Шульман”.[2]

Вось толькі шкада, што ўсе гэтыя мерапрыемствы ладзіліся без выкарыстання ідыша, а пераважна на руска-

[1] Краязнаўчая газета. 2011. №38 (кастрычнік).
[2] Авив. 2003. № 3 (апрель).

моўнай аснове, за што трэба, зняўшы шапку, прыкленчыўшы, дзякаваць зацяжнога характару дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі, у тым ліку і яе сучасным праваднікам і ідэолагам.

Прыемна, што ў гэтай заганнай практыкі былі і ёсць сур'ёзныя, аўтарытэтныя апаненты. Бадай ніхто так аддана не служыў і не служыць беларускай культуры, беларускаму слову, як Ілья Курган. Бальшынёй людзей ён успрымаецца як дыктар беларускага радыё, якому прысвяціў дзесяткі гадоў свайго творчага жыцця. Калі дзесьці ў 70-я гады я ў сваёй мамы (калгасніцы) папытаў, чый голас з дыктараў радыё Вам найбольш за ўсё падабаецца, яны адразу назвалі Ілью Кургана. З такой ацэнкай быў цалкам згодзен і я. Ілья Курган у свае 85 гадоў (споўнілася ў маі 2011 г.) яшчэ выкладаў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, кансультаваў купалаўцаў і артыстаў Рэспубліканскага тэатра драматургіі. Паводле слоў самога І.Кургана, яму сумна прызнаваць, што “для большасці сучасных “рыцараў эфіру” мова –тым больш, родная – толькі інструмент, якім яны карыстаюца, як цесляры. У штодзённым жыцці яна ім непатрэбная. Нават для студэнтаў Інстытута журналістыкі беларуская мова – усё адно, што замежная”.[1] Каб і хацеў, дык лепш і не скажаш пра сірочы стан беларускай мовы ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі. Нават у час існавання СССР ёй (беларускай мове) непараўнальна лепш пачувалася ў СМІ, чым сёння. І віна за гэта ў значнай ступені ляжыць і на тых, хто тут працуе. Нельга ж усю адказнасць за беларускамоўнае аняменне жыхароў Беларусі спісваць толькі на антынацыцянальную палітыку яе кіраўніцтва ў сферы культуры.

Шкада, што з уходам І.Кургана з працы дыктара Беларускага радыё ў яго не знайшлося паслядоўнікаў з ліку асобаў яўрэйскай нацыянальнасці Не адшукаеш іх і на ўсіх праграмах Беларускага тэлебачання. Дзівіцца ж з гэтага няма прычын, бо і беларусы-тэлежурналісты, каб дагадзіць

[1] Літаратура і мастацтва. 2009. 25 верасня. С. 12.

дзяржаўным ідэалагічным структурам, дашчэнту зрусіфікаванай шматлікай частцы жыхароў краіны, карыстаюцца рускай мовай. І тым не менш, беларускае слова канчаткова не выпала з вуснаў тых яўрэяў, што працуюць у афіцыйных электронных сродках масавай інфармацыі. Такія асобы, хаця і крайне рэдка, але ўсё ж сустракаюцца і будзем спадзявацца, што і надалей яны будуць. Нельга ж канчаткова парываць з традыцыямі, прычым традыцыямі добрымі, прагрэсіўнымі, зямлі, на якой ты жывеш.

Будзем глядзець, як на часовую з’яву, што сёння на запушчанай у выніку заганнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, дрэнна ўгноенай, задзірванелай ніве беларускай культуры працуюць толькі адзінкі з беларускамоўных яўрэяў. У беларусаў нацыянальнай арыентацыі такія яўрэі на вагу золата найвышэйшай пробы. У іх беларуская нацыянальная культура цяпер карыстаецца нават больш высокім аўтарытэтам, чым як гэта назіралася ў рэпрэсіўныя трыццатыя гады мінулага стагоддзя, калі больш-менш спакойна пачувалі сябе толькі творцы, што працавалі на рускую савецкую культуру Беларусі. На зыходзе XX – у першыя дзесяцігоддзі XXI стагоддзя мо ніхто з прадстаўнікоў нацменшыняў не рабіў такога важкага ўкладу ў беларускую нацыянальную культуру, як ураджэнец Полацка Навум Гальпяровіч. Яго можна смела назваць Змітраком Бядулем XXI стагоддзя. Шчыра, аддана служыць беларускай культуры ўжо не адно дзесяцігоддзе: яшчэ з 1997 года, калі ў Наваполацку працаваў рэдактарам радыёвяшчання вытворчага аб’яднання “Палімір”, карэспадэнтам гарадской газеты “Хімік”, а з 1981 года – уласным карэспадэнтам рэспубліканскага радыё ў рэгіёне. Яшчэ большая магчымасць служыць беларускай справе з’явілася ў Н.Гальпяровіча, калі ў 1997 годзе пераехаў у Мінск і папераменна займаў пасады намесніка галоўнага рэдактара часопіса “Вожык”, намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў і нарэшце – галоўнага рэдактара замежнага вяшчання Беларускага радыё. Ён “аўтар кніг паэзіі “Сцяжына”, “Брама”, “Востраў душы”, “Струна”, “Святло ў акне”, кнігі прозы “Шляхі і вяртанні”. На вершы Навума Гальпяровіча

напісаны песні вядомымі беларускімі кампазітарамі Э.Зарыцкім, У.Буднікам, А.Елісеенкавым, В.Івановым і іншымі. Асобныя творы перакладзены на рускую, балгарскую, румынскую і польскую мовы”.[1] У яго вершы “Голас і рэха” ёсць такія прачулыя радкі пра беларускую мову:

Захавай маю мову, чарговы наш век,
Захавай, як лясы, сенажаці, азёры,
Як світанне ў расе, як сцяжынка ў траве,
Як у жніўнай начы адзінокія зоры.
Гэтай мовай я словы любові шапчу
Да жанчыны, да краю адзінага ў свеце,
Да ўсяго, чым я смутак асенні лячу,
І надзею ў душы зноў спялю на дасвеці.
Захавай маю мову для родных маіх,
Захавай не як памяць – як кветку жывую,
Захавай маю мову, як зрок і як слых,
Як мелодыю свету, якую я чую.[2]

Як бы многа выйгралі беларусы, нацыянальныя меншыні нашай краіны, каб прыслухаліся, прынялі да сэрца моўны запавет аўтара гэтага верша! Тады для ўсіх нас дарагая маці-Беларусь не выглядала б цьмянай копіяй Тамбоўшчыны, Валагодчыны ці яшчэ якога-небудзь іншага рэгіёна Расійскай Федэрацыі, а ўяўляла б сабою краіну з непаўторнай у свеце, самабытнай культурай, вабіла б да сябе любога цывілізаванага чалавека. Надзея на гэта ёсць. Толькі не трэба бяздзейнічаць, спадзявацца на нейкі цуд. Усе найвялікшыя дасягненні, у тым ліку і нацыянальна-культурнае адраджэнне любога народа – гэта найперш за ўсё яго самога тытанічная стваральная праца, якой няма канца. Пры ўсіх бясспрэчных дасягненнях сусветнай цывілізацыі ў сферы культуры барацьба народаў за сваё этнічнае выжыванне будзе набываць усё большую і большую актуальнасць. Першымі будуць гінуць у гэтай барацьбе народы, што страцілі сваю родную мову. Дазволю сабе працягнуць гаворку, як за яе змагаецца Н.Гальпяровіч.

---

[1] Краязнаўчая газета. 2006. № 31 (жнівень).
[2] Гальпяровіч Н.Я. Голас і рэха. Кніга паэзіі. Мн., 2005. С.

У снежні 2011 года творчая інтэлігенцыя ладзіла ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры "круглы стол" з мэтай вызначэння шляхоў актывізацыі працы кампазітараў, сцэнарыстаў, паэтаў па стварэнні арыгінальных нацыянальных спектакляў, на якія ўсё яшчэ адчуваецца востры дэфіцыт. На гэтае мерапрыемства запрасілі і Н.Гальпяровіча. Вось вытрымка з яго выступу: "Беларуская мова павінна гучаць у нашых тэатрах: гэта бясспрэчна... Усе замежныя госці Мінска ў першую чаргу цікавяцца, а дзе ж ваша мова? Арыгінальныя песні, спектаклі? Нацыянальнае мастацтва павінна быць з мовай Купалы, Коласа, Багдановіча. Кампазітары могуць пацвердзіць, як хораша яна кладзецца на музыку: нібыта створана для спеваў!

Не трэба баяцца ствараць на беларускай мове. За Мулявіна, за ягоныя песні не было сорамна нідзе... твор нацыянальнага мастацтва павінен быць нацыянальным, вартым нашай краіны, гісторыі, багатай літаратуры."[1]

Непадробная, шчырая любоў Н.Гальпяровіча да беларускай зямлі поўнай выразнасцю засведчана падчас яго інтэрв'ю для газеты "Літаратура і мастацтва", узятае яе галоўным рэдактарам Таццянай Сівец. Вось толькі некалькі цытат з іх размовы: "калі чалавек не ведае сваёй роднай мовы, я лічу гэтага чалавека без каранёў"; "у цывілізаваных людзей не можа ўзнікнуць пытанне пра непатрэбнасць роднай мовы" (у нас жа яно не толькі ўзнікае, але яшчэ і на самым высокім афіцыйным узроўні вядзецца мэтанакіраваная праца па стварэнні такіх умоў, каб беларуская мова была зусім непатрэбнай грамадству. – *Л. Л.*); "пасапраўднаму шчаслівым мяне можа зрабіць родная Беларусь, калі буду знаходзіць разуменне ў людзей, чуць добрае слова, родную песню"[2] (якую ў нечуваных маштабах замяняюць у нас у СМІ, на тэатральных сцэнах рускай песняй. – *Л. Л.*). Дарэчы тут будзе заўважыць, што дзеці ў Н.Гальпяровіча беларускамоўныя, што так рэдка сустракаецца нават у асяроддзі тытульнай нацыі. Сын Максім працуе за

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2012. 6 студзеня. С. 4.
[2] Літаратура і мастацтва. 2012. 20 студзеня. С. 4.

галоўнага рэдактара "Беларускага гістарычнага часопіса", дачка Вольга знаходзіцца ў Кітаі, дзе стварае беларускую старонку сайта Міжнароднага кітайскага радыё.

Паважае, па-сапраўднаму сябруе з беларускім словам прафесар, кандыдат філасофскіх навук, член-карэспадэнт Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншыняў, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі яўрэйскай культуры і мастацтва Уладзімір Ліўшыц, хаця і нарадзіўся ў 1946 годзе ў горадзе Красны Кут Саратаўскай вобласці. Праўда, бацькі яго – выхадцы з Беларусі. На радзіму вярнуліся ў год з'яўлення на свет сына Уладзіміра. Асабліва шмат карыснага для беларускай справы ён зрабіў на пасадзе дырэктара Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея (1988–2005), а затым рэдактара часопіса "Веснік БСГА". Яго пяру належаць кнігі: Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей (1991); Максім Гарэцкі – жыццё і творчасць (1993); Ішло ў бяссмерце Горацкае гета...; Летапіс горада Горкі; Летапіс Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (усе тры – 1995); Раскопкі вакол Горацкага "Парнаса" (2001) і інш. У выніку праведзеных даследаванняў "У.Ліўшыцам знойдзены цікавыя звесткі аб сувязях студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута з Т.Р.Шаўчэнкам, Л.М.Талстым, А.П.Чэхавым і іншымі. Ім жа адкрыты новыя факты з жыцця беларускіх пісьменнікаў Я.Купалы, Я.Коласа, М.Гарэцкага і В.Каваля.

(...) У 1988 годзе здзейснілася яго галоўная мара – у Горках быў адкрыты гісторыка-этнаграфічны музей, а перад гэтым ён чатыры гады на грамадскіх пачатках ствараў экспазіцыю музея". Стаўшы дырэктарам музея, У.Ліўшыц браў удзел у адкрыцці яго філіялу ў вёсках Аўсянка і Маслакі. Ён меў прамое дачыненне да стварэння музея-кабінета М.Гарэцкага ў адной з аўдыторый БДСГА. Яму належаць амаль усе надрукаваныя ў энцыклапедыях Беларусі артыкулы пра Горкі і размешчаную ў іх акадэмію. "Ён змог адрадзіць горацкае таварыства краязнаўцаў "Бацькаўшчына" і літаратурнае аб'яднанне "Роднае слова".[1] На такое

---

[1] Краязнаўчая газета. 2006. № 4 (студзень).

здольныя толькі тыя яўрэі ці прадстаўнікі іншых этнічных супольнасцяў, што арганічна інтэграваны ў нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі. Такое ж магчыма толькі праз авалоданне і прафесійнае выкрыстанне яе роднай мовы. Гэтым усім спаўна надзелены У.Ліўшыц.

Больш за трыццаць гадоў працаваў у тыднёвіку “Літаратура і мастацтва” Міхась Замскі (памёр у студзені 2006 г.). У яго змястоўных артыкулах глыбока раскрываліся самыя складаныя, найбольш актуальныя пытанні з нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў. Ён быў сапраўдным майстрам арганізацыі інтэрв’ю з вядомымі дзеячамі беларускай культуры і навукі.

Даволі часта выкарыстоўвае родную мову зямлі свайго пражывання добра вядомы ў Беларусі гісторык Эмануіл Іофе. Праўда, гэта ў асноўным датычыць толькі яго артыкулаў для газет і часопісаў, выступленняў на канферэнцыях.

На радасць не адарваным ад роднай глебы беларусам у сучасным яўрэйскім нацыянальна-культурным жыцці нашай краіны трапляе, праўда, вельмі рэдка і яшчэ штосьці такое, што адпавядае яе інтарэсу. Ну хоць бы выкананы Паўлам Касцюкевічам пераклад на беларускую мову кнігі ізраільскага пісьменніка з баранавіцкімі каранямі Этгара Керэта “Кіроўца аўтобуса, які хацеў стаць богам” (Мн., выдавецтва “Логвінаў”, 2007). У лютым 2007 года ў Ізраільскім культурна-інфармацыйным цэнтры ў Мінску адбылася прэзентацыя гэтай кнігі.[1] А яшчэ раней, у 2002 годзе, у перакладзе Міколы Гілевіча з англійскай на беларускую мову была выдадзена ў Мінску кніга Гіршы Смоляра “Менскае гета”. Пастаралася пра гэта выдавецтва “Тэхналогія”.

Іншым разам павучальны прыклад беларускім яўрэям, як трэба берагчы, шанаваць духоўныя каштоўнасці тытульнага народа той зямлі, дзе ты жывеш, падаюць акрэдытаваныя ў нашай краіне ізраільскія паслы. Калі ў маі 2007 года амбасада Ізраіля ў Беларусі ладзіла афіцыйны прыём у сувязі з 59-й гадавінай яго дзяржаўнай незалежнасці, кіраўнік дыпкорпуса Зееў Бен-Ар’е выступіў перад прысутнымі

---

[1] Літаратура і мастацтва. 2007. 9 лютага. С. 2.

на чысцюткай беларускай мове. Праўда, афіцыйныя беларускія сродкі масавай інфармацыі, па вядомых прычынах, пастараліся не звярнуць увагі на такі зусім не характэрны для кіраўніцтва, усяго дзяржаўнага чыноўніцкага апарата Рэспублікі Беларусь моўны факт. Затое не абышла яго ўвагай самая аўтарытэтная ў краіне апазіцыйная газета "Народная воля" (11 мая 2007).

Да канца ўпэўнены, што ў канчатковым знікненні яўрэяў з этнічнай карты Беларусі ў выніку русіфікатарскай палітыкі яе кіраўніцтва зацікаўлены толькі людзі, якія самі апынуліся ў палоне такога фармату культурна-моўнай асіміляцыі і, апусціўшы галовы, не шукаюць выйсця з яе. Беларусы ж цвёрдай, непахіснай нацыянальнай арыентацыі толькі поспеху жадаюць усім, хто змагаецца за захаванне яўрэйскай этнакультурнай самабытнасці, больш таго, робіць пэўныя практычныя крокі, каб гэта станавілася рэальнасцю, бо ў такой сітуацыі і тытульнаму народу хоць трохі лягчэй будзе супрацьстаяць ненажэрнай русіфікацыі. У звязку са сказаным нельга яшчэ раз не згадаць народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, у шэрагу літаратурных твораў якога прысутнічае яўрэйскі фактар. Многіх сваіх прыхільнікаў як з ліку беларускіх, так і яўрэйскіх чытачоў ён па-добраму абрадаваў выдадзенай у 2011 годзе рэдакцыяй "Беларускі кнігазбор" кнігай "Толькі б яўрэі былі…" "Яе склалі артыкулы і ўспаміны пра знаных дзеячоў яўрэйскай культуры, пераклады паэзіі Х.Н.Бяліка, М.Надзіра, М.Шагала, І.Харыка, Х.Мальцінскага, Р.Рэлеса і многіх інш.". Ёсць у ёй таксама вершы, прысвечаныя яўрэйскім святыням, блізкім аўтару сябрам і калегам з ліку яўрэяў: Н.Кісліку, А.Дракахрусту, Я. і М. Серперам, В.Нікіфаровічу, Б.Забораву, Д.Сімановіч і інш.[1] У кнізе трапляюцца барадулінскія вершы, пры чытанні якіх да глыбокай роспачы развярэдзіцца душа не толькі яўрэя, але і заклапочанага невыносна цяжкім станам роднай мовы беларуса:

Апошнія паэты яўрэйскія.
Каму чытаць ім вершы свае на ідыш?

[1] Новы Час. 2011. 25 лістапада. С. 23.

Ці ветру ў полі,
Ці дрэву, якому журба дагінае голле?
Верш кожны на ідыш,
Як той падкідыш –
Прылашчыць няма каму.

* * *

Ніхто не можа даць гарантыі, што сучаснае яўрэйскае нацыянальна-культурнае адраджэнне з цягам часу прыгорне да сябе ўсіх творцаў гэтай этнічнай супольнасці Беларусі. Хтосьці з іх – а мо і бальшыня? – абавязкова будзе абрабляць ніву і чужой культуры. Творчая яўрэйская інтэлігенцыя, як і яе калегі ўсіх іншых нацыянальнасцяў, вызначаецца вялікім прагматызмам. Яна, за рэдкім выключэннем, ніколі не будзе працаваць на культуру, у якой адсутнічае перспектыва для захавання, далейшага развіцця. На вялікі жаль, з такой непажаданай з'явай беларуская нацыянальная культура вельмі часта сутыкалася. Ёй і зараз сур'ёзна пагражае сыход у нябыт з-за амаль поўнага выцяснення рускай мовай беларускага слова з усіх сфераў жыццядзейнасці чалавека. У часы Рэчы Паспалітай яўрэйскія творцы, пакідаючы родную культурную ніву (заўважу, не ў масавым парадку), аддавалі свой талент пераважна культуры польскага народа, як асноўнага этнасу гэтай федэратыўнай дзяржавы, з канца XVIII ст. і пасёння – рускага. Працаваць у рэчышчы беларускай нацыянальнай культуры, яшчэ раз паўтаруся, вельмі мала хто жадае з яўрэяў з-за яе гаротнага стану ў родным доме, вялікага сумнення датычна магчымага выжывання ў няспыннай канкурэнцыі з магутнай, шырока распаўсюджанай у нашым краі рускай культурай.

Пры ўсіх экстрэмальных умовах далейшага існавання беларускай культуры, было б заўчасным ужо сёння ладзіць па ёй хаўтуры. Як і ўсе іншыя культуры, яна таксама здольная да выжывання і ў самых экстрэмальных варунках, прыкладаў чаму дае вельмі шмат наша айчынная гісторыя. Дый сучаснасць.

Не з учарашняга дня, а добрыя два стагоддзі з гакам яўрэйскае культурна-прафесійнае жыццё на Беларусі будавалася, развівалася ў спалучэнні з рускай культурна-моўнай асновай. Да гэтага вымушалі яго самі абставіны: царскія ўлады рабілі ўсё, каб у культурна-моўным плане Беларусь нічым не адрознівалася ад цэнтральных губерняў Расійскай імперыі. Карацей кажучы, мэтанакіравана праводзілі ў нас палітыку русіфікацыі, што не магло не закрануць і яўрэйскую супольнасць. На нейкі час – і то не ў поўным аб'ёме – яна магла саступіць з рускай культурна-моўнай асновы толькі ў гады міжваеннай беларусізацыі. У непараўнальна большай ступені адышла ад гэтай неадчэпнай асновы тая частка яўрэйскага насельніцтва заходняй тэрыторыі Беларусі, што ў міжваенныя гады знаходзілася пад польскім акупацыйным рэжымам. Не сакрэт, што яшчэ ніколі так моцна не інтэграваліся яўрэйскія культурна-моўныя каштоўнасці ў рускія такога роду адпаведнікі, як ад моманту заканчэння Другой сусветнай вайны, прычым да такой ступені, што многія яўрэі і па дакументах і публічна называлі сябе рускімі ў вялікую падзяку гэтаму народу за тое, што з ласкі яго ўладаў пазбавіліся свайго нацыянальнага "Я". "Сяброўства" яўрэяў з рускім культурна-моўнымі пачаткамі працягваецца і ва ўмовах суверэннай Рэспублікі Беларусь, што толькі ўзмацняе і без таго надзвычай трывалыя пазіцыі рускага элементу ў яе культурным жыцці. Як бачым, карысці для тытульнай нацыі ад такога "сяброўства" ні на міліграм. Яўрэі, як мы ведаем з розных крыніц, умеюць знаходзіць выйсце з любога, нават самага складанага, здавалася б, зусім безнадзейнага становішча, пра што пераканаўча сведчыць легендарны выхад з Егіпецкага палону. Мне здаецца, ім падуладна было б на працягу не такога ўжо і доўгага часу замяніць і рускія культурна-моўныя асновы на беларускія, што на ўсе сто працэнтаў адпавядала б карэнным нацыянальным інтарэсам нашай краіны. Не пакідаю веры, што такое рана ці позна адбудзецца. Гэта толькі калі, не дай бог, русіфікацыя цалкам праглыне маю дарагую Бацькаўшчыну, у яўрэяў прападзе практычная неабходнасць лічыцца з яе нацыяна-

льна-культурнымі традыцыямі. Поўнае запанаванне рускай культуры на Беларусі, што будзе немінучым канцом існавання апошняй як краіны з самабытным духоўным жыццём, нічым не пагражае толькі яе рускай нацыянальнай супольнасці, усе ж астатнія, у тым ліку і яўрэйскую, праглыне ненажэрная русіфікацыя. Не даць здзейсніцца такой катастрофе яшчэ ёсць магчымасць. Матэрыялізаваць жа яе ўдасца толькі праз актыўную нацыянальна стваральную дзейнасць тытульнага народа Беларусі і ўсіх яе нярускіх супольнасцяў.

Сучаснае яўрэйскае нацыянальна-культурнае адраджэнне – з'ва ва ўсіх дачыненнях архіпрагрэсіўная, бо гэта надае духоўнаму жыццю Беларусі так жаданую і патрэбную ёй культурную разнастайнасць. Як і ва ўсе часы, так і сёння, прысутнасць яўрэйскай культуры на беларускай зямлі ні на ёту не вядзе да асіміляцыі яе тытульнага насельніцтва. А гэта вельмі важны фактар, бо калі якая-небудзь занесеная звонку культура заганяе на задворкі, нішчыць мясцовыя духоўныя каштоўнасці, то лепш было б яе зусім не бачыць на роднай зямлі. Не буду ўтойваць ад чытача, мне, як чалавеку вельмі заклапочанаму катастрафічнымі наступствамі сучаснай русіфікапцыі беларускай культуры, хацелася б, каб яўрэйскае нацыянальна-культурнае адраджэнне адбывалася не на яўрэйска-рускай культурна-моўнай аснове, а на яўрэйска-беларускай моўнай аснове. Зараз у культуры Беларусі такое магутнае, таўшчэразнае рускае напластаванне, што нават самае мізэрнае падсілкаванне яго яўрэямі, татарамі, малдаванамі … толькі падлівае газы ў агонь. Дарэчы, ва ўсіх створаных на постсавецкай прасторы незалежных краінах, акрамя Рэспублікі Беларусь, іх этнічныя супольнасці ў сваім культурным развіцці ўласна нацыянальнае састыкоўваюць не з рускімі, а мясцовымі культурна-моўнымі традыцыямі, што дапамагае паспяховаму пераадоленню цяжкіх вынікаў колішняй савецкай русіфікацыі і не дапускае яе аднаўлення на сучасным этапе, хаця пэўныя сілы прыкладаюць да гэтага немалыя намаганні, выкарыстоўваючы і патэнцыял нацыянальных меншыняў.

Наперад дужа цяжка прадбачыць далейшы ход нацыянальна-культурнага адраджэння і беларусаў, і яўрэяў, і татараў, і іншых этнічных супольнасцяў Рэспублікі Беларусь. Гэта архіскладаная праблема для ўсіх народаў, і поспех звычайна дамагаўся толькі ў тых выпадках, калі непасрэдны актыўны ўдзел у яе развязванні брала сама дзяржава. За нашай пакуль што такое не назіраецца. Асабліва вялікія незаменныя страты даводзіцца несці з-за адсутнасці ў беларусаў і яўрэяў дзяржаўнай сістэмы народнай адукацыі. Навучаць, выхоўваць маладыя пакаленні ў чужой мове – г. зн. узгадоўваць іх зусім нядольнымі жыць паводле сваіх прыродных нацыянальна-культурных традыцый. Начыста адарваная ад іх моладзь не можа з'яўляцца носьбітам нацыянальнага "Я" і абавязкова стане нікчэмнай ахвярай асіміляцыі з боку таго народа, мову якога яна засвоіла падчас вучобы, паўсядзённа карыстаецца ёю. Русіфікацыя, віну за якую ніяк нельга здымаць з дзяржаўных структур, так раз'ела этнічнае ядро і беларусаў, і яўрэяў, што і адны, і другія практычна ўжо могуць падымаць рукі ўгору з ганебным воклічам "Здаёмся!"

І ўсё ж пахвальна, што пакуль не надышоў апошні дзень Пампеі для беларусаў, яўрэяў, і яны хоць штосьці робяць дзеля свайго выратавання ад этнічнага вымірання. Дзе-нідзе ў яўрэяў справы ідуць лепш, чым у беларусаў. Такое лёгка зразумець: імкненне апошніх да нацыянальна-культурнага жыцця з тым, каб у ім непадзельна панаваў беларускі элемент, зусім не адпавядае афіцыйнаму курсу ўладаў, скіраванаму на стварэнне агульнай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы, для якой цалкам непатрэбнымі будуць ні беларуская нацыянальная культура, ні беларуская мова. Яўрэям жа з такім фактарам зусім не даводзіцца мець справу, бо сваёй нацыянальнай культурай, да таго яшчэ моцна інтэграванай у рускую, яны ніколькі не будуць перашкаджаць палітыкам, ідэолагам расійска-беларускай дзяржавы, яе афіцыйнай праваслаўнай царкве зліць у адзін народ рускіх і беларусаў, над чым б'юцца зацятыя русіфікатары яшчэ з канца XVIII стагоддзя. У святле сказанага ў сучаснага яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэн-

ня ўмовы куды лепшыя, чым у беларускага. Дзеля паспяховага дасягнення гэтай святой мэты вельмі важна глыбока і ўсебакова паказваць найбагацейшыя дасягненні беларускіх яўрэяў як на абранай у часы вялікага князя літоўскага Вітаўта тэрыторыі, так і па-за яе межамі.

Можа я памылюся – і хай бы яно сапраўды было так, – але мне здаецца, што на сёння ў яўрэйскай супольнасці няма магчымасці самой весці маштабныя даследаванні яўрэйскай культуры Беларусі. Наўрад ці на такое пойдзе якая-небудзь з навуковых структур дзяржавы Ізраіль, хаця гэта ўяўляе для яго найвялікшую каштоўнасць. Пры сучасных у нас фінансавых цяжкасцях ды плюс яшчэ прарускай культурна-моўнай палітыцы афіцыйных уладаў наўрад ці возмецца за распрацоўку дадзенай праблемы, нягледзячы на ўсю яе актуальнасць, якая-небудзь з дзяржаўных навуковых установ Беларусі. Калі занятыя ў іх навукоўцы не дамовяцца са сваімі калегамі з Ізраіля пра супольнае правядзенне даследаванняў па яўрэйскай культуры Беларусі, што крайне важна і для яе, хацелася б, каб гэтая праца ажыццяўлялася хоць прыватным чынам, як гэта многімі робіцца пасёння. Ёсць прамы сэнс ключавым пытанням разглядаенай праблемы прысвячаць кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Не існуе важкіх прычын, каб заганяць яе на задворкі гістарычнай навукі. Вывучаць яўрэйскую культуру на Беларусі, бадай больш важна для яе самой, чым для яе яўрэяў і яўрэйскай супольнасці свету, бо пра іх і апошнюю ён ведае вельмі многае. А Беларусь жа ім найчасцей успрымаецца, як нешта не досыць важнае з-за сваёй польскай і рускай апратак. Але ж багата тут чаго было і самабытнага яўрэйскага. І што надзвычай важна, у адрозненне ад польскага і рускага, яно, яшчэ раз падкрэслю, не перашкаджала развіццю, не дэфармавала нацыянальных асноў самабытна-беларускага, чаго ніяк не скажаш пра польскі і рускі фактары. Самае негатыўнае, што зыходзіла ад першага і другога – гэта поўнае адмаўленне існавання ў самой прыродзе адмысловай беларускай культуры і, значыцца, саміх беларусаў. Для адных яны былі палякамі, для другіх – рускімі, што яшчэ і пасёння не пераадолена зна-

чнай часткай этнічных беларусаў, чаму ўсяляк садзейнічаюць праваслаўная царква, за рэдкім выключэннем, каталіцкі касцёл.

Ступень маёй дасведчанасці ў архіскладаных пытаннях сучаснага нацыянальнага жыцця на Беларусі дазваляе меркаваць, што тут яшчэ не ўсё страчана. Але ў яўрэяў, як і ва ўсіх іншых нацыянальных меншыняў Беларусі (па вядомых прычынах руская сюды не ўключаецца), а таксама ў яе карэннага насельніцтва, пэўны шанец на этнічнае выжыванне з'явіцца толькі тады, калі яны супольна ўздымуцца на барацьбу з русіфікацыяй. А на такі крок трэба ісці, хаця, думаю, многім яўрэям будзе не простым адважыцца на гэта, прачытаўшы наступныя цалкам праўдзівыя словы Якава Басіна: "Ва ўсялякім выпадку, працэс акультурацыі, гэта значыць страта яўрэямі сваёй мовы, культуры і нацыянальнай самабытнасці практычна ўжо завершаны".[1] "Чаго ж цяпер варушыцца," – скажуць многія.

Суцяшае, што хоць у гэтым няма ні на грам віны беларускамоўных беларусаў. Галоўныя віноўнікі тут далёкія ад нацыянальных інтарэсаў усіх нярускіх народаў палітычныя рэжымы царскай Расіі, СССР, якім сёння ні ў чым не ўступае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. І тым не менш, не пабаюся сказаць, што праблема этнічнага выжывання яе тытульнага народа у дзясяткі разоў больш складаная, чым у беларускіх яўрэяў. На іх шчасце, яны маюць гістарычную радзіму Ізраіль, дзе ўсё нацыянальнае жыццё дзяржаўнага народа, за рэдкім выключэннем, будуецца паводле ўласных культурна-моўных традыцый. Моцныя пазіцыі ў ім рускага фактару, не сумняваюся, носяць часовы характар. Наяўнасць такой дзяржавы добра падсілкоўвае этнічныя павадзіны беларускіх яўрэяў, сёе-тое перападае ім і з фінансаў.

Пакідаючы ў 70-я – першую палову 80-х гадоў мінулага стагоддзя Беларусь, бадай, мала хто з яўрэяў думаў, што надыдзе час, калі іх супляменнікі атрымаюць шырокую магчымасць весці ў адкрытую змаганне за сваё этнічнае выжыванне. Таго і глядзі, што прадчуваючы такое, хтосьці

[1] Гражданское достоинство. 2006. №1. С. 4.

мог і не паддацца на самавыгнанне, нягледзячы на заканамернае жаданне атабарыцца на гістарычнай радзіме свайго народа – у Ізраілі. Трапіла іх сюды нямала. Бальшыню задавальняе жыццё на запаветным месцы, але і Беларусь не ўсімі забываецца. Хаця і крайне рэдка, але здараецца і такое, што хтосьці з беларускіх яўрэяў, дзясяткі гадоў пражыўшы ў той ці іншай краіне, у т. л. і ў Ізраілі, затым вяртаецца туды, дзе пахаваны яго бацькі, дзе нардзіўся сам. Звычайна вяртаюцца тыя, хто ў мінулым быў арганічна інтэграваны ў беларускія нацыянальна-культурныя традыцыі, бо зараз такія яўрэйскія традыцыі з-за суцэльнага абрусення не маюць колішняй вялікай прыцягальнасці. Без асаблівага смутку развітаўся з Ізраілем равін Ігаэл Йегудзі (ураджэнец Мінска), які прыехаў туды ў 19-гадовым узросце і пражыў там 30 гадоў. Паводле яго слоў ён увесь час, асабліва ў апошнія 15–17 гадоў жыцця ў Ізраілі, цікавіўся, што адбывалася ў Беларусі і з 2006 года штогод прыязджаў сюды. Карэспадэнту газеты “Звязда” І.Йегудзі сказаў, што Беларусь заўсёды была дарагой яму краінай, што з дзяцінства любіў беларускую мову. Вывучаў яе – працягваў далей гаворку з карэспадэнтам – “у 24-й мінскай школе, якую наведвалі дзеткі сталічнай эліты. З 30 вучняў на ўроках беларускай мовы заставалася 10. А выкладала яе пажылая настаўніца Фрыда Аронаўна, якая вельмі прыгожа размаўляла па-беларуску. Да ўсяго, разумееце, дачка якога народа яна была. І вось я, дзеля салідарнасці з абодвума народамі, заўсёды заставаўся на гэтыя ўрокі.” Як нам неставала такіх асобаў тады і нестае сёння! А ад іх жа так у многім залежыць лёс і беларусаў, і яўрэяў нашае краіны. Сказанага вышэй, лічу, дастаткова, каб зразумець, чаму пасля 30-гадовага знаходжання І.Йегудзі ў Ізраілі яго завабіла вярнуцца ў Беларусь, якую ён называе не інакш, як “унікальнай краінай, а беларусаў – унікальным народам”. Калі ў лістападзе 2011 года ў Мінску праводзілася прысвечаная праваслаўна-каталіцкаму дыялогу канферэнцыя, на яе запрасілі І.Йегудзі, які выступіў “з прапановай супра-

цоўніцтва ў абароне супольных для ўсходнеславянскіх хрысціян і іудзееў духоўных каштоўнасцяў."[1]

Ідэолагі, кіраўнікі сучаснага яўрэйскага нацыянальна-культурнага адраджэння справядліва наракаюць, што не маюць падтрымкі для яго ад беларускай дзяржавы. А што, яна больш сродкаў адпускае Беларускаму народнаму фронту "Адраджэньне", Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны, грамадскаму аб'яднанню Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і іншым? Умовы іх працы непараўнальна горшыя, чым у яўрэйскіх арганізацыях адраджэнскага характару. У нас найбольш за ўсё сродкаў дзяржава адпускае на функцыянаванне амаль цалкам рускамоўных адукацыі, культуры, афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, што дазваляе ім досыць эфектыўна працаваць на карысць даўно абрыдлай здаровым сілам тытульнага народа, многім этнічным супольнасцям краіны русіфікацыі. Няма аніякіх падстаў лічыць, што ад яе ў бліжэйшы час адмовяцца дашчэнту зрусіфікаваны дзяржаўны чыноўніцкі апарат, якому не патрэбна аніякая іншая культура, як толькі рускамоўная, ніякая іншая мова, як руская. І ў Беларусі ёсць каму падтрымліваць такую дэструктыўную, надзвычай шкодную палітыку як з боку шматлікіх колаў тытульнай нацыі, так і этнічных супольнасцяў, не выключаючы яўрэйскай.

[1] Звязда. 2011. 20 лістапада.

## 5. На ўзаемную карысць яўрэяў і беларусаў

У сваім далёка не манаграфічным даследаванні я змог толькі ў самых агульных рысах штосьці сказаць пра незлічонае багацце яўрэйскай культуры Беларусі, якое з такой зайздроснай лёгкасцю абміналі ў сваіх працах нашыя навукоўцы. Марным быў бы занятак паспрабаваць штосьці знайсці пра яе ў выдадзенай у 1975 годзе пяцітомнай “Гісторыі Беларускай ССР”, у якой падзеі разгледжаны з самых старажытных часоў. Не палічылі патрэбным даць адмысловы параграф яўрэйскай культуры ў аб’ёмістым другім томе (55,7 д. а.) “Гісторыі Беларусі. Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага” (Мн., 2008) шасцітомнай “Гісторыі Беларусі”, хаця ў той час яна (яўрэйская кльтура) ужо добра заявіла пра сябе. Такі параграф адсутнічае і ў трэцім томе “Гісторыі Беларусі”, прысвечаным перыяду Рэчы Паспалітай. Не адшукаць яго ў чацвёртым томе “Гісторыі Беларусі”, дзе гаворка ідзе пра часы знаходжання нашага роднага краю пад уладай Расійскай імперыі. Інакш не пажадалі паставіцца да яўрэйскай культуры Беларусі ў тамах, прысвечаных савецкаму і постсавецкаму перыядам у гісторыі Беларусі. У іх таксама не знайшлі месца не толькі параграфу, але і ліхтарыку для яўрэйскай культуры. Напачатку ў стаўленні да гэтай праблемы грашыў і аўтар дадзенай публікацыі. У сумеснай з Уладзімірам Навіцкім кнізе “Гісторыя культуры Беларусі” (выходзіла ў 1996, 1997 і 2008 гг.) яўрэйская культура не выдзелена паасобна ні параграфам, ні ліхтарыкам. Пакрыўдзіў яе я і ў кнізе “Гісторыя культуры Беларусі са старажытных часоў да 1569 г.” (2005), а ў публікацыі “Гісторыя культуры Беларусі ў перыяд Рэчы Паспалітай (1569–1795 гг.)” (2006 г.) даюцца сціслыя звесткі толькі пра культавыя пабудовы іудзеяў. Больш падрабязна сказана пра яўрэйскую культуру ў маёй кнізе “Гісторыя культуры Беларусі пад уладай Расійскай імперыі (канец XVIII ст. – 1917 г.)” (2007 г.) у яе параграфе “Культурныя ўзаемадачыненні беларускага народа з нацыянальнымі мяншынямі”. Духоўнае жыццё яўрэяў разглядаецца ў шэра-

гу параграфаў майго даследавання “Гісторыя культуры Беларусі (1917 – чэрвень 1941 г.)” (2007 г.).

Праблема яўрэйскай культуры Беларусі застаецца як след недаследаванай і пасля выхаду цікавых і змястоўных прац: Скир Арон. Еврейская духовная культура в Беларуси (1995 г.), Иоффе Эмануил. Страницы истории евреев Беларуси (1996 г.), Смиловицкий Леонид. Евреи Беларуси. Из нашей общей истории. 1905 – 1953 (1999 г.), Релес Гирш. Еврейские советские писатели Белоруссии (так напісана на вокладцы. – *Л.Л.*), Воспоминания. (2003 г.), Басин Яков. Большевизм и евреи: Белоруссия (так напісана на вокладцы. – Л.Л.) 1920-е, Исторические очерки (2008 г.), з’яўлення ў свет у 1997–2001 гг. шасці зборнікаў “Евреи Беларуси. История и культура”, апублікавання шэрагу артыкулаў па дадзенай тэме ў трох выпусках зборніка навуковых прац “Беларусь у XX стагоддзі” і інш. Без манаграфічнага паказу, прычым у некалькіх тамах, тут не абысціся, бо ёсць што і дзеля чаго глыбока і ўсебакова асвятліць яўрэйскую культуру Беларусі. Ад гэтага яўрэям дадасца шмат гонару, а Беларусі – вядомасці.

Зразумела, даследчыкам перш за ўсё трэба сканцэнтраваць сваю ўвагу на раскрыцці стану, развіцці яўрэйскай культуры непасрэдна на самой тэрыторыі Беларусі. І тут, як вынікае нават з маёй без усялякіх прэтэнзій на штосьці сур’ёзнае публікацыі, ёсць што паказаць, ёсць чым ганарыцца. Але так гістарычна склалася, што яўрэі ў нашым краі працавалі яшчэ на беларускую, польскую і рускую культуры. Праца на першую ва ўсіх выпадках можа разглядацца, як заканамерная з’ява, характарызавацца толькі з пазітыўнага боку. Калі ж у свой час яўрэі, жывучы на тэрыторыі Беларусі, удзельнічалі ў развіцці польскай культуры і калі апошняя свядома выкарыстоўвалася палітычнымі структурамі, каталіцкім касцёлам, інтэлігентнымі коламі ў інтарэсах паланізацыі, – гэтаму ўжо ніяк нельга даць станоўчай адзнакі. З такім жа крытэрыем трэба падыходзіць і да ацэнкі працы яўрэяў на ніве рускай культуры Беларусі, асабліва ў час, калі яе прагрэсіўныя, не адарваныя ад роднай глебы сілы з галавой акунуліся ў вір нацыянальна-

культурнага адраджэння. З прычыны таго, што ўдзел яўрэяў у развіцці польскай і рускай культур Беларусі ў бальшыні выпадкаў меў негатыўныя для яе тытульнага насельніцтва наступствы, зусім не вынікае, што ён не заслугоўвае быць раскрытым на старонках прысвечанай гэтай этнічнай супольнасці літаратуры. Заслугоўвае, хаця яўрэі зрабілі досыць важны ўклад ва ўзбагачэнне духоўных каштоўнасцяў польскай і рускай культур на вялікую шкоду сабе, але яшчэ больш беларусам.

Мой погляд на неабходнасць пры даследаванні гісторыі культуры Беларусі ў абавязковым парадку ўключаць яўрэйскі аспект цалкам пераклікаецца з тым, што сказаў пра ролю апошняга добра дасведчаны ў яўрэйскай праблематыцы сучасны навуковец Яўген Анішчанка: “…яўрэйскую тэматыку нельга выключаць, калі мы хочам панарамна, аб’ектыўна разабрацца ў тым, што адбывалася на Беларусі на рубяжы стагоддзяў, пачынаючы з 1772 года”.[1] Гэтаму году нададзена такое значэнне таму, што ад яго Я.Анішчанка пачынаў сваё гістарычнае даследаванне. Калі ж бы ён за адпраўны пункт сваёй працы прыняў больш ранні перыяд, дык, не сумняваюся, увагу да яўрэйскага аспекту пачаў бы, па вядомых прычынах, скіроўваць ад часу прыходу да ўлады вялікага князя літоўскага Вітаўта.

Было б зусім неапраўданым пры вызначэнні сапраўднай ролі, месца Беларусі ў культурным жыцці цывілізаванага свету не паказаць, што дзеля апошняга далі яе яўрэі, эміграваўшы ў іншыя краіны. Не будзе і памылкай ці якой-небудзь экспансіяй, калі на рахунак Беларусі запішам творчыя дасягненні першага-другога пакаленняў такіх яўрэяў-эмігрантаў, асабліва калі яны не забыліся, памятаюць, што менавіта на яе зямлі карані іх бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Дарэчы, такія эмігранты трапляюцца і іх зацікаўленасць да Беларусі немалая. У якасці прыкладу можна назваць Джуда (Іуда) Ротстэйна (Ратшэйна) з амерыканскага горада Мічыгана. Будучы студэнтам мясцовага ўніверсітэта, ён у верасні 2005 года наведаў нашую краіну, а ў сакавіку

[1] З інтэрв’ю “Краязнаўчай газеце”. 2004. № 19. Май.

наступнага года апублікаваў у інтэрнэце кніжку “Падарожжа ў Беларусь”. Ва ўступе да яе ён выказаў вельмі слушную думку: “Мне здаецца натуральным, што зямля, якая ўзгадавала нашых продкаў, праз сто гадоў можа паклікаць да сябе аднаго з іх нашчадкаў”.[1] Аўтара згаданай кнігі больш за ўсё цікавіў Талачын, адкуль у 1905 годзе яго прадзед Якуб Ратштэйн у 27-гадовым узросце выехаў у ЗША, дзе стварыў сям’ю і меў пяцёра дзяцей.

Сама прысутнасць яўрэйскай культуры на беларускай зямлі, удзел яе яўрэяў у культурным працэсе іншых краін, хоць і не адназначныя паміж сабою з’явы, іх заўжды трэба мець на ўвазе, паказваючы месца нашага краю ў духоўным жыцці сусветнай цывілізацыі. Апускаючы штосьці з названых напрамкаў, мы ніколі ўсебакова, аб’ектыўна не вызначым гэтае месца. Да таго ж пры такім падыходзе мы рызыкуем істотна прынізіць аўтарытэт нашай Радзімы ў вачах іншых народаў. Такога падыходу мы не павінны трымацца і тады, калі пажадаем паказаць ролю дзеячоў рускай, польскай, літоўскай, татарскай і культур сваіх іншых нацыянальных меншыняў, паўтаруся, не забываючы адзначыць і іх цалкам верагоднае дэструктыўнае ўздзеянне некаторых з іх на беларускую культуру ў плане яе дэнацыяналізацыі. Асабліва гэта датычыць польскай і рускай культур, якім няма роўных па маштабах размывання, дэфармацыі нацыянальных асноў духоўнага жыцця беларускага народа. Апошняя з названых культур і пасёння ўяўляе сабою сур’ёзную пагрозу для захавання яго этнакультурнай самабытнасці, уносіць разлад у беларускую нацыянальную ідэнтычнасць.

Для даследчыкаў яўрэйскай культуры Беларусі ніколі не будзе складаным паказаць яе па-сапраўднаму сур’ёзныя дасягненні на ўласнай ніве, на нівах беларускай, польскай, рускай і іншых культур гэтага адметнага ў многім еўрапейскага рэгіёна, а таксама замежных краін, не выключаючы і самых развітых з іх. Хіба ж не прыбавіць да аўтарытэту і славы Беларусі ў цывілізаваным свеце, што яе родам з мястэчка Лужкі на Глыбоччыне яўрэйскі сын Лазар Пераль-

[1] Краязнаўчая газета. 2007. № 7. Люты.

ман (у Палесціне – Бен-Іегуда) больш за сто гадоў таму вярнуў да жыцця забытую старажытнаяўрэйскую мову іўрыт? Першымі яе пачулі навучэнцы іерусалімскай школы менавіта з вуснаў нашага земляка. І не толькі пачулі, але многія яшчэ і палюбілі. Аднак марнымі сталіся б спробы адшукаць яго імя ў айчынных энцыклапедычных даведніках, шматтомных гісторыях Беларусі, падручніках па нацыянальнай гісторыі для агульнаадукацыйных школ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў. Ці ж не яскравы гэта прыклад нашага “культурнага самаабкрадання”? Шкада, што такіх прыкладаў у нас даволі багата і невядома, калі іх лік пачне скарачацца. Дый ці пачне, калі амаль усе сілы творчай інтэлігенцыі Беларусі кінуліся на пашырэнне і развіццё тут рускай культуры, асабліва яе рускамоўных пластоў. Сёння іўрыт, да вяртання якога з небыцця прыклаў намаганні беларускі яўрэй, з’яўляецца адной адзінай дзяржаўнай мовай Ізраіля, неабмежавана выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця гэтай краіны.

І далей. Ці ж Беларусь не мае права не ганарыцца, што на яе зямлі ў вёсцы Вішнева пад Валожынам у 1923 годзе нарадзіўся былы прэм’ер-міністр Ізраіля, а цяпер яго прэзідэнт Шымон Перэс. Актыўная палітычная дзейнасць нашага земляка не з’яўляецца сур’ёзнай перашкодай яму для выяўлення сваіх паэтычных здольнасцяў. На некаторыя яго вершы напісаны песні. Мо надыдзе час, што іх заспяваюць і беларускія яўрэі: аўтарам жа з’яўляецца ўраджэнец нашага краю.

У зусім верагодную ўжо для недалёкай будучыні кнігу пра яўрэйскую культуру Беларусі будзе настойліва “прасіцца” прыпісаны да рускай культуры графік і жывапісец Меіер Аксельрод (родам з Маладзечна, брат вядомага ў міжваеннай Беларусі яўрэйскага пісьменніка Зэліка Аксельрода). Праца па гісторыі яўрэйскай культуры Беларусі многае страціць, калі чытач не знойдзе на яе старонках падрабязных звестак пра такіх нашых землякоў, вядомых савецкіх кампазітараў, як Марк Фрадкін, Эдуард Калманоўскі. Аўтарству першага з названых належаць такія папулярныя і

пасёння песні (свядома прыводжу толькі па тры), як “А годы летят”, “Уведу тебя я в тундру”, “Течет река Волга”, другога – “Я люблю тебя, жизнь”, “Мы выбираем, нас выбирают”, “Хотят ли руские войны?” Не раз заяўляў пра свой радавод з Беларусі, канкрэтна – па маці з Віцебшчыны – лідэр вядомага не толькі ў Расійскай Федэрацыі гурта “Машина времени” Андрэй Макарэвіч. Не забываецца, любіць свой Магілёў папулярны ў Расійскай Федэрацыі спявак Барыс Майсееў.

У людзей з недэфармаваным пачуццём любові да сваёй Бацькаўшчыны яно захоўваецца да канца жыцця незалежна ні ад часу, ні адлегласці ад яе абранага для сябе новага прыстанішча. Вось што пра гэта напісаў ураджэнец Маладзечна Марат Баскін: “Мае сябры, я ўспамінаю іх штодня, і радуюся добрым весткам ад іх. Так атрымалася, што тут, у Амерыцы, я пішу па-руску, але ў лістах да сяброў я вяртаюся да беларускай мовы. Я ж на ёй пісаў свае першыя творы, на ёй гаварылі мае суседзі, на ёй я чытаў першыя кніжкі, і бацька мой, хоць і вучыўся напачатку ў яўрэйскай школе, ператвораную ў беларускую дзесьці пасля пятага класа, першым прачытаў мне “Хлопчыка і лётчыка” на памяць па-беларуску”.[1]

Настальгія па Беларусі выклікаецца ў яўрэяў-эмігрантаў не толькі любоўю да яе роднай мовы, нацыянальнай мастацкай літаратуры. У далёкай чужыне ніяк не забываюцца і нашыя адметныя прыгожыя краявіды, якіх, на вялікі жаль, з гадамі становіцца ўсё менш і менш. Ці не таму ўсіх хваляў эміграцыі беларускія яўрэйскія мастакі, у тым ліку і сучаснай, ніяк не абыходзяцца без паказу на сваіх палотнах самых дарагіх і запамінальных прыродных сюжэтаў краіны нараджэння? Такое ў поўнай меры ўласціва ўраджэнцу Мінска Ізраілю Радунскаму. У Амерыку эміграваў ў 1990 годзе. Калі ўлетку 2004 года ў Чыкага ладзілася выстава ў гонар яго 75-гадовага юбілею, на ёй дэманстраваліся такія яго карціны: “Нарач. Старыя хаты”, “Світанак на Палессі”, “Возера Нарач. Раніца”, “Беларускі лес”. Па яго карціне

[1] Літаратура і мастацтва. 2007. 2 сакавіка. С. 6.

“Дарога ў лесе” кожны з наведвальнікаў разумеў, што цягнецца яна не па амерыканскай, а па беларускай зямлі.

Ці вось такі прыклад паважлівага стаўлення беларускіх яўрэйскіх эмігрантаў да нашай зямлі. Размова пойдзе пра тых, што атабарыліся ў Ізраілі. Невялікая група з іх пажадала ў час турыстычнай экскурсіі наведаць Мядзельшчыну. Гасцей ахвотна прыняў самадзейны “калектыў “Веся-лухі” Старамядзельскага дома культуры. Артысты ў народных строях прапанавалі турыстам развучыць беларускі танец. І, дарэчы, у якасці сюрпрызу паказалі турыстам яўрэйскі танец, які ў даваенны час танчылі ў Мядзельскім краі.

– Для нас такая сустрэча – вялікі сюрпрыз, – выказваліся яны. – Самае вялікае задавальненне ад паездкі атрымалі тут. Бо мы ўвесь час падарожнічалі з сумнай місіяй: наведвалі мемарыялы і могілкі. А тут пачулі прыгожыя песні, паглядзелі народныя танцы”.[1]

Радуюць звесткі – хоць і не вельмі шматлікія – пра шчырае сяброўскае супрацоўніцтва беларускіх і яўрэйскіх творцаў, што ў пошуках шчасця пакінулі радзіму і жывуць цяпер у іншых краінах. Добры прыклад у гэтым падае амерыканскі горад Чыкага. Калі тут 1 сакавіка 2010 года ў вялікай зале Цэнтра для людзей сталага веку (вось бы ў Мінску – і не толькі – мець такі!) адкрылася мастацкая выстава, на ёй экспанаваліся каля 40 твораў адзінаццаці беларускіх і яўрэйскіх (ураджэнцаў Беларусі) мастакоў: Хаіма Ліўшыца, Юзафа Пучынскага, Ізраіля Радунскага, Данііла Цырліна, Леаніда Асенняга, Міхаіла Ліўшыца, Анатоля Упарта і інш. Найбольш за ўсіх паклапаціліся пра арганізацыю выставы Барыс Цынман, Ванкарэм Нікіфаровіч, старшыня беларускага зямляцтва ў Чыкага Іосіф Кацман, мастак Ізраіль Радунскі. У час наладжанага канцэрта гучалі беларускія народныя песні, песні з рэпертуару славутых “Песняроў” і аўтарскія песні паэта і кампазітара Міхася Клейнера, а таксама кампазітара, паэта, рэжысёра і выканаўцы Барыса Насоўскага”.[2] Такому нельга не пазайздросціць нават і самому Мінску. Не трэба шмат прыкладаў,

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 5 жніўня. С. 24.
[2] Беларусы ў свеце. 2010. № 3 (сакавік).

бо і прыведзеных дастаткова для пастаноўкі ў практычнай плоскаці пытання аб стварэнні пры грамадскім аб'яднанні "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" адмыслова-га яўрэйскага структурнага падраздзялення. З нацыяналь-ных мяншыняў беларускай метраполіі самую шматлікую дыяспару мае яўрэйская. Неабходнасць стварэння такога падраздзялення дыктуецца яшчэ і працяглым захаваннем яўрэямі трывалай памяці аб беларускай зямлі, бо на ёй не толькі прайшло жыццё многіх пакаленняў гэтага народа, але і адбылося ў гады фашысцкай акупацыі ў адной з самых жорсткіх формаў яго масавае знішчэнне.

Актуальнасць даследавання, напісання саліднай мана-графічнай працы ў двух-трох тамах па яўрэйскай культуры Беларусі ніколькі не ставіцца пад сумненне з-за няспыннага скарачэння яе актыўных і пасіўных носьбітаў і ўвогуле змяншэння колькасці яўрэяў на нашай зямлі.

Я цалкам пагаджаюся з меркавннямі вядомай сучас-най яўрэйскай нацыянальна-культурнай дзяячкі Інай Гера-сімавай, што "нават калі раптам у Беларусі не застанецца аніводнага яўрэя, усё роўна яўрэйскае жыццё назаўжды застанецца часткаю (так і хочацца дадаць: важнаю. – *Л.Л.*) гісторыі краіны і беларускага народа".[1] Ужываючы словы "яўрэйскае жыццё" Іна Герасімава, несумненна, уключала ў яго і яўрэйскую культуру. Не без болю ўспрымаю словы гэтага аўтара, калі яна піша пра ідышысцкую культуру Беларусі, як культуру, што адышла ў нябыт. І не ў малой ступені не без болю таму, што вельмі хвалююся, каб такі ж трагічны, бязлітасны лёс не напаткаў і маю родную беларускую культуру з-за трывалага ўсталявання і вялікай распаўсюджанасці ў нашай краіне рускай культуры. На яе карысць зараз у дзесяткі разоў больш працуе творчай інтэлігенцыі, чым на беларускую.

У такіх неспрыяльных умовах нельга разлічваць не толькі на росквіт, а нават і на захаванне беларускай нацыянальнай культуры. Пэўную ролю ў прадухіленні такой катастрофы ў дачыненні і да беларускай, і да яўрэйскай

---

[1] Авив. 2006. Март – апрель. С. 9.

культур Беларусі можа адыграць дасканалае веданне іх гісторыі, чым мы ўсё яшчэ не можам пахваліцца.

Добрая, праўдзівая літаратура па гісторыі культуры – гэта найвялікшы духоўны скарб любога народа, Аматары інтэрнэта не нахваляцца яго вынаходніцтвам, працай, забываючыся аднак, што ён стаў такім не ў малой ступені дзякуючы ўзятай з кніг інфармацыі. Пісаць кнігі сёння гэтак жа актуальна, як сто, дзвесце і болей гадоў таму. Сказанае мае прамое дачыненне і да гісторыі яўрэйскай культуры Беларусі. Публікацыі па такой праблеме патрэбны ёй самой, яе яўрэям і іх дыяспары. На шчасце, сёння яшчэ ёсць каму пісаць такія кнігі, каб спаўна задаволіць на іх попыт сучасных яўрэяў, дзяды, прадзеды, прапрадзеды … якіх жылі на нашай утульнай зямлі. Такой жа яна стала не сама па сабе, а дзякуючы чалавечаму фактару. Ці ж не гонар гэта для Беларусі, што яна пасля Галандыі і Польшчы знаходзіцца на трэцім месцы па колькасці выратаваных ад смерці ў час фашысцкай акупацыі яўрэяў. Больш за 700 прозвішчаў нашых жыхароў ўвекавечаны ў Іерусалімскім музеі ахвяраў Халакоста Яд Вашэм.

З манаграфічным асвятленнем укладу яўрэяў у сваю, а таксмама ў беларускую культуру і мо ніколькі не меншага іх унёску ў сусветную цывілізацыю ніяк нельга пазніцца, спасылаючыся на любога роду цяжкасці. Яны нішто ў параўнанні з тым, што Беларусь атрымае ў выніку раскрыцця гэтай адной з актуальных праблем айчыннай навукі. Магчымасці развязвання гэтай праблемы незаслужана звузіліся з-за закрыцця ўладамі ў 2004 годзе ў Мінску Міжнароднага гуманітарнага інстытута, у якім існавала кафедра іудаікі. Яе навукоўцы плённа займаліся распрацоўкай шырокага спектра пытанняў яўрэйскай тэматыкі і маглі б выступіць у ролі асноўнага выканаўца па даследаванні яўрэйскай культуры Беларусі. Ліквідацыя названага інстытута абцяжарвае распрацоўку праблемы гісторыі культуры беларускіх яўрэяў, але не з’яўляецца прычынай, каб ужо заўтра не ўзяцца за гэтую агульнанацыянальную справу. Вялікага поспеху тым, хто возьмецца за яе!

## Змест